

***Уладзіслаў Людвігавіч Котвіч** (1.04.1872 - 3.10.1944), ураджэнец в. Восава Лідскага павету, член-карэспандэнт Расійскай Акадэміі Навук (1922) па разрадзе ўсходняй славеснасці (маньчжуразнаўства і манголазнаўства), дзейны чалец польскай Акадэміі Ведаў (1927).*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 1 ( 57 )** **СТУДЗЕНЬ - САКАВІК** **2012 г.**


## *У НУМАРЫ:*



*На першай старонцы выкладкі крыжы з лідскіх прыватных калекцый.*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі**
**№ 907**
**ад 18.12.2009 г. выдадзена**
**Міністэрствам інфармацыі**
**Рэспублікі Беларусь**



Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**



**Наклад 300 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 1733**
**Часопіс падпісаны да друку 30.03.2012 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.09.2012 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 4900 руб.**
**індывід. 6 мес.- 9800 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**






# Памёр скульптар Уладзімір Жбанаў

16 студзеня 2012 года памёр Уладзімір Жбанаў - вядомы беларускі скульптор. Яму было 57 год. Ён некалькі дзён знаходзіўся ў рэанімацыі.

Уладзімір Жбанаў нарадзіўся 26 студзеня 1954 года ў Менску ў сям'і вайскоўца.

У 1973 годзе скончыў Менскую мастацкую вучэльню імя Глебава. У 1979-м скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (аддзяленне скульптуры мастацкага факультэта). Служыў у Афганістане. Пасля войска тры гады вучыўся ў творчых майстэрнях Акадэміі мастацтваў СССР (1983 год). 1985-1999 гады - выкладчык вышэйшай катэгорыі ў Менскай мастацкай вучэльні імя Глебава.

З 1993 года сябар Беларускага саюза мастакоў.

Ён аўтар наступных скульптур - "Дзяўчына на лаўцы" ў Міхайлаўскім скверы, "Курыльшчык" (тамсама), "Дзяўчынка з парасонам" (тамсама), "Фатограф", "Дама з сабачкам" (на Камароўскім рынку), "Экіпаж" (каля Ратушы), "Дойлід" (Плошча Незалежнасці), у Маладзечне на галоўнай плошчы стаіць яго скульптура "Залаты трыліснік".

У Лідзе ўсталяваны чатыры працы скульптара: "Сноп", прысвечаны працаўнікам сяла, "Камандзіровачны", "Лазеннік" і "Леў".



Бронзавы леў, які трымае тарчу з ключамі ад горада, стаў найпапулярным месцам як для гараджан, так і для прыезджых турыстаў. Помнік ураджаю - бронзавая скульптура снапа з надпісам "Беларускаму хлебу" знаходзіцца каля Палаца культуры. "Сноп" быў усталяваны да рэспубліканскіх "Дажынак", якія праходзілі ў Лідзе ў 2010 годзе. Палюбілася лідзянам і гасцям горада і скульптура "Камандзіровачны", усталяваная каля уваходу ў гасцініцу. Мужчына, апрануты ў стылі 70-х гадоў XX стагоддзя сядзіць на пацёртай валізцы. У адной руцэ ў яго карта горада, а другую ён працягвае мінакам, каб прывітацца. Лепшае месца для "Лазенніка" - гэта, вядома, каля гарадской лазні. Дарэчы, у лідскага "Лазенніка" ёсць "брат-блізнец", усталяваны ў Менску.











# КРОНІКА ЛІДЫ




У канцы 2011 года Лідскі фотамастак Ігар Пешахонаў выдаў свой сёмы фотаальбом "Маладзечанскі край".




У канцы 2011 года ў Лідзе выйшла кніга Мар'яны Магдалены Бломберг "Тэадор Матэвуш Нарбут (Остык-Нарбут) з Лідскай зямлі, гісторык Літвы інжынер і даследчык старажытнасці, а таксама бацька герояў паўстанцаў". Кніга выдадзена на польскай і беларускай мовах.



3 студзеня 2012 г. рэдактарам "Лідскай газеты" прызначана Серафімовіч Кацярына Адамаўна.



19 студзеня 2012 года ў новае памяшканне па вуліцы Выдайкі пераехаў супрацьтуберкулёзны дыспансер.

25 студзеня 2012 года па вул. Жукава-2 пачаў працу першы і адзіны ў краіне завод металатканых сетак ААТ “Хавер ВУ”.







У канцы студзеня начальнікам Лідскага РАУС прызначаны Генец Ігар Мікалаевіч.




1 сакавіка 2012 года адкрыўся гандлёвы цэнтр “Торунь” па вул Машэрава.

15 сакавіка 2012 года адкрыўся магазін “5 элемент” па вул. Машэрава-12.



# Лідчына ў 2011 годзе

**Выступ старшыні Лідскага райвыканкаму А.М. Астроўскага 24.02.2012 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным падвядзенню вынікаў працы за 2011 г.**

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Даўней самымі паспяховымі лічыліся краіны з багатымі прыроднымі рэсурсамі. Дзень сённяшні аспрэчвае гэты пастулат і паказвае, што багацце краіны - у яе працавітых, таленавітых людзях.

Сёння ў гэтай зале сабраліся лепшыя працаўнікі працоўных калектываў, каго кіраўнікі палічылі годнымі ўзнагароды раённага ўзроўню. Прысутнічаюць індывідуальныя прадпрымальнікі, фермеры, прадстаўнікі ўсіх буйных арганізацый, у якіх паспяхова вырабляюць якасную, запатрабаваную прадукцыю, падаюцца паслугі, ствараюцца новыя працоўныя месцы. Аднак, упэўнены, што гэта толькі малая частка людзей, у чый адрас я сёння хачу сказаць шчырыя словы падзякі.

Сухія лічбы вынікаў 2011 года красамоўна пацвярджаюць мае словы. Я дазволю сабе спыніцца на найболей значных выніках мінулага года.

Нягледзячы на тое, што па шэрагу паказчыкаў мы не выйшлі на прагнозны ўзровень, была захавана тэндэнцыя росту ў прамысловай, сельскагаспадарчай галінах, у сферы гандлю і транспартных паслуг.

Сярэднямесячны аб'ём прамысловай вытворчасці склаў 260 млрд. руб. (больш за 56 млн. даляраў ЗША).

Практычна ўсе прамысловыя прадпрыемствы па выніках пайшоўшага года выканалі свае бізнэс-планы.

У 2011 годзе пацешылі паказчыкі па замежнаэканамічнай дзейнасці. Прадпрыемствамі раёна экспартавана прадукцыі на суму амаль 264 млн. даляраў ЗША. За два гады прырост экспарту склаў амаль 100 млн. даляраў ЗША.

Сёння лідская прадукцыя экспартуецца ў 65 краін свету. Упершыню - на рынкі Канады, Лівана, Новай Зеландыі, Італіі, Нямеччыны, Ізраіля, Грузіі, Арменіі, Сербіі, Шатландыі.

Атрымана дадатнае сальда знешняга гандлю ў памеры 64,5 млн. дол. ЗША. Прыцягваюцца інвестыцыі ў асноўны капітал, іх сума склала 1 трыльён 219 млн. руб.

Праведзена шэраг сустрэч з замежнымі кампаніямі - патэнцыйнымі фундатарамі. Пры УКБ райвыканкама створана інвестыцыйнае Бюро.

Значнымі падзеямі мінулага года з'яўляецца будаўніцтва завода гарачага ацынкавання, супермаркета "Віталюр".

У лютым мінулага года ўведзены ў эксплуатацыю вытворчы комплекс па выпуску імпартазамяшчальных вырабаў медыцынскага прызначэння.

У студзені бягучага года адбылося афіцыйнае адкрыццё завода металактканых сетак, які быў пабудаваны ў 2011 годзе. Рыхтуемся да выхаду на праектную магутнасць завода гарачага ацынкавання.

Практычна было завершана будаўніцтва гандлёвага цэнтра "Торунь".

У 2011 г. адкрыта 29 новых крам, 10 аб'ектаў грамадскага харчавання, 1 рынак.

Прадпрыемствы раёна таксама тэхнічна пераабсталёўваліся: пачата арганізацыя вытворчасці шклаваты на "Шклозаводзе", праводзілася тэхпераўзбраенне вытворчасці фталевага ангідрыду на "Лакафарбе", у планах "Лідахлебапрадукта" будаўніцтва фабрыкі па вытворчасці макаронных вырабаў магутнасцю 10 тысяч тон у год, на "Оптыку" асвоена вытворчасць акуляравых лінзаў для працы з кампутарам, рэалізоўваліся і многія іншыя праекты.

І гэта ва ўмовах няпростай макраэканамічнай сітуацыі, якая адбілася і на працы нашых прадпрыемстваў. У складаным становішчы апынуліся "Лідаграпраммаш" і "Мінойтаўскі рамонтны завод", якія на працягу пяці гадоў працавалі па дзяржаўных замовах. Таксама ва ўмовах адсутнасці абаротных сродкаў ажыццяўлялі сваю дзейнасць "Лідскія аўтобусы "Нёман".

Праблемныя прадпрыемствы ўзначалілі новыя кіраўнікі: Плаўскі Алег Альфрэдавіч, Гейштоўт Багдан Вацлававіч, Пантус Зміцер Аляксандравіч. Пажадаем ім поспеху ў развіцці гэтых заводаў.

Летась калектывы сельгаспрадпрыемстваў былі выключаны са спаборніцтваў за нізкія вынікі. 2011 год быў для іх больш паспяховым: павялічана вытворчасць бульбы, цукровых буракоў, гародніны, садавіны, мяса.

Найбольшы рост прадукцыі сельскай гаспадаркі забяспечаны сельскагаспадарчым прадпрыемствам "Саўгас "Лідскі", які павялічыў вытворчасць ад узроўню 2010 года амаль на 21%.

Узраслі аб'ёмы вытворчасці ў сельскагаспадарчым унітарным прадпрыемстве "Мажэйкава", у вытворчых кааператывах: "Пескаўцы", "Бердаўка-Агра", "Беліца-Агра", "Ёдкаўскі", "Ходараўцы-Агра".

Больш за 5 тысяч кілаграмаў малака ад каровы надаілі жывёлагадоўцы малочна-таварнай фермы "Палубнікі" Лідскай птушкафабрыкі; фермы "Бердаўка" - "Бердаўка-Агра"; "Чаплічы" - "Мажэйкава".

Паспяхова развіваюцца фермерскія гаспадаркі.

Ваша праца, шаноўныя кіраўнікі, спецыялісты, працоўныя дазваляе зрабіць прадукцыю запатрабаванай і канкурэнтаздольнай, палепшыць умовы працы і, што не меней важна, стварыць новыя працоўныя месцы. А гэта дае магчымасць захаваць і прымножыць прафесійны кадравы патэнцыял у нашым раёне.

Вялікую ролю ў гэтым іграе праца будаўнікоў,

якія будуюць не толькі новыя вытворчыя карпусы, але і жыллё. Усяго летась ухошчыны ў нашым раёне справілі больш за 1 200 сем'яў, у тым ліку 27 кватэр для працаўнікоў аграпрамысловага комплексу. 109 шматдзетных сем'яў атрымалі жыллё. Уведзены ў эксплуатацыю 72-кватэрны жылы дом сацыяльнага значэння.

Удзячныя лідзяне будаўнікам і за работу па рэканструкцыі транспартнай развязкі па вуліцы 8-е Сакавіка; 11-ці вуліц у г. Лідзе і 4-х - у пас. Першамайскі, тубдыспансера, брэнда нашага раёна - замка. За новыя спартовыя аб'екты, у прыватнасці спорткомплекс "Алімпія".

Адмысловыя словы падзякі хачу сказаць тым кіраўнікам, спецыялістам, працоўным, хто не апускае рукі ў цяжкую хвіліну, а імкнецца знайсці новыя, цікавыя, нестандартныя рашэнні на выгоду эканомікі краіны, раёна ў цэлым і для кожнага з нас у прыватнасці. А менавіта: працаўнікам прадпрыемства "Конус" (дырэктар Боўфал Аляксей Пятровіч), "Лідсельмаша" (Вашкевіч Юры Эдвардавіч), "Каскада" (Ус Іван Іванавіч), таварыства з абмежаванай адказнасцю "Апсель" (Масцюгін Леанід Іванавіч), гістарычна-мастацкага музея (Драб Ганна Мікалаеўна), дома культуры ў в. Лайкоўшчына (Сафонава Аксана Сяргееўна), фермы "Крыніцы" саўгаса "Лідскі" (загадчык Мікутайціс Станіслаў Мар'янавіч), фермы "Навасёлкі" - "Світанак-Мыто" (Скляповіч Часлаў Станіслававіч), загадчыцы дзіцячага саду №35 Яцкевіч Ірыне Ўладзіславаўне, трэнерам па акадэмічным веславанні Яновічу Сяргею Рыгоравічу, па грэка-рымскай барацьбе Вардзісу Ігару Міхайлавічу, па цяжкай атлетыцы Любянцу Івану Міхайлавічу, загадчыцы кардыялагічнага аддзялення Кораневай Ірыне Чаславаўне.

Каб назваць імёны ўсіх таленавітых лідзян, іх дасягненні трэба выдаткаваць не адну гадзіну.

Дзякуй вам! Сваёй працай вы пацвярджаецe словы беларускага класіка Максіма Багдановіча, які казаў, што "Працавітая пчала ўмее сабраць мёд і з горкіх кветак".

Я рэкамендую вам часцей браць у рукі кнігу. Кніга - крыніца цікавых і карысных думак, якія дапамагаюць нам зірнуць на розныя жыццёвыя сітуацыі з іншага пункту погляду. Таму лічу цалкам заканамерным, што цяперашні год у Беларусі абвешчаны Годам Кнігі. У сувязі з гэтым жадаю звярнуцца да тых, чыя праца звязана з дзецьмі і моладдзю. У дадзеным выпадку я маю на ўвазе не толькі педагогаў, але і супрацоўнікаў бібліятэк, інфармацыйных цэнтраў. Важны момант - зацікавіць і навучыць іх працаваць з крыніцамі інфармацыі. Гэта пад сілу па-сучаснаму таленавітым людзям.

Вяртаючыся да вынікаў 2011 года, хачу прызнаць, што добрых спецыялістаў у гэтых абласцях у нас досыць: амаль 60% выпускнікоў школ сталі студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў. Вучнямі Лідскага раёна заваявана 1 311 прызавых месцаў па выніках удзелу ў абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, аглядах, фэстах і спаборніцтвах.

У раёне створана добрая база для развіцця творчых і спартовых талентаў. Вынікі не прымушаюць сябе чакаць.

Напрыклад, выхаванка дзіцячай мастацкай школы Вікторыя Шылкоўская заваявала дыплом III ступені на Міжнародным дзіцячым фэсце творчасці "Залатая пчолка".

Удзельнікі клуба бальнага танцу "Феерыя-дэнс" раённага Палаца культуры паспяхова выступаюць на спаборніцтвах рознага ўзроўню.

У рэспубліканскім фэсце-конкурсе музычнага мастацтва Беларусі "Спадчына" прынялі ўдзел 13 лідзян, 10 з іх сталі дыпламантамі і лаўрэатамі.

Летась 10 лідскіх спартоўцаў сталі прызёрамі міжнародных спаборніцтваў, 156 - рэспубліканскіх, 616 - абласных.

Тры спартоўцы - Наталля Карэйва, Сяргей Паліцевіч і Юры Астравух заваявалі ліцэнзіі на ўдзел у Алімпійскі гульнях 2012 года ў Лондане.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Кожны з нас разумее, як важна працаваць, жыць, дзеяць, ствараць сем'і і гадаваць дзяцей у мірнай краіне, бяспечных гарадах і сёлах.

За гэта хачу сказаць вялікі дзякуй прадстаўнікам сілавых структур. Мірнае неба, трывалую дзяржаўную мяжу, спакой на вуліцах, гатоўнасць прыйсці на дапамогу, абараніць - усё гэта забяспечваюць людзі ў пагонах. Асобна хачу адзначыць і падзякаваць жанчынам, якія знаходзяцца на гэтай нялёгкай службе.

Велізарны дзякуй людзям, вынікі працы якіх мы прывыклі лічыць чымсьці цалкам натуральным і штодзённым. Я маю на ўвазе працаўнікоў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, дарожных службаў. Супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі, якія заўсёды гатовыя аператыўна і якасна паінфармаваць нас пра падзеі ў краіне і рэгіёне.

Дзякуй спецыялістам сацыяльных службаў, медыкам. Пра людзей гэтых прафесій у жыцці мы часцей за ўсё ўспамінаем, калі здараецца бяда.

Ведаю, Лідчына багатая спецыялістамі ад Бога. І сёння я рады магчымасці падзякаваць кожнаму, хто адказна ставіцца да выканання сваіх абавязкаў, хто знаходзіць сілы і час для грамадскай працы, узначальваючы, часта на грамадскіх пачатках, прафсаюзы, грамадскія аб'яднанні, палітычныя партыі, іх арганізацыйныя структуры. Некаторыя з іх знаходзяцца ў гэтай зале.

Дзякуй усім, хто з задавальненнем дзеліцца з навакольнымі сваімі ведамі і ўменнямі.

Пліній Старэйшы казаў: "Нам адмоўлена ў доўгім жыцці; пакінем працы, якія дакажуць, што мы жылі!".

Ад сябе толькі дадам: тое, што нам удалося зрабіць у 2011 годзе, паказала, што якасны кадравы патэнцыял у нашым раёне велізарны, нам многае па плячы. І, калі мы будзем жыць, кіруючыся мудрасцю продкаў, мы зробім Беларусь, Лідчыну, кожнага з нас багатымі і паспяховымі.

Жадаю ўсім простага чалавечага шчасця: моцнага здароўя, святла, дабра, кахання і дабрабыту!

# Лідскія юбіляры 2012 года

## Акадэмік Уладзіслаў Людвігавіч Котвіч

### *Да 140-годдзя з дня нараджэння*

*На тэрыторыі Лідскага павету нарадзіліся тры акадэмікі - усходазнавец Уладзіслаў Людвігавіч Котвіч 1 красавіка 1872 г. у Восаве, заолаг Тадэвуш Леанардавіч Іваноўскі 16 снежня 1882 г. у маёнтку Лебяда і фізік Аркадзь Бенядыктавіч Мігдал 11 сакавіка 1911 г. у Лідзе.*



***Акадэмік У.Л. Котвіч***

Месца нараджэння Ўладзіслава Людвігавіча Котвіча называюць па рознаму - вёска Асоўе на Віленшчыне (ВСЭ), вёска Восава каля Ліды (Вікіпедыя), Восава на Віленшчыне (WEP), в. Восава Лідскага р-на (А. Пяткевіч “Людзі культуры з Гродзеншчыны”). Вёсак з падобнай назвай у Лідскім павеце было дзве: Восава (Осава) - на тэрыторыі цяперашняга Воранаўскага раёна і Восава на тэрыторыі цяперашняга Лідскага раёна, ёсць і трэцяя - у Наваградскім раёне. Іх часта блытаюць: А.М. Кулагін у энцыклапедычным даведніку “Каталіцкія храмы на Беларусі” Восаўскі мураваны касцёл перанёс з Воранаўскага ў Навагрдскі раён, а яго драўлянага папярэдніка аднёс да “страчанай спадчыны” Лідскага раёна.

Шматлікасць тапонімаў Восава - Осава прывяла да таго, што выхадзец з Лідскага павету член-карэспандэнт Расійскай Акадэміі Навук і акадэмік Польскай Акадэміі Ведаў Уладзіслаў Людвігавіч Котвіч не ўключаны ў кнігу “Памяць” ні па Лідскім, ні па Воранаўскім раёне, не ўключаны ў 18-ці томавую Беларускую энцыклапедыю, не ўключаны ў 6-ці томавую Энцыклапедыю гісторыі Беларусі, не ўключаны ў энцыклапедычны даведнік “Мысліцелі і асветнікі Беларусі”. На сённяшні дзень у Ў.Л. Котвіча, аднаго з самых яркіх нашых землякоў, застаюцца невядомымі сваяцкія сувязі і сацыяльнае паходжанне, і не зусім пэўным месца нараджэння. Будзем спадзявацца, што да 150-гадовага юбілею знойдзецца скрупулёзны даследчык, які адамкне гэтыя таямніцы. У Архіве Расійскай Акадэміі навук у фондзе 761 захоўваецца яго метрычнае пасведчанне і копія атэстата сталасці, ды і метрычныя кнігі Восаўскага касцёла дзесьці павінны быць.



***Уласны герб “Котвіч”***




Такім чынам, 140 гадоў таму назад, у Восаве, (Оса-



***Уладзіслаў Котвіч з прафесарам Паповым і студэнтамі***

ве, Асоўі) Лідскага павету нарадзіўся Ўладзіслаў Людвігавіч Котвіч. Восем гадоў ён вучыўся ў Другой Віленскай гімназіі, якую скончыў з залатым медалём у 1890 г. У веку 19 гадоў пачаў вучобу ў Пецярбургскім універсітэце на факультэце ўсходазнаўства. Спецыялізаваўся на мовах мангольскай групы, вывучаў таксама маньчжурскую і кітайскую мовы. У 1894 г. здзейсніў сваю першаю вандроўку ў Калмыкію. Дыпломную працу напісаў аб будыйскім кульце. Пасля заканчэння Пецярбургскага ўніверсітэта ў 1895 г. пачаў службу ў якасці службоўца канцылярыі міністра фінансаў. У 1896 г. у другі раз пабываў у калмыцкіх стэпах. З 1898 да 1917 г. працаваў як усходазнавец у канцылярыі міністра фінансаў.

У 1900 г. абараніў доктарскую дысертацыю, атрымаў званне прыват-дацэнта і 1 ліпеня быў дапушчаны да чытання лекцый у Пецярбургскім універсітэце. У гэты ж год стаў супрацоўнікам Азіяцкага музея Расійскай Акадэміі Навук. У 1900-03 гг. выкладаў ва ўніверсітэце мангольскую мову, з 1903 г. - калмыцкую і маньчжурскую. У 1902 г. арганізаваў выданне зборніка "Collectanea Orientalia", які сам жа і фінансаваў. У 1903 г. атрымаў пасаду загадчыка кафедры мангольскай філалогіі Пецярбургскага ўніверсітэта і быў уключаны ў склад Рускага камітэта для вывучэння Сярэдняй і Ўсходняй Азіі ў гістарычных, археалагічных, лінгвістычных і этнаграфічных адносінах. У гэтым камітэце служылі вядучыя арыенталісты Расіі і "прымалі ўдзел некалькі значных афіцыйных асоб і выбітных прывадных грамадзян". У 1907 г. абраны дзейным чальцом Рускага Геаграфічнага таварыства, у 1909 г. - чальцом Рускага археалагічнага таварыства.

Станаўленне Ў.Л. Котвіча як выкладчыка і навукоўца асвятліў яго вучань, відны ўсходазнавец акадэмік У.М. Аляксееў:

*"1898 г. Ва ўніверсітэцкай мангалістыцы - ніякай навукі.*

*1900 г. У верасні тоненькі, паўжывы У.Л. Котвіч тоненькім, прыдушаным, як бы да смерці спалоханым голасам чытае ўступную лекцыю. Сур'ёзна, але неяк без новага, па-старому.*

*1902 г., вясна. Пасля трэніроўкі толькі ў Котвіча я лічу сябе мангалістам.*

*1902 - 1904 гг. Заходжу да Ўладзіміра (менавіта так!) Людвігавіча на дом, гутару з ім і адчуваю ў ім чалавека зусім іншага "фармату", чым шматлікія сіньёры ад факультэта. Атрымліваю ад яго нешта як бы жыватворчае.*

*1905 - 1906 гг. Пішу Котвічу з Лондана. Па яго патрабаванні рыхтую справаздачу да друку. Чытаю ў яго вялізных лістах натацыі: "Нельга спадзявацца на памяць, трэба трымацца картачнай сістэмы".*

*1909 г. Прыязджаю з Кітая і застаю… іншага Котвіча - які нарадзіўся нанава, навуковец еўрапейскага, а не азіяцкага тыпу, скінуўшы лупіну, у якой ён*

*збіраў сам сябе...*

*З 1909 г. - развіццё навукоўца да буйнога і выдатнага. Мангалістыка вырастае ў магутную навуку. Вучні ідуць толькі ад Котвіча: Б.Я. Уладзімірцаў, С.А. Козін.*

*Такая рэдкая карціна замаскаванай інкубацыі і затым імклівага росту навуковай асобы навукоўца, высакароднага, найбуйнейшакга, бездакорнага!".*

У 1910 г. У.Л. Котвіч у трэці раз наведаў Калмыкію, а ў 1912 г. здзейсніў паездку ў даліну Архона (Паўночная Манголія), дзе вывучаў старажытнацюркскія рунічныя надпісы, а таксама кляштар XVI стагоддзя ў Эрдэні-Дзу. У 1915 г. уваходзіў у склад Камітэта па будаўніцтве ў Санкт-Пецярбурзе першага ў Еўропе будыйскага храма. У 1917 г. ізноў ажыццявіў паездку ў Калмыкію. Увосень быў абраны дацэнтам. У 1917-19 гг. чытаў лекцыі на факультэце ўсходніх моў Петраградскага ўніверсітэта па мангольскай, калмыцкай і маньчжурскай мовах. Увосень 1920 г. прызначаны першым дырэктарам Петраградскага інстытута жывых усходніх моў. У пачатку 1923 г. стаў прафесарам.

У 1922 г. атрымаў адразу два запрашэнні на працу ў Кракаўскі Ягелонскі ўніверсітэт і ў Львоўскі ўніверсітэт. Выбраў Львоў - адміністрацыя Львоўскага ўніверсітэта намервалася адкрыць інстытут усходазнаўства. Перад ад'ездам у Польшчу, 1 снежня 1923 г. быў абраны членам-карэспандэнтам Расійскай Акадэміі Навук па разрадзе ўсходняй славеснасці (маньчжуразнаўства і манголазнаўства) на аддзяленні гістарычных навук і філалогіі.

1 кастрычніка 1924 г. у Львоўскім універсітэце атрымаў пасаду загадчыка адмыслова створанай для яго кафедры філалогіі Далёкага Ўсходу. У той жа год абраны старшынём польскага ўсходазнаўчага таварыства, якім будзе заставацца да смерці. Wladyslaw Kotwicz - так зараз будзе гучаць яго імя. *"Агульныя ўмовы жыцця тут цалкам здавальняльныя, але навуковая праца па ўсходазнаўстве працякае пры вельмі цяжкіх умовах з прычыны адсутнасці кніг і калекцый. Мая бібліятэка затрымалася ў Маскве; у мяне няма самых неабходных дапаможнікаў..., але стараюся не маркоціцца".*

У 1927 г. абраны дзейным чальцом польскай Акадэміі Ведаў і стаў галоўным рэдактарам часопіса "Rocznik Orientalistyczny". У 1930-я актыўна ўдзельнічаў у працы ўсходазнаўчых навуковых канферэнцый (Львоў, Кракаў, Вільня, Варшава). Рэдагаваў і фінансаваў серыю "Collectanea Orientalia" (1932-39). Адначасова з працай у Львове перыядычна выкладаў у Віленскім універсітэце. Лічыўся адным з самых вядомых алтаязнаўцаў. Быў перакана314 ў тым, што алтайскія мовы маюць агульнае паходжанне, дапускаў існаванне ў далёкім мінулым даволі цеснай моўнай агульнасці, якая ахоплівае тры групы: цюркскую, мангольскую і тунгуса-маньчжурскую, аб чым пісаў у сваёй працы "Studia nad jezykami altajskimi".

З пачаткам Другой Сусветнай вайны пераехаў у Вільню да дачкі Марыі Котвіч супрацоўніцы ўніверсітэцкай бібліятэкі.



***Уладзіслаў Котвіч у Львове***

Памёр Уладзіслаў Людвігавіч 3 кастрычніка 1944 г. ва ўласным доме ў Чорным Бары пад Вільняю.

Апублікаваў за сваё жыццё каля 150 прац. Найважнейшыя з іх:

1. Лекцыі па граматыцы мангольскай мовы. 1902;
2. Калмыцкія загадкі і прыказкі. 1905;
3. Матэрыялы для вывучэння тунгускіх прыслоўяў // Жывая даўніна. 1909;
4. Кароткі агляд сучаснай арганізацыі выкладання ўсходніх моў у рускіх вучэбных установах. 1910;
5. Агляд сучаснай пастаноўкі вывучэння ўсходніх моў за мяжой. 1911;
6. Кароткі агляд гісторыі і сучаснага палітычнага становішча Манголіі. 1914;
7. Дослед граматыкі калмыцкай гутарковай мовы. 1915 і 1929;
8. Мангольскія надпісы ў Эрдэні-дзу // Зб. Музея антрапалогіі і этнаграфіі пры Расійскай АН. 1917;
9. Рускія архіўныя дакументы па зносінах з айратамі ў XVII-XVIII стст. // Весткі Расійскай Акадэміі навук. 1919;
10. Les pronoms dans les langues altaïques.1936;
11. La langue mongole, parlee par les Ouigours Jaunes pres de Kantcheou.1939;
12. Граматыка літоўскай мовы. Кароткі курс. 1940.

***Валеры Сліўкін,***
*кандыдат геаграфічных навук,*
*Lida-info.*

# 100 гадоў з дня нараджэння хірурга Вераб'ёва

11 сакавіка споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння выбітнага лідскага лекара-хірурга **Віктара Андрэевіча Вераб'ёва**. Свой талент медыка, высокі прафесіяналізм ён аддаў служэнню людзям, аказваючы пэўную дапамогу пэўнаму чалавеку.

Ён нарадзіўся ў шматдзетнай сялянскай сям'і на Любаншчыне. З дзяцінства дапамагаў бацькам у сельскай гаспадарцы. У сямнаццаць гадоў стаў членам калгасу. Але вырашыў атрымаць прафесію рачніка, паступіў у тэхнікум. Аднак пасля яго заканчэння не звязаў жыццё з рачной справай, а падаў дакументы ў Менскі медыцынскі інстытут. Паспяхова скончыў ВНУ ў 1937 годзе. Некалькі месяцаў прапрацаваў лекарам-хірургам і быў прызваны на службу ў Чырвоную Армію.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны Віктар Андрэевіч Вараб'ёў апынуўся на фронце. Узначаліў рухомае аддзяленне санітарна-эпідэмічнага атрада 1 -й Ударнай арміі. Дзякуючы яму, на правым фланзе Калінінскага фронту была праведзена велізарная праца па выяўленні выпадкаў сыпнога тыфу і недапушчэнні распаўсюду хваробы сярод байцоў Чырвонай Арміі. За самаадданую службу, знаходзячыся на фронце, у жніўні 1942 года Віктар Андрэевіч быў узнагароджаны медалём "За баявыя заслугі", праз год - ордэнам Чырвонай Зоркі.

У 1943 годзе падчас варожай бамбёжкі Вераб'ёў атрымаў асколкавае раненне ў грудзі і ў нагу. Частку нагі прыйшлося ампутаваць. У чэрвені 1944 года Віктара Андрэевіча знялі з вайсковага ўліку.





Але Вераб'ёў знайшоў сабе справу па пакліканні ў мірным жыцці. Лёс звязаў Віктара Андрэевіча з горадам Лідай, і неўзабаве ён пачаў працаваць ардынатарам хірургічнага аддзялення Лідскай гарадской лякарні, а з красавіка 1945 года Вераб'ёва прызначылі загадчыкам гэтага аддзялення.

Цяжкім быў паваенны час. Аперацыі даводзілася рабіць пры святле лучыны, газавай лямпы, а спірт замяняў "пяршак". А хіба лёгка было стаяць гадзінамі хірургу на пратэзе ля аперацыйнага стала? Але колькі жыццяў выратаваў гэты чалавек!

Праца Віктара Андрэевіча Вераб'ёва адзначаны знакам "Выдатнік аховы здароўя", ордэнам Леніна. Памяць пра чалавека, які прысвяціў сваё жыццё медыцыне, ушанавана ў канцы 90-х у мемарыяльнай дошцы на хірургічным корпусе Лідскай цэнтральнай раённай лякарні.

Вось што ў свой час пра майстэрства хірурга пісала газета "Уперад" (цяпер "Лідская газета").

*"У 1957 годзе ў аперацыйнай Лідскай гарадской лякарні была праведзена складаная аперацыя, якая атрымала рэзананс не толькі ў горадзе. Прывезлі Ўладзіміра Іванавіча Хаміцу з колата-рэзанай ранай жалудачка сэрца. Патрэбна была неадкладная аперацыя. Хірург паспяшаўся ў лякарню... Пазней, за паспяхова праведзеную аперацыю, Віктару Андрэевічу Вераб'ёву было прысвоена званне заслужанага лекара БССР. Такія складаныя аперацыі не былі адзінкавымі. Дзякуючы хірургу не перастала біцца сэрца таксама і Часлава Станіслававіча Кедыша..."*

*"Нядаўна загадчык хірургічнага аддзялення гарадской бальніцы, заслужаны лекар БССР Віктар Андрэевіч Вераб'ёў правёў складаную аперацыю па выдаленні жоўцевага пухіра ў хворай Р. Некалькі гадзін ішла напружаная барацьба за жыццё жанчыны, некалькі гадзін яна знаходзілася пад пагрозай смерці. І толькі багаты досвед і майстэрства дапамаглі Віктару Андрэевічу дамагчыся выдатнага выніку..."*

**Станіслаў Іванавіч Мамчыц, лекар-уролаг**: *"Пасля заканчэння інстытута ў 1967 годзе я прыехаў у Ліду. Пачынаў працу ў хірургічным аддзяленні*



*пад кіраўніцтвам Віктара Андрэевіча Вераб'ёва. Яму ў той час было 55 гадоў, але ён быў поўны сіл і энергіі. Вераб'ёў не толькі праводзіў аперацыі ў Лідскай лякарні, а як высокапрафесійны лекар ратаваў здароўе і жыццё пацыентам у лякарнях блізкіх раёнаў.*

*Віктара Андрэевіча ўвесь час можна было бачыць у лякарні. У яго не было ні выходных, ні свят. Як загадчык аддзяленнем, Вараб'ёў узяў за правіла праводзіць абход хворых раніцай і ўвечар. Памятаю, не пойдзе дахаты, пакуль дзяжурнаму лекару не раскладзе па палічках, які на дадзены момант стан у кожнага хворага".*

**Таццяна Віктараўна Вараб'ёва, дачка**: *"Гутаркі паміж бацькамі вельмі часта вяліся на медыцынскія тэмы. Бо мама таксама была лекарам і разумела мужа з паўслова, ведала, наколькі адказная і цяжкая прафесія хірурга. Бацька шанаваў мамчын клопат, тыя выгоды і цяпло, якія яна стварала дома. Калі мама захварэла, тата начамі праседжваў ля яе пасцелі і моцна перажываў, калі яе не стала.*

*Нейкая непарыўная нітка звязывала бацьку і з намі, яго дзецьмі. Памятаю, калі ў мяне здаралася непрыемнасць, тата быццам адчуваў гэта, і першы тэлефонны званок, словы падтрымкі былі ад яго".*



**Усевалад Віктаравіч Вераб'ёв, сын:** *"Бацька вучыў нас працавітасці, абавязковасці, адказнасці. Ён вельмі любіў прыроду, быў заўзятым паляўнічым і рыбаловам і нам з братам перадаў сваё хобі. Але галоўнае, дзякуючы бацьку, яго адданасці сваёй прафесіі, мы з братам таксама сталі лекарамі".*

***Падрыхтавала Людміла ПЕТРУЛЕВІЧ.***

# 90 гадоў з дня нараджэння Івана Ушацкага

**Ушацкі Іван Іванавіч.** Старшыня Лідскага гарвыканкаму з 14 сакавіка 1957 па 29 лістапада 1962 г.

Нарадзіўся 7.01.1922 г. у в. Быкі Дрысенскага раёна (цяпер Верхне-Дзвінскі) Віцебскай вобласці ў сям'і сялян. Бацька інвалід Грамадзянскай вайны, паранены ў 1919 г. Беларус. Скончыў сямігадовую школу ў в. Юзафова. Падчас вайны - партызан у Віцебскай вобласці, затым франтавік. Служыў у артылерыі, камандзір аддзялення артылерыйскай выведкі. Тройчы паранены. Меў вельмі цяжкае скразное лёгачнае раненне з пашкоджанне сківіцы -1.02.1945 г., паранены пад Лібавай, перад наступам даваў навядзенне батарэі, немцы заўважылі, снарад патрапіў у хвою, дзе была антэна з рацыяй. Ляжаў у шпіталі ў Свярдлоўску. Інвалід II групы.

З 1945 па 1948 г. вучыўся ў гандлёва-кааператыўнай і юрыдычнай сярэдніх школах г. Масквы, атрымаў дыплом юрыста. Член КПСС з 1948 г. З 1948 г. памочнік пракурора Докшыцкага раёна і г. Полацка (1949), затым начальнік аддзела Полацкай і Віцебскай абласных пракуратур. У 1954-1955 гг. прайшоў перападрыхтоўку ў юрыдычнай акадэміі. Са жніўня 1955 г. па сакавік 1957 г. пракурор Лідскай міжраённай пракуратуры. У 1957 - 1962 гг. старшыня Лідскага гарвыканкаму. У 1962 г. абраны старшынём Гарадзенскага гарвыканкаму. Дэпутат абласнога савета (1957-61), дэпутат ВС БССР 6 склікання (1963-67). З траўня 1965 г. па студзень 1972 г. працаваў у Прэзідыуме ВС БССР. Абараніў кандыдацкую дысертацыю "Правы і дзейнасць мясцовых Саветаў па абароне правоў грамадзян". Кандыдат юрыдычных навук (1971). Дацэнт па працоўным праве (1974). Дэкан факультэта перападрыхтоўкі кіраўнічых кадраў лёгкай прамысловасці, дэкан юрыдычнага факультэта.



# 90 гадоў з дня нараджэння Янкі Жамойціна

**ЖАМОЙЦІН Янка** (28 студзеня 1922, в. Клімавічы, Лідскі раён, Гарадзенская вобл. - 25 красавіка 2003) - беларускі пісьменнік-публіцыст, літаратурны крытык, грамадскі дзеяч. У 1929-36 г. вучыўся ў польскай школе ў Скрыбаве і Шчучыне, у 1936-39 - у польскай гімназіі ў Варшаве, у 1939-41 - у савецкай дзесяцігодцы ў Лідзе. У верасні 1942 паступіў на апошні курс сярэдняй школы ў Наваградак. У 1943 скончыў Беларускую настаўніцкую семінарыю ў Навагрудку.

Быў сябрам падпольнай антыкамуністычнай і антыгітлераўскай Беларускай незалежніцкай партыі. У 1943 кіраўніцтвам БНП накіраваны ў Саюз беларускай моладзі.У 1944 кіраваў Саюзам беларускай моладзі ў Навагрудку. У ліпені 1944 пакінуў Беларусь, быў у Германіі, у 1945 пераехаў у Польшчу. У лістападзе 1945 арыштаваны органамі КДБ, але вызвалены польскімі ўладамі. Закончыў у Жэшуве прафесіянальны інстытут права і адміністрацыі (1949). У снежні 1949 паўторна арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў канцлагераў і 5 гадоў пазбаўлення ў грамадзянскіх правах. У Польшчу вярнуўся ў 1957. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт (1970), атрымаў ступень магістра адміністрацыі. Жыў і працаваў у Варшаве. Актыўны ўдзельнік беларускага культурнага жыцця ў Варшаве.




Пісаў на беларускай і польскай мовах. Дэбютаваў як літаратурны крытык на старонках тыднёвіка "Ніва" ў 1965. Яго пяру належаць шматлікія публікацыі пра паэзію беларускамоўных аўтараў Польшчы, артыкул-даследаванне "Шляхам "Іліяды" Гамера" - пра зроблены Б. Тарашкевічам пераклад гэтага твора на беларускую мову, шмат рэпартажаў, эсэ, крытычных артыкулаў. Яны друкаваліся ў "Ніве", "Беларускім календары", іншых польскіх і замежных выданнях. Апублікаваў (1996) біяграфічную аповесць "З перажытага".

# 80 гадоў Уладзіміру Логашу

**ЛОГАШ Уладзімір Міхайлавіч** нарадзіўся 10 снежня 1931 г. у вёсцы Ахонава Дзятлаўскага раёна.

Пасля заканчэння школы ў 1950 г. паступіў на будаўнічы факультэт Беларускага палітэхнічнага інстытута. Пасля заканчэння інстытута прыехаў у Ліду на сталую працу ў будаўнічае кіраванне і быў прызначаны на пасаду прараба.

Працаваў на многіх будоўлях пасляваеннай Ліды, непасрэдна ўдзельнічаў у адбудове і разбудове горада.

Калі У. Логаш пачаў работу, у горадзе жыло 20 тысяч жыхароў, а ў пачатку 1981 года ў час пераезду на работу ў Гародню горад налічваў амаль 75 тысяч.

У 1959 годзе У. Логаш як інжынер-будаўнік павінен быў даць заключэнне аб аварыйным стане касцёла на Слабадзе ў Лідзе, пасля чаго неадкладна трэба было чакаць зносу. У. Логаш даў заключэнне, што касцёл у добрым стане, і ён стаіць да гэтага часу.

У 1963 годзе Рашэннем калегіі Міністэрства прамысловага будаўніцтва У Логаш быў прызначаны начальнікам пускавога комплексу Лідскага лакафарбавага завода з адначасовым выкананнем абавязкаў галоўнага інжынера будаўнічага кіравання. З студзеня 1967 года У. Логаш быў прызначаны кіраўніком Будтрэста. 1 снежня 1969 года стаў старшынём Лідскага гарвыканкаму.

З восені 1973 года У.М. Логаш выступае адным з ініцыятараў рэстаўрацыі Лідскага замка. Праз некаторы час, калі ідэя пачала выспяваць і пашырацца, удалося ўключыць у план работ рэспубліканскай рэстаўрацыйнай майстэрні гэты аб’ект. У Логаш знайшоў агульную мову з археолагам А. Трусавым і аўтарам праекту рэстаўрацыі архітэктарам С. Багласавым, аказваў ім пастаянную дапамогу, арганізаваў мясцовую каманду работнікаў. І вось амаль праз 40 гадоў рэстаўрацыя Лідскага замка заканчваецца.



У пачатку 1981 года У.М. Логаш быў пераведзены на працу ў Гародню, але сувязяў з Лідай не разрывае да гэтага часу.

Уладзімір Міхайлавіч Логаш вядомы сваёй прыхільнасцю да беларшчыны, а газету “Наша слова” выпісвае ад 1-га нумара. Ен аўтар многіх краязнаўчых артыкулаў, якія піша па-беларуску.

# Уладзіміру Васько - 75

*...Паэзія - думак прытулак*
*і вечная музыка слоў*
*адзіны ты мне паратунак,*
*адзіная ў сэрцы любоў.*
У. Васько.



Нарадзіўся **Уладзімір Гаўрылавіч Васько** ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна 2 студзеня 1937 года ў сялянскай сям'і. Бацька - Гаўрыла Сямёнавіч ажаніўся з Белуш Нінай Пятроўнай ў 1934 ці 1935 годзе. У 1935 годзе нарадзілася старэйшая сястра Уладзіміра - Ліда (у сям'і яе звалі Лёдзя). Гадаваліся малыя дзеці ў каморцы, па вечарах палілі лучыну, а калінікалі і газавую лямпу.

"Калі памёр бацька, - успамінае паэт, - да маці ў "прымы" прыйшоў яго родны брат Іосіф. Сям'я наша павялічылася: у 1942 годзе нарадзіўся Коля, ў 1946 годзе - Вера. Такім чынам, нас стала чацвёра дзяцей. Мы з Лідаю, Іосіфа таксама звалі татам."

Пачатковую школу скончыў у роднай вёсцы, сярэднюю школу - у Орлі.

Служыў ў Савецкай Арміі (1956-1959), вучыўся ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце імя Янкі Купалы ў 1960-1965 гг. на аддзяленні рускай мовы і літаратуры. Працаваў настаўнікам.

У 1967 годзе яго запрашаюць на працу ў Дзятлаўскую раённую газету "Перамога", на пасаду загадчыка аддзела пісьмаў, а затым адказным сакратаром. У 1972 годзе Уладзімір Гаўрылавіч пачаў працаваць у рэдакцыі "Лідскай газеты" карэспандэнтам прамысловага аддзела, загадчыкам аддзела пісьмаў, а з 1988 года - намеснікам рэдактара, тры гады выконваў абавязкі рэдактара.

У 1974 годзе Уладзімір Гаўрылавіч звязаў свой лёс з Акавіцкай Марыяй з вёскі Кавалі. У іх нарадзілася двое дзяцей: дачка Алена і сын Аляксандр. Хутка бяжыць час - у сям'і Васько ўжо падрастаюць унук Аляксей і ўнучка Волечка (дзеці дачкі Алены).

Першы верш паэта быў надрукаваны ў 1955 годзе ў жалудокскай газеце "За Радзіму". Уладзімір Васько сфармаваўся як паэт, як самастойная творчая індывідуальнасць у баку ад літаратурных асяродкаў. Але працяглая праца раённага газетчыка, багаты багаж назіранняў і ўражанняў паспрыялі самастойнасці, выпрацоўцы творчай манеры, уласнага эстэтычнага крэда.

Бацькі паэта выхавалі ў ім любоў да прыроды, менавіта яны паказалі малому сыну як падлятае да свайго гнязда бусел, як віртуёзна круцяцца над вадою белыя чайкі. Тыя далёкія ўражанні дапамагалі ужосталаму паэту пісаць так шчыра і прыгожа. Людзі і прырода у яго непадзельныя, бо "найпрыгажэйшы ў свеце цуд - жанчына, а наймудрэйшы сярод дрэваў - дуб".

Вершы друкаваліся ў часопісах "Маладосць", "Беларусь", "Нёман" і інш. Друкаваўся ў калектыўных зборніках "Анталогія беларускай паэзіі", "Ад лідскіх муроў", "Краю мой, Нёман" і г.д.

За апавяданне "Айн унд цванцыг, драй унд фірцыг" стаў лаўрэатам конкурсу рэдакцыі газеты "Звязда" і Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У 2008 годзе ў конкурсе, аб'яўленым Лідскім раённым выканаўчым камітэтам і рэдакцыей "Лідскай газеты" да 685-годдзя заснавання Ліды, Уладзімір Васько за свой цыкл вершаў заняў першае месца.

З 2007 года член Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**Яго творы:**


1. Кругаварот жыцця: вершы / Уладзімір Васько,- Ліда, 2011. - 100 с.
2. На схілах берагоў: вершы / Уладзімір Васько.- Ліда, 1997,- 109 с.
3. Прасветленасць: вершы / Уладзімір Васько.- Мн: Маст. літ., 1981.- 46 с,- (Першая кніга паэта).
4. Панямонцы / У. Васько // Бацька наш Нёман: вершы, апавяданні, нарысы, эсэ / уклад. Я.І. Хвалей; маст. В. П. Свентахоўскі. - Мн., 2001. - С. 356-357.
5. І падабрэе сусвет. У Вільнюсе. Хутар. Яснавокіх азёраў ланцуг... Падкрэслены дзень мой: вершы / У. Васько // Галасы: штогоднік. №1.- Гродна, 2002. - С.30-33.
6. Крынічка: верш / У. Васько// Галасы: штогоднік №2,- Гродна, 2003. - С.43-46.
7. Пажаданне. На хвалях. Белыя воблакі. Выбар. Суцяшэнне: вершы / У. Васько // Галасы: штогоднік. №3 - Гродна, 2004. - С. 64-67.
8. Твой след на снезе..: верш / У. Васько.// Лідская газета. - 2012. - 14 лютага. - С.4.
9. Равеснікі машыны пакуплялі...: верш / У. Васько // Лідская газета. - 2012. - 17 студзеня. - С.6.
10. "Падводзіць вынікі мне рана...": вершы / У. Васько // Лідская газета. - 2012. - 3 студзеня. - С. 5.
11. Мой паратунак : верш / У. Васько // Лідская газета. - 2011. - 13 снежня. - С. 5.
12. Пажаданне: верш / У. Васько // Лідская газета. - 2011. - 14 чэрвеня. - С.4.
13. Мой курорт: верш / У. Васько // Лідская газета. - 2011 г. 19 красавіка. - С. 6.
14. Дарога: верш /У. Васько// Лідская газета. - 2011. - 1 сакавіка. - С. 6.
15. Пасрэднік: верш / У. Васько// Лідская газета. - 2010,- 19 кастрычніка. - С. 5
16. Нашчадку: верш / У. Васько// Лідская газета. - 2010, - 17 жніўня. - С. 6
17. Сувязь: верш / У. Васько// Лідская газета. - 2010. - 18 мая. - С. 6.
18. Пад зоркай. Дабракі: вершы / У. Васько //

Лідская газета. - 2010. - 9 лютага. - С. 6.

19. Дзівак: апавяданне / У. Васько // Звязда. - 2010. - 19 студзеня. - С. 6.

20. Я жыву ў самым цэнтры Еўропы: верш / У. Васько // Лідская газета. - 2009. - 24 лютага. - С. 5.

21. Бярозка: верш / У. Васько // Лідская газета. - 2009. - 17 лютага. - С. 5.

22. Храм Купалы: верш / У. Васько // Лідская газета. - 2008. - 25 кастрычніка. - С. 4.

23. Музыка. Хутар: вершы / У. Васько.// Літаратура і мастацтва. - 2008. - № 39. - С. 8.

24. Сон у руку: апавяданне / У. Васько // Звязда. - 2008. - 16 жніўня. - С. 7

25. Родны "Лідсельмаш": верш / У. Васько // Лідская газета. - 2008. - 2 жніўня. - С. 4.

26. Лідская ўверцюра: верш / У. Васько // Лідская газета. - 2008. - 12 ліпеня, - С. 4.

27. Дзень добры, Ліда: верш/ У. Васько // Лідская газета. - 2008. - 26 чэрвеня. - С. 5.

28. У вагоне. Музыка. Эцюд. Хутар. Далучэнне.: вершы / У. Васько // Принеманские вести. - 2008.- № 24, - 12 нюня. - С. 10.

29. "...Каб праўдай дыхалі радкі": верш/ У. Васько //Лідскі летапісец. - 2008. - № 2 (42). - С. 82-87.

30. Над Гаўяй. Прамільгнула!.. А ў сэрца запала: вершы / У. Васько // Лідскі Летапісец. - 2007. - № 1. - С. 94-96.

31. "Айн унд цванцыг, драй унд фірцыг": апавяданне / У. Васько // Звязда. - 2007. - 18 студзеня. - С. 3.

32. Скупы: апавяданне / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2005, - 6 снежня. - С. 3.

33. Прамільгнула: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2005. - 6 верасня. - С. 3.

34. Уражанні: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2005. - 27 жніўня. - С. 12

35. Над Дзітвою: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2005. - 2 жніўня. - С. 3.

36. Конніца: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 2005. - 5 ліпеня. - С. 3.

37. Роздум пра час: верш памяці Міхася Васілька / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2005. - 7 чэрв. - С. 3.

38. Няскоранасць: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2005. - 3 мая. - С. 3.

39. Прага гармоніі: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2005. - 5 красавіка. - С. 3.

40. У Зблянах: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2004. - 7 верасня. - С. 3.

41. У ліхалеццe: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2004. - 1 чэрвеня. - С. 3.

42. Мая стыхія: верш / У. Васько // Белорусская нива. - 2004. - 26 мая. - С. 1.

43. Самы шчаслівы: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2004. - 4 мая. - С. 7.

44. Набліжэнне: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2004. - 6 красавіка. - С. 3.

45. На хвалях: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2003. - 7 кастрычніка. - С. 3.

46. Ураханні: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2003. - 2 верасня. - С. 3.

47. Белыя воблакі: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2003. - 5 жніўня. - С. 3.

48. Выбар: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2003. - 3 чэрвеня. - С. 3.

49. Наш родны "Лідсельмаш": верш/ У. Васько // Лідская газета. - 2001.- 29 верасня. - С. 2.

50. І падабрэе сусвет: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 2001, - 14 жніўня, - С. 3.

51. У Вільнюсе: верш / У. Васько // Лідская газета, - 2001. - 27 сакавіка.

52. Знаёмства: урывак з аповесці "Не згіне на зямлі чалавек" / У. Васько // Ад лідскіх муроў, - 2001. - № 5, - С. 61-63.

53. У Вільнюсе. Хутар: вершы / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2001. - 6 лютага.

54. Да Кучынскага: верш / У. Васько // Лідская газета. - 2000, - 25 лістапада.

55. Далучэнне: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 2000. - 17 кастрычніка.

56. Усё ў мяне ёсць: верш / У. Васько// Гродзенская праўда. - 2000, - 8 жніўня.

57. Ці варта ўцякаць?: верш / Уладзімір Васько // Гродзенская праўда. - 2000, - 21 сакавіка, - С. 3.

58. Успамін: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 2000, - 7 сакавіка.

59. Жыць, не тужыць!: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 2000. - 18 студзеня.

60. На стыку часу: верш / У. Васько // Лідская газета, - 1999. - 31 снежня.

61. Хвалі душы: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1999, - 14 снежня.

62. Над Нёманам: верш / У. Васько // Лідская газета, - 1999. - 11 снежня.

63. Кавалер: апавяданне / У. Васько// Ад лідскіх муроў, - 1999, - № 2/3. - С. 28-29.

64. Букет мінут: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 1999, - 24 жніўня.

65. Мой паратунак: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1999. - 27 ліпеня.

66. Ты маё жыццё: верш/ У. Васько // Гродзенская праўда. - 1999, - 18 мая.

67. Партызаны: верш / У. Васько // Лідская газета. - 1999, - 8 мая.

68. Падары: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. -1999. - 30 сакавіка.

69. Заўсёды будзь маёй: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. -1999, - 9 лютага.

70. Жаніх: апавяданне / У. Васько// Оникс,- 1999, - №1, - С. 12-13.

71. Пажаданні: верш / У. Васько // Лідская газета, - 1998. - 31 снежня.

72. Туганавічы. Гукні яму, Свіцязь!: вершы / У. Васько// Гродзенская праўда. - 1998. - 12 верасня.- С. 3.

73. У пушчы паэзіі: верш / Уладзімір Васько // Гродзенская праўда, - 1998. - 23 чэрвеня.

74. Адрынутыя: навела / У. Васько // Звязда. - 1998. - 6 чэрвеня.

75. Доля журналіста: верш / У. Васько // Лідская газета, - 1998, - 5 мая.

76. Між тым: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 1998. - 16 красавіка.

77. Святочная хвіліна: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1998, - 19 сакавіка.

78. Лідская ўверцюра: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1998, - 19 лютага.

79. Прага прасторы: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1997. - 2 снежня.

80. Роднай школе: верш / У. Васько // Лідская газета. - 1997, - 4 кастрычніка.
81. Нашчадку: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 1997, - 19 жніўня.
82. Адкрыццё: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1997. - 12 чэрвеня.
83. Байка пра калючку: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 1997. - 15 мая.
84. Сустрэча: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1997. - 20 лютага.
85. Ля помніка Купалу: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1996, - 17 снежня.
86. Дзень добры, княззёўня: верш / У. Васько // Гродзенская праўда. - 1996, - 5 лістапада.
87. Мой свет: верш / У. Васько// Лідская газета.- 1995. - 2 верасня.
88. На вуліцы Ажэшкі: верш / У. Васько // Лідская газета, - 1994, - 20 снежня.
89. Збляны: верш / У. Васько // Лідская газета. - 1993. - 31 жніўня.
90. Пра Гродна: верш / У. Васько // Гродзенская праўда, - 1993. - 24 красавіка.
91. Хрыстос уваскрэс: верш / У. Васько //Лідская газета, - 1993, - 17 красавіка.
92. Касач: апавяданне / У. Васько // Лідская газета. - 1992, - 18 красавіка.
93. Жыццё: верш / У. Васько // Гродненская правда. - 1991. - 31 августа.
94. Стары разбіты мост. А Нёман казаў...: вершы / У. Васько // Беларусь, - 1990. - № 8, - С. 11.
95. Між лоз белаватых...: верш / У. Васько// Гродненская правда. - 1989, - 16 сентября.
96. Над Гаўяй: верш / У. Васько // Гродненская правда, - 1989. - 1 апреля.
97. Ля крэпасці каменнай: верш / У. Васько // Гродненская правда. - 1988, - 24 сентября. - С. 4.
98. Жартаўнік: верш / У. Васько // Уперад. - 1988. - 7 лістапада.
99. Іду на адкрыццё: верш / У. Васько // Гродненская правда. - 1987. - 26 декабря.
100. Тваё каханне - на жыццё: верш / У. Васько // Уперад, - 1987. - 1 мая.
101. Песні лета: верш / У. Васько // Гродненская правда, - 1987. - 25 апреля.
102. Да людзей. Дзітва: вершы / У. Васько // Гродненская правда. - 1986, - 20 декабря.
103. Прага: верш / У. Васько // Гродненская правда. - 1981, - 12 декабря.
104. Танцуюць салдаты: верш / У. Васько // Уперад. - 1981, - 24 студзеня.
105. Шлях: верш/ У. Васько // Гродненская правда. - 1980. - 31 мая.
106. На прыёме: [урывак з паэмы "Начны гром"] / У. Васько // Уперад. - 1977, - 21 студзеня.
107. Таленты народныя / У. Васько // Уперад. - 1976. - 27 жніўня.
108. Добры дзень, Ліда!: верш / У. Васько // Уперад. - 1976. - 9 ліпеня.
109. Начны гром: [урывак з паэмы] / У. Васько // Уперад, - 1976, - 11 мая.
110. Верасень: верш / У. Васько // Уперад, - 1975, - 4 кастрычніка.
111. Дно Свіцязі: верш / У. Васько // Уперад. - 1974, - 14 верасня.
112. У водпуску: верш / У. Васько // Уперад. - 1973. - 29 жніўня.
113. Партызаны: верш / У. Васько // Гродненская правда.- 1972, - 14 сентября.

**Пра яго:**

1. Пяткевіч, А. Васько Уладзімір Гаўрылавіч (02.01.1937), беларускі паэт, журналіст / А. Пяткевіч // Людзі культуры з Гродзеншчыны / А. Пяткевіч, - Гродна, 2000, - С. 49.
2. "Падводзіць вынікі мне рана...": [Уладзіміру Васько - 75 гадоў] // Лідская газета , - 2012. - 3 студзеня, - С. 5.
3. Мельнікаў, У. Гармонія думкі і пачуцця: [аб кнізе Уладзіміра Васько "Кругаварот жыцця"] / Уладзімір Мельнікаў // Лідская газета. - 2011. - 30 ліпеня, - С. 3.
4. Макарэвіч, П. Натуральна, шчыра, задушэўна: [кніга лідскага паэта У. Васько "Кругаварот жыцця"] / П. Макарэвіч // Принеманские вести, - 2011, - 9 нюня (№ 29).
5. Жалкоўскі, А. Абагаўляюць творцы Лідскі край: [пераможцы раённага конкурсу вершаў, прысвечаных гораду Ліда з нагоды 685-годдзя заснавання, у т.л. У. Васько] / А. Жалкоўскі // Принеманские вести. - 2008. - 16 октября. - (№ 42).
6. Лідзе - 685: [у т.л. пра ўзнагароджанне пераможцаў раённага конкурсу вершаў, прысвечаных гораду Ліда з нагоды 685-годдзя заснавання, у т.л. У. Васько] // Наша слова, - 2008, - 8 кастрычніка. (№41). - С. 1-2.
7. Лапшына, Л. "Я заўсёды з табой буду разам...": [узнагароджанне пераможцаў раённага конкурсу вершаў, прысвечаных гораду Ліда з нагоды 685-годдзя заснавання, у т.л. У. Васько]: фота /Л.Лапшына // Лідская газета,- 2008, - 7 кастрычніка. - С. 2.
8. Лідзін, П. Лідчане прыняты ў Саюз пісьменнікаў: [Уладзімір Васько, Алесь Стадуб, Пётр Макарэвіч] / П. Лідзін // Принеманские вести, - 2008, - 3 января (№ 1). - С. 7.
9. Бічэль-Загнетава, Д. Выказваюся, як думаю: [зборнік вершаў У. Васько "Прасветленасць"] / Данута Бічэль-Загнетава // Лідскі Летапісец, - 2007. - № 1. - С. 93-94.
10. Макарэвіч, П. Зерне адборнае слоў: [да 70-годдзя Уладзіміра Васько] / Пятро Макарэвіч // Лідскі Летапісец. - 2007. - № 1. - С. 91-93.
11. Дзелянкоўскі, М. У Ліды слаўная гісторыя: [кніга У. Васько "На схілах берагоў"] / М. Дзелянкоўскі / / Книга и мы. - 1998. - № 24. - С. 1.
12. Лапко, А. Знітаванасць: [пра кнігу вершаў "На схілах берагоў" У. Васько] / А. Лапко // Гродзенская праўда, - 1997, - 7 кастрычніка.
13. Масла, М. "Гімн нашым людзям і барам": [кніга У. Васько "На схілах берагоў"] / Марыя Масла//Лідская газета. - 1997. - 12 чэрвеня.
14. Шынкоўскі, А. Лідскія аўтары ў часопісе: [У. Васько ў часопісе "Маладосць"] / А. Шынкоўскі // Лідская газета. - 1994, - 22 кастрычніка.
15. Свечкін, А. З першай кнігай: ["Прасветленасць" - першая кніга лідскага аўтара У. Васько] / А. Свечкін // Уперад, - 1982, - 30 студз.

***Падрыхтаваў калектыў***
***Лідскай ЦРБ імя Янкі Купалы.***

# Фальварак Курасёўшчына ў сістэме шляхочых сядзіб Беларусі і яго ўладальнікі

У нашай культурнай спадчыне шляхочай сядзібе належыць адмысловае месца. Без увагі, разумення і цікавасці да гэтага феномену няма і не можа быць разумення нашай гісторыі, любові да сваёй малой радзімы. Сядзіба - дзіўна ёмістае паняцце. Яно дае навочнае ўяўленне літаральна аб усіх працэсах, якія адбываліся ў гісторыі і культуры беларускіх земляў у XIX - пачатку XX стагоддзяў. Уяўленне падказвае, як гадоў 100-150 назад выглядаў "культурны ландшафт" нашай краіны. Нароўні з малымі і вялікімі гарадамі, вёскамі і мястэчкамі, цвердзямі і кляштарамі, сядзібы адыгрывалі ледзь ці не галоўную ролю ў гэтым ландшафце. Там, дзе сядзіба, там панскія асабнякі і службы, флігелі і аранжарэі, паркі і сажалкі, алеі і прыстані. Усякая сядзіба - гэта ў адпаведнай ступені яшчэ і музей, паколькі ў ёй стагоддзямі назапашваліся велізарныя гістарычныя і мастацкія каштоўнасці - карціны, кнігі, парцалян. У панскіх асабняках хаваліся незлічоныя, складзеныя некалькімі пакаленнямі асвечаных людзей, зборы дакументаў, партрэтаў, мэблі. А людзі, якія жылі ў сядзібах! Як шмат сярод іх было па-сучаснаму таленавітых пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў! Ды проста сумленных, энергічных людзей!

Тым часам, саміх сядзібаў, паркаў становіцца ўсё менш і менш. Сляды сядзібнай культуры рупліва сціраліся ў пораформенны час, неміласэрна знішчаліся ў гады першай рускай рэвалюцыі, у дваццатыя гады. Кожнае дзесяцігоддзе XX стагоддзя ўнесла свой ўклад ў гэты вар'яцкі і бязлітасны працэс. Абараняць сядзібу няма каму. Пазбаўленая сапраўдных уладальнікаў, яна асуджана на канчатковую згубу. Выратаваць сядзібу нельга. Затое яе можна вывучаць. У гісторыі шляхочай сядзібы можна знайсці айчынныя традыцыі аграноміі, прадпрымальніцтва, гасцінічнай і рэстараннай гаспадаркі, спорту, адпачынку. І гэта вывучэнне, аднойчы пачаўшыся, спадзяемся, будзе працягвацца заўсёды.

**Сядзіба Курасёўшчына (Курасоўшчына, Курасеўшчына, Курсеўшчына) Лідскага павету Віленскай губерні - згубленая спадчына.** Яе сляды можна знайсці сёння ў вёсцы Навіцкія-2 Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці.

У пошуках згубленага прыйшлося прарабіць вялікі шлях.

Перш чым шукаць сляды сядзібнага жыцця ў Курасёўшчыне, мы вырашылі вывучыць ролю шляхты і дваран-абшарнікаў, а таксама іхніх радавых гнёздаў у айчыннай і расійскай гісторыі.

Дваранства - вышэйшае прывілеяванае саслоўе ў Расійскай дзяржаве да 1917 года. У ВКЛ аналагічнае становішча займала шляхта, якая пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя ў большасці сваім атрымала правы расійскага дваранства.

У XIX стагоддзі 14% дваран у Беларусі валодалі зямлёй і прыгоннымі сялянамі (абшарнікі), 86% не мелі сялян (шляхта). На беларускіх землях, у адрозненне ад іншых рэгіёнаў Расійскай імперыі, дваранства складала адносна высокі адсотак насельніцтва. Напачатку 1860-х гг., напрыклад, у Віленскай губерні ён раўняўся 6,04%, у той час як у цэлым па Расіі - 3%. Нягледзячы на тое, што колькасць дваранства адносна агульнай колькасці насельніцтва імперыі была невялікай, яго ўплыў на ўсе бакі жыцця краіны і ўсе пласты грамадства быў велізарны.

Вызваленыя ад абавязковай вайсковай службы дваране мелі магчымасць займацца ўладкаваннем сваіх маёнткаў, якія былі асноўнай крыніцай сродкаў да існавання.

Дваранская сядзіба, якая на Беларусі мела назвы *маёнтак, фальварак, двор* - гэта ўнікальны па сваіх грамадскіх функцыях цэнтр эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця некалькіх пакаленняў дваран.

У руплівасці вядзення гаспадаркі многія з сядзібаў былі прыкладам для наваколля. У Адамполі Храптовіч упершыню ў Беларусі ўжыў шматпольны сеўбазварот: былі і васьміпольныя сеўбазвароты, і нават дванаццаціпольныя. Была праведзена меліярацыя і пракладзена дрэнажная сістэма, а апрацоўвалі зямлю не матыкай і лапатай, а сельскагаспадарчымі машынамі таго часу - ангельскай і амерыканскай вытворчасці. Тут было больш за 450 кароў швейцарскай пароды. А з іх малака на мясцовай сыраварні рабілі сыры, швейцарскіх і галандскіх гатункаў. Проста адгэтуль яны пастаўляліся ў Варшаву і Санкт-Пецярбург. Яшчэ тут займаліся адкормам валоў, якіх было больш за 300 - вялікія, па паўтары тоны кожны. Трымалі іх у адмысловых хлявах, дзе ўжо ў той час усё было механізавана. Пасярод хлява былі пракладзены рэйкі, па якіх рухаліся вагончыкі і дастаўлялі корм да кожнай кармушкі. Акрамя валоў гадавалі коней, авечак і свіней. Свіні былі замежнай пароды - ангельскай. Тут працавалі цэлыя тры бровары, а ў 1878 годзе замест іх пабудавалі адзін трохпавярховы спіртзавод адмысловай канструкцыі. Тут стаяла паравая машына на 80 конскіх сіл. Ад яе працавалі і млын, і алейня, і малатарня. І спірту на гэтым заводзе за год рабілі 160 тысяч літраў.

Прадукты з Адамполя карысталіся вялікім попытам, і не толькі ў Беларусі, але і ў далёкім замежжы. Таму на Нёмане была пабудавана прыстань: тавар везлі туды і па рацэ сплаўлялі да Балтыйскага мора, у порт Кёнігсберг, адкуль тавар ішоў у замежныя краіны.

Пасля адмены прыгоннага права значна пашырала сфера прадпрымальніцкай дзейнасці дваранства і ў далёкіх ад сельскай гаспадаркі абласцях: страхаванні, будаўніцтве, прамысловасці, банкаўскай справе. Сродкі для такой прадпрымальніцкай працы яно

часткова атрымлівала ад выкупных аперацый, гэта значыць ад выкупу сялянамі ў абшарнікаў зямельных надзелаў. Частка дваранства атрымлівала на гэта сродкі ад закладу як зямлі, так і сядзібаў, а таксама ад здачы зямлі ў арэнду. Не толькі буйныя землеўладальнікі, якім напачатку XX стагоддзя ў Расійскай імперыі належала дзве тысячы буйных прамысловых прадпрыемстваў, і якія займалі каля 1200 пасад у кіраваннях і радах акцыянерных кампаній, сталі ўладальнікамі каштоўных папер і нерухомасці. Значная частка і сярэдніх землеўладальнікаў папаўняла шэрагі ўласнікаў невялікіх гандлёва-прамысловых устаноў. Многія набылі прафесіі лекараў, юрыстаў, сталі пісьменнікамі, мастакамі, артыстамі. Усё гэта прывяло да таго, што значная частка маёнткавага дваранства страціла сувязь з зямлёй. Яно паступова выцяснялася сялянамі і купцамі. Аднак яго ўплыў на ўсе бакі жыцця краіны і ўсе пласты насельніцтва па-ранейшаму быў вялікі.

На мяжы XIX - XX стагоддзяў гэты ўплыў станавіўся ва ўсё большай ступені ўплывам у вобласці культуры і мастацтва.

Культура дваранскай сядзібы - гэта не толькі ўзаемадзеянне розных відаў мастацтва, мастацкага, літаратурнага і грамадскага жыцця, але і паўсядзённага побыту, заснаванага на традыцыях грамадства. Тып абшарніцкай сядзібы XVIII-XIX стагоддзяў уяўляў сабою комплексны архітэктурна-паркавы ансамбль, які складалі звычайна панскі дом з флігелем (ці флігелямі), абслуговыя пабудовы - стайні, аранжарэі, адрыны, парк і інш.

Стыль сярэднеабшарніцкіх сядзібаў 20-х ці 30-х гадоў XIX стагоддзя - класіцызм. Сведчыць вядомы гісторык XIX стагоддзя граф М. Д. Бутурлін: *"...мізэрныя дзедаўскія абшарніцкія хаткі, усе амаль шэрапапялістага колеру, дранкавая ашалёўка і дранкавыя дахі якія ніколі не фарбаваліся... У больш мудрагелістых вясковых пабудовах прыляпляліся, так бы мовіць, да гэтага шэрага фону чатыры калоны з франтонным трыкутнікам над імі. Калоны гэтыя былі ў больш заможных абтынкованыя і вышмараваныя вапнаю гэтак жа, як і іх капітэлі; у менш дастаткавых абшарнікаў калоны былі з кепскага хваёвага бярвення без усякіх капітэляў"*.



***Палац Тукалаў у Белых Балотах***





***Палац Тукалаў (іншая галіна) у Асцюковічах***



***Палац Тукалаў у маёнтку Святск-Гурскіх, в. Радзівілкі***

У сядзібах адмысловая ўвага надавалася садам і паркам. Адпавядаючы густам гаспадара, яны адлюстроўвалі і мастацка-эстэтычныя павевы эпохі.

У 1-й палове XIX стагоддзя сады яшчэ захоўвалі планоўку, пакінутую ад рэгулярных паркаў, астатняе дадавала прырода. Менавіта стары разрослы рэгулярны парк лёг у аснову стылю сядзібных садоў. *"У іх увесь час праглядаецца і рэгулярная планоўка, і выхады за межы рэгулярнасці, створаныя самой прыродай, яе вечнымі сіламі"*, - адзначаў акадэмік Д.С. Ліхачоў у сваёй кнізе "Паэзія садоў".

Пачынальна з другой паловы XIX стагоддзя

планоўка сядзібаў становіцца вельмі разнастайнай. Многія сядзібы набываюць відавочныя ўтылітарныя рысы, становяцца магутнымі гаспадарча-вытворчымі комплексамі. Сядзібнае дойлідства гэтага часу прадстаўлена шматлікімі мясцовымі варыянтамі, у якіх адлюстраваны матэрыяльныя магчымасці ўладальнікаў, іх густы і геамарфалагічныя ўмовы. Сядзібныя дамы будуюцца ў стылі неаготыкі, неакласіцызму з выкарыстаннем формаў псеўдарускага стылю драўлянага дойлідства. Шэраг дамоў быў выбудаваны ў рэтраспектыўна-замкавых формах.

Незвычайная разнастайнасць выявілася і ў садова-паркавай вобласці. Усё часцей пачалі выкарыстоўвацца прыёмы рэгулярнай планоўкі, узрастала ўтылітарнасць. Уладальнікаў сядзіб вабіла практычнасць і выгода рэгулярных паркаў, у якіх вырошчваліся пладовыя дрэвы, пладова-ягадныя, кветкавыя і агароднінныя расліны. У сярэдзіне XIX - пачатку XX стагоддзяў шырока ўжывалася імітацыя рэгулярнага парку, для чаго выкарыстоўвалі цесную пасадку ліп ці клёнаў у вузкіх алеях. Гэта было вылучна айчыннае вынаходства. У Заходняй Еўропе нічога падобнага не назіралася.

Будуючы сваю сядзібу, шляхочая сям'я ў першую чаргу шукала ў ёй пачуццё камфортнасці, абароненасці, волі і функцыянальнасці. А афармляючы яе інтэр'ер, яна задавальняла свае эстэтычныя густы, амбіцыі, імкнулася праз інтэр'ер захаваць гісторыю страчанай даўніны, і выхоўваць у сваіх дзецях гістарычную памяць

Інтэр'ер сядзібы XIX - пачатку XX стагоддзяў дыктаваў яе жыхарам стыль паводзін, псіхалагічную ўстаноўку і настрой. А рэчы, з якіх ён складаўся, ствааралі вакол сябе адпаведны культурны кантэкст, уключалі сям'ю ў культурную традыцыю. Унутранае ўладкаванне такіх панскіх дамоў, па сведчанні гісторыка М. Д. Бутурліна *"было зусім аднолькава ўсюды, яно паўтаралася без усякіх амаль змен ва ўсіх губернях"*. І багатыя і дробныя сядзібы мелі традыцыйную для XIX стагоддзя планоўку: сенцы дзялілі хату на два функцыянальных прасторы - госцевую і прыватную з гаспадарчай часткай. Да таго ж у 1-й палове XIX стагоддзя існавалі адмысловыя парады, літаратурныя рэкамендацыі па афармленні сядзібы для вясковай, сярэдняга дастатку шляхочай сям'і.

К. Накваска ў сваёй шматтомнай працы "Dwor wiejski" пісала пра неабходнасць у доме наступных пакояў: сенцаў ці передпакоя з печчу ці камінам, сталовай, спальні, гардэробнай і дзіцячай пакояў, мужчынскага ці, як яго звалі "кавалерскага", памяшкання для гасцей, для забаў, більярдавага пакоя. Калі дазвалялі магчымасці, раіла яна, можна дадаць сюды яшчэ сямейную каплічку, і пакоі для старэйшых сыноў.

Прыкладна ў 30-я гг. XIX ст. пачалася мадэрнізацыя шляхочай сядзібы. Штодзённыя і святочныя справы, гульні патрабавалі асобных пакояў. Увага надавалася не толькі гасцявым пакоям, але і звычайным жылым памяшканням.

Сядзібныя дамы перарабляліся на ангельскія катэджы і італьянскія вілы. Прыйшла іншая эпоха, якая ўносіла камфорт, дастатак і змяняла аблічча асяроддзя. Размываліся межы патрыярхальнай часткі дома на жаночую і мужчынскую часткі. Знікалі "кавалерскія" пакоі для кампаній, што прызначаліся вылучна для мужчын. Замест іх з'яўляліся салоны, будуары, якія размяшчаліся каля сталовай, бальныя залы.

Апальваліся сядзібы шведскімі, галандскімі печамі з белай, зялёнай, блакітнай кафлі і камінамі. Іх дэкаратыўнае афармленне служыла своеасаблівым аздабленнем пакоя. У сярэднім дом з 6-ці жылых пакояў меў 3 печы і 1-2 каміны. Яшчэ адна гаспадарчая печ знаходзілася на кухні. Па ўспамінах І. Ходзькі, у шляхочых сем'ях існавала няпісанае правіла: каля камінаў ставіць вялікія зэдлікі, утульныя канапы, дзе маглі б размясціцца ўсе сямейнікі.

Асвятлялася сядзіба свечкамі і лямпамі. Напачатку XIX стагоддзя свечкі былі самаробнымі з прадуктаў уласнай гаспадаркі: заячы ці бычыны тлушч змешвалі са скарыстаным воскам. Пазней у некаторых сядзібах пачалі ўжываць стэарынавыя свечкі. У 2-й палове XIX стагоддзя з'явілася нафтавая лямпа. Агонь распальвалі крэсівам. Толькі ў 90-х гадах увайшлі ва ўжытак першыя запалкі. Падлога галоўным чынам была драўлянай.

Вялікая цікавасць выклікае не толькі сама шляхочая сядзіба як помнік культуры, але і асоба "жывога абшарніка" - уладальніка такога маёнтка.

Атрымаўшы агульнае ўяўленне пра абшарнікаў і шляхочыя сядзібы, стала магчымым звярнуцца канкрэтна да сядзібы фальварка Курасёўшчына пад Лідай.

Мы запрасілі пра яе звесткі ў архівах Беларусі і Літвы, у розных інтэрнэтрэсурсах, звязаліся з Інстытутам гісторыі НАН РБ, ГДУ ім Я. Купалы, польскім журналістам Ежы Самусікам, якія вывучаюць старадаўнія сядзібы Гарадзеншчыны. У выніку мы знайшлі матэрыялы пра ўладальнікаў фальварка - Тукалаў у шэрагу пісьмовых крыніц. А самае галоўнае, мы знайшлі дзяцей і ўнукаў апошняга фальваркоўца Курасёўшчыны, якія жывуць сёння ў Польшчы (дадатак 1).

Архіўныя дадзеныя, сведчанні і фотаматэрыялы, дасланыя з Польшчы чальцамі сям'і Тукалаў, дапамаглі нам вывучыць генеалогію старадаўняга шляхочага роду Тукалаў.

Першым прадстаўніком роду Тукалаў, пра якога згадваюць пісьмовыя крыніцы 1460 года, быў **Мацей Тукала**. У 1550 годзе яго сын Ян ажаніўся з Ганнай Булгак. У іх было тры сыны - **Станіслаў**, **Кастусь Станіслаў** і **Мікалай**. Першы ў 1612 годзе займаў пасаду памочніка лідскага суддзі, два іншыя пасяліліся ў 1586 годзе ў сядзібе Ольжава (цяпер вёска Ольжава).

У Віленскім ваяводстве зафіксаваны **Мікалай Тукала** пад 1648 годам і **Крыштаф Тукала** пад 1674 годам. Абодва падпісалі элекцыю караля Яна Казіміра ў 1648 годзе.

У рэестры Лідскага павету1690 года пазначаны населены пункт **Ольшаў Тукалаўскі** і яго ўладальнік **Станіслаў Тукала**.

**Юзаф Тукала** гербу **Шранява** з Ольжава (сын ці брат Станіслава Тукалы) быў лідскім стайнікам да 1717 года. Яго сын **Міхал** быў лідскім будаўніком. Звесткі пра яго маюцца ў пераліку 1844 года маёнткаў Лідскага павету, складзеным па дадзеных 1834 года: "354. Tukallo Michal s. Jozefa - Kurosiowszczyzna - 55". Паводле гэтых звестак Міхалу Тукалу належала Курасёўшчына з 55-ю прыгоннымі сялянамі. Яшчэ адна пісьмовая крыніца паказвае на тое, што Міхал Тукала быў удзельнікам паўстання Т. Касцюшкі: "5 траўня 1794 гады на падставе "Універсала да ваяводстваў і паветаў правінцыі Вялікага Княства Літоўскага і гарадоў вольных" Найвышэйшай Рада ВКЛ у Лідзе была створана Парадкавая камісія Лідскага павету. У яе склад увайшлі…..камісар вайскова-цывільны Міхал Тукала….Пасля 30 траўня парадкавая камісія была расшырана да 21 сябра, складалася яна з 7 аддзелаў….Аддзел бяспекі: Міхал Тукала…"



*Герб Тукалаў "Шранява"*

Некаторыя пісьмовыя крыніцы паказваюць на тое, што на старых каталіцкіх могілках у Лідзе (пр.



*Надмагілле Міхала Тукалы на Лідскіх каталіцкіх могілках (адзіная магіла паўстанца Касцюшкі ў Лідзе)*

Перамогі) пахаваны адзін з прадстаўнікоў роду Тукалаў. Мы паспрабавалі адшукаць пахаванне. Справа гэтая аказалася нялёгкай таму, што вялікая частка надмагілляў была пашкоджана падчас Другой Сусветнай вайны бамбёжкамі і абстрэламі і пасля вайны. Аднак мы знайшлі надмагілле, якое, па нашых здагадках, стаіць на магіле Міхала Тукалы. Мяркуючы па фрагментах надпісу, тут яго парэшткі. Добра



*Надмагілле Міхала Тукалы на Лідскіх каталіцкіх могілках (пастамент)*

прачытваюцца першыя дзве лацінскія літары прозвішча Тукалы: ***TU*** і апошняя літара: ***Y***. Чытаем: **"zwlo**(ki) **S. P. ... TUK**(ALL)**Y"** Далей: **"... l Woj**(ska) **Polsk**(iego)**"**. Трэба чытаць **"генерал Войска Польскага"** бо з іншых польскіх вайсковых званняў на "л" заканчваецца толькі званне "капрал", але яно не афіцэрскае, а Тукалы - шляхта. Тым больш, што Міхал Тукала быў Вайскова-цывільны камісар і зусім верагодна атрымаў званне генерала пад час паўстання Касцюшкі. Далей **"... 24 Listopada ..."**. Верагодна гэта дзень нараджэння. Далей "(zma)**rl d. 19 Lipca 18**(4)**7**". Лічба **4** невыразная, але правы край відзён. Пацвярджае расшыфроўку біяграфія сына Міхала Тукалы - Яна.

**Ян Тукала** (1811-1905 гг.), сын Міхала быў жанаты на Рацуўной. У працы Чэслава Малеўскага "Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku" ёсць звесткі пра тое, што ён стаў уладальнікам Курасёўшчыны пасля смерці свайго бацькі: "Тукала Tukallo (7.7.1811 г.) - сядзіба Курасёўшчына інакш Валерава (1847-1905




*Ян Тукала, былы капітан польскіх войскаў, былы ўладальнік Курасёўшчыны і Рачкоўшчыны*

г., з вёскамі Навіцкія, Навасёлкі - 527 дзесяцін, 42 мужч. душ, 46 жан. душ. Ян сын Міхала ў 1847 г.) - парафія Лідская". Ян Тукала стаў уладальнікам Курасёўшчыны ў 1847 годзе пасля смерці свайго бацькі Міхала. Ян быў капітанам Польскага Войска, якое існавала да паўстання 1831 года. Аднак пра ўдзел яго ў паўстанні нічога не вядома. Разам з тым у нейкі перыяд ён быў яшчэ і ўладальнікам Рачкоўшчыны. У іншы перыяд Рачкоўшчына належала яго дзядзьку Валерыю.

Яшчэ адзін сын Юзафа Тукалы - **Валеры** быў жанаты з **Эльжбетай Немаршчанскай**, актыўна удзельнічаў у паўстанні Кастуся Каліноўскага 1863 года. За тое, што ваяваў у шэрагах паўстанцаў у раёне Аўгустоўскага канала, царскія ўлады канфіскавалі яго маёнтак Рачкоўшчына.

Сын Валерыя Тукалы - **Валеры Рышард Тукала** жаніўся ў 1891 годзе з **Ядвігай Сабалеўскай** з прыходу Сільванаўцы Гарадзенскай парафіі. Яе пасагам была сядзіба **Белыя Болоты** (сёння гэта тэрыторыя Беларусі, Гарадзенскі раён).

Гэтая сядзіба стала галоўным месцам пражывання сям'і Тукалаў, і менавіта там нарадзіліся і выраслі сямёра дзяцей Валера Рышарда і Ядвігі Тукалаў.

У лісце, атрыманым ад Цэцыліі Тукалы, гаворыцца, што Валеры Рышард Тукала памёр у 1929 годзе і пахаваны, паводле яго жадання, на могілках у Лідзе. Яго апошняй воляй было даручэнне да сваіх сыноў аднавіць родавыя пахаванні Тукалаў на гэтых могілках. Нажаль, магіла Валерыя Рышарда пакуль не знойдзена.

Ядвіга Тукала-Сабалеўская, нарадзіўшы сямёра дзяцей, памерла ў маладым узросце. Парэшткі яе ў касцёле, пабудаваным яе бабуляй у 1865-1867 гг. у Сільванаўцах . Там жа трое яе дзяцей: **Валеры Ежы** (загінуў падчас савецка-польскай вайны ў 1920 годзе), **Станіслаў** (трагічна памёр у 1930 годзе) і **Міхал** (трагічна загінуў у 1933 годзе).




***Валеры Рышард Тукала***




***Валеры Ежы Тукала***



***Валеры Рышард Тукала разам з жонкай Ядвігай і дзецьмі (у цэнтры і на першым плане). У глыбіні дальшая радня. Год 1905.***




***Парафіяльны касцёл у Селіванаўцах***




***Станіслаў Тукала***




***Міхал Тукала***

Да чацвярых іншым дзецей лёс быў больш добразычлівы. **Ядвіг**а выйшла замуж за Коцкага (памерла ў 1978 г.).

**Марыя Галіна** была замужам за Юзафам Гурскім, фальваркоўцам у в. Радзівілкі (тэрыторыя Беларусі, Гарадзенскі раён).

**Тадэвуш Юзаф** ажаніўся з **Марыяй Хоўвальт** (памёр у 1981 годзе, пахаваны на тэрыторыі Польшчы).




***Ядвіга Тукала Коцкая***



***Тадэвуш Тукала з сябрамі на палях тытуню ў Белых Балотах***

**Яўген** у 20-я гады XX ст. жаніўся з **Геленай** з роду **Ставецкіх**, якія пражывалі ў той час у Гародні. Быў акруговым суддзём у Гародні. У 1930 годзе ад свайго бацькі Валерыя Рышарда Тукалы ён атрымаў у спадчыну сядзібу Курасёўшчына. Займаная ім пасада патрабавала сталай прысутнасці яго сям'і ў Гародні. Праўда, на летні перыяд сям'я выязджала ў сядзібу Монькаўцы, што была часткай маёнтка Белыя Болоты, які належаў у той час брату Гелены Тукалы Тадэвушу.

У Яўгена і Гелены Тукалы было чацвёра дзяцей: два хлопчыкі - **Багдан** і **Ежы**, і дзве дзяўчынкі - **Цэцылія** і **Бажэн**а. Багдан загінуў у 1944 годзе, ваюючы ў шэрагах Арміі Краёвай. Ежы трагічна загінуў у аварыі ва ўзросце 39 гадоў.

У наш час у польскім горадзе Сопат пражыва-




***Яўген і Гелена з Ставецкіх Тукалы, апошнія ўладальнікі Курасёўшчыны***



***Сям'я Тукалаў з суседзямі ў Курасёўшчыне***




***Сям'я Тукалаў у дваровым парку ў Курасёўшчыне***

юць 82 -гадовая Цэцылія і 71-гадовая Бажэна Тукала і сын Бажэны - **Пётр**.



***Пётр Тукала пад эпітафіяй Ядвігі Тукалы Сабалеўскай ў касцёле ў Селіванаўцах, 1994 год***

Паводле перапісу населеных пунктаў Лідскага павету, праведзенага у 1905-1907 гг., Курасёўшчына была **маёнткам Тукалы**, размешчаным на рацэ Лідзейцы, за 9 вёрст ад павятовага горада, за 5 вёрст ад валаснога кіравання, за 8 вёрст ад станавой кватэры і за 10 вёрст ад чыгуначнай станцыі Ліда. Да маёнтка было прыпісана 52 жыхары (22 мужчыны і 30 жанчын) і 277 дзесяцін зямлі.

Нажаль, ва ўспамінах Цэцыліі Тукалы звестак пра сядзібу Курасёўшчына зусім мала. Ёй было 9 гадоў, калі сям'я Тукалы ў 1939 годзе выехала ў цэнтральную Польшчу. Па аповядах сваёй маці Гелены яна ведае, што сядзіба была разрабавана двойчы: падчас Першай Сусветнай вайны 1914 -1918 гг. і савецка-польскай 1920 г. Згарэлі сядзібны дом і вялікая частка гаспадарчых пабудоў. Якім быў архітэктурны стыль гэтага дома, невядома. Можна выказаць здагадку, што ён быў падобны стылю сядзібнага дома ў Белых Балотах. Па-першае, у сярэдзіне XIX стагоддзя, у той час, калі Ян Тукала ўладкоўваў Курасёўшчыну, жылы абшарніцкі дом ўяўляў сабою цэнтральную, часта двухпавярховую, частку, дзе жыла панская сям'я, і флігель (ці флігелі), прызначаныя для старэйшых дзяцей, гасцей і гаспадарчых памяшканняў. Па-другое, калі выказаць здагадку, што сядзібны дом перабудоўваўся ў часы Яўгена Тукалы, то вялікая верагоднасць таго, што рабілася гэта па ўзоры дома ў Белых Балотах ці ў Монькаўцах. Бо менавіта туды кожнае лета прыязджала сям'я Тукалы. Думаецца, што парк у сядзібе імітаваў рэгулярны.



***Сядзібны дом Тукалаў ў Курасёўшчыне (сучасны выгляд)***

Захаваная да нашых дзён вузкая кляновая алея была неад'емнай часткай такога парку ў сярэдзіне XIX - пачатку XX стагоддзяў.

Цэцылія Тукала распавядае, што ў 1930-1939 гг. Курасёўшчыну арандаваў Каўфман, уладальнік парфумерыі ў Лідзе. Землі ў фальварку былі заняты ляснымі ўрочышчамі, сенажацямі і ворывам. На гэтых землях гадавалі мяса-малочную буйнарагатую жывёлу. Па рэкамендацыі Яўгена Тукалы арандатар Каўфман пабудаваў у сядзібе сыраварны завод. Частка прыбыткаў ад сядзібнай гаспадаркі ішла на пашырэнне вытворчасці, на меліярацыю, на аднаўленне панскага дома і парку.

Сям'я Тукалаў наездамі бывала ў Курасёўшчыне. Мясцовыя жыхары памятаюць апошніх фальваркоўцаў. Вольга Фёдараўна Мароз з в. Навіцкія-2 распавяла пра тое, што яе маці, Надзея Іллінічна Паўлоўская, 1894 года нараджэння, была прыслугай, а дзед Ілля Ілліч - лесніком у сядзібе. Яны сведчылі пра тое, што пан і пані былі высокаадукаванымі, таленавітых сялян прыкмячалі і апекавалі. Івана Хітруна, які граў на скрыпцы, добра спяваў і танчыў, вывучыўся гаварыць па-французску, часта запрашалі ў панскі дом на імпрэзы. Абшарнікі былі стрыманымі, ніколі не павышалі голас на прыслугу.

На сённяшні дзень ад былых сядзібных пабудоў засталіся толькі фрагменты панскага дома і некалькі гаспадарчых пабудоў.

З 1939 па 2012 гады сядзібны дом ў Курасёў-



*Сядзібны дом Тукалаў ў Курасёўшчыне (сучасны выгляд)*



*Падлога*



*Падмурак*



*Аконнае перакрыцце*



*Лесвіца*

шчыне прыстасоўвалі то пад нарыхкантору, то для патрэб швейнай і мэблевай вытворчасцяў. Асобныя памяшканні сталі жылымі пакоямі для тых, хто працаваў у калгасе "Запаветы Ілліча".

Ад таго, што калісьці знаходзілася ў маёнтку Курасёўшчына, засталіся:

- частка сядзібнага дома,
- вялікі гаспадарчы будынак,
- невялікі гаспадарчы будынак,
- будынак вежавага тыпу,
- падмурак нейкіх яшчэ пабудоў і будаўнічы камень побач з ім,
- кляновая алея, якая вядзе да сядзібнага дома.

У сядзібным доме на другім паверсе 7 гадоў таму назад знаходзілася невялікае прыватнае прадпрыемства па вытворчасці мэблі. Гаспадары прадпрыемства знайшлі іншыя вытворчыя памяшканні, і гэты паверх мэбельшчыкі вызвалілі, пакінуўшы пасля сябе памяшканні ў аварыйным стане. На першым паверсе пражываюць дзве сям'і. Як выглядае дом знадворку, можна меркаваць па фота. Захаваўся падмурак з гранітных валуноў, стары цагляны мур. У нежылой частцы дома, куды можна бесперашкодна ўвайсці, на першым паверсе падлогі выкладзены гранітным

брукам (часаным каменем), на другі паверх вядуць стромкія драўляныя ўсходы. У доме ніколі не было ні вадаправода, ні каналізацыі, але ён электрафікаваны.

Вялікі гаспадарчы будынак, які стаіць за 500 м ад дома і будынак вежавага тыпу, сёння знаходзяцца на тэрыторыі невялікай прыватнай фірмы, што выраляе ходнікавую плітку. Гэта, даволі вялікая, тэрыторыя, блізка прылеглая да дома, абнесена высокім глухім плотам. Падмурак іншых будынкаў знаходзіцца за 500 метраў ад дома.

Час пабудовы невялікага гаспадарчага будынка



***Вялікая гаспадарчая пабудова***



***Будынак вежавага тыпу***



***Фундамент колішняга будынка***

пасляваенны. Цэгла для яго была выраблены на цагельні ў паселішчы Шайбакі, якое размешчана за 7 км ад в. Навіцкія-2. На цэгле выразна відаць таўро гэтага завода.

Пра сядзібны парк нагадвае кляновая алея,



***Невялікая гаспадарчая пабудова***




***Кладка з шайбакоўскай цэглы***

уздоўж якой стаяць хаты жыхароў в. Навіцкія-2. Амаль палова дрэў ужо загінула, многія з іх дажываюць свой век. Але некалькі дзясяткаў дрэў стаяць, як магутныя волаты і цешаць вока пышнай кронай . Старыя паркавыя дрэвы стаяць яшчэ і каля дома, і ў тым месцы, дзе раней, відаць, былі нейкія сядзібныя пабудовы.

Шкада, што лёс дваранскай сядзібы на Беларусі







***Кляновая алея***

аказаўся нешчаслівым. Пасля кастрычніка 1917 года ў адпаведнасці з Дэкрэтам аб зямлі дваранства было пазбаўлена ўласнасці на зямлю, а па дэкрэце ЦВК і СНК "Пра знішчэнне саслоўяў і грамадзянскіх чыноў" - і свайго саслоўнага статусу. Гэты дэкрэт дайшоў да Курасёўшчыне толькі ў 1939 годзе, і таму сядзібу загубілі не гэтулькі войны і рэвалюцыі, колькі звычайныя цемра і невуцтва, няўменне і нежаданне бачыць штосьці значнае зусім побач.

У наш час гістарычныя сядзібы працягваюць руйнавацца па розных прычынах, і ў першую чаргу ад адсутнасці элементарнай увагі і нагляду. Сучасная праблема старадаўніх сядзібаў - гэта не настальгія. Іх трэба ратаваць. "Помнікі не маюць іншай альтэрнатывы, акрамя як прыстасаванне да новага функцыянальнага выкарыстання, кансервацыі і дзяржаўнага заступніцтва". Гісторыя дваранскіх сядзібаў у яе ранейшым, першародным выглядзе скончылася. І ўсё ж невялікая частка з іх працягвае жыць у іншым, змененым выглядзе. У форме музеяў яны працягваюць захоўваць нашу спадчыну, далучаючы да гэтай культуры ўсё большую колькасць людзей.

**Кропка на планеце**

На сваім вяку кожнаму з нас даводзіцца пабачыць нямала мясцін. І кожная з іх у нашай памяці пакідае свой след - трывожна-балючы ці ўсхвалявана-радасны.

Колькі розных думак і пачуццяў перапаўнялі маю душу падчас наведвання ў вёсцы Навіцкія-2 мясцін, дзе раней была сядзіба Курасёўшчына.

Перш за ўсё пачуццё шкадавання і сораму за нас, што не ўмеем шанаваць тое, што створана іншымі пакаленнямі. Прыкра за наша гістарычнае бяспамацтва. Можна запярэчыць: быў такі час. Але ж гэта толькі беспадстаўнае апраўданне.

У кожнага ён свой, парог сумлення,
Яго пераступіць - сябе згубіць.

Я не хачу сябе згубіць, таму і займаюся гэтай працай - вывучэннем гісторыі сядзібы Тукалаў.

Сёння гэты куток - маленькая кропелька таго, што было сядзібай. Ды і то на ўсім бачна пячатка людской абыякавасці. Я дакранулася ды сцен панскага будынка і адчула грук сэрцаў і цяпло рук людзей, якія будавалі яго і жылі тут. У гэтых сценах жыло некалі шчасце і радасць, боль і трывога, надзея і роспач.

А калі б сёння хто-небудзь з нашчадкаў роду захацеў прыехаць на саю малую радзіму, дзе яго карані, дзе цвіло яго маленства, дзе кожнае дрэўца (а цяпер ужо магутныя клёны!) вее знаёмым родным водарам. Што б яны ўбачылі? Іх спадзяванні разбіліся б аб валуны людской нядбайнасці.

А яшчэ я зразумела, што няма мяжы як у чалавечай дабрыні, так і ў людскай хціваcці і сквапнасці… Даруй, Божа, усім тым, хто гэта рабіў - бо не ведаюць яны, што твораць. А калі ведаюць і робяць, то якой жа павінна быць кара за гэты грэх - зруйнаваную памяць…

Маім шчымліва-трывожным думкам сугучны і радкі Васіля Зуёнка:

*Ніхто не пачуў:*
*Яблык упаў дасвецем…*
*Ніхто не пачуў -*
*Ні людзі, ні трава, ні вецер.*
*Ніхто.*
*А шар зямны здрыгнуўся.*

Мне б хацелася, каб радкі гэтага маленькага, на маю думку, шэдэўра, напоўненага шматзначнасцю і багаццем асацыяцый, пастукаліся ў сэрца кожнага і мы пачулі гэты грук.

На шчасце настаў час (і гэта радуе і ўсяляе надзею), калі нашы счарсцвелыя душы асвятляе прамень занепакоенасці - вывучыць, зберагчы і за-

хаваць гістарычную спадчыну роднага краю для нашчадкаў. Я спадзяюся, што мая даследчая праца - маленькая цаглінка ў падмурку адраджэння гістарычных сядзіб - будзе мець плён.

*Аўтар* ***Вікторыя Акола,***
*вучаніца 9 класа Ёдкаўскай СШ.*
*Кіраўнік* ***Святлана Аляксееўна Агарка****,*
*кіраўнік гістарычна-краязнаўчага*
*музея Ёдкаўскай СШ.*

***Дадатак 1.***

***Ліст Цэцыліі Тукалы дырэктару Ёдкаўскай СШ ад 12.02.2012 г.***

*Cecylia Halina Тукала [Цэцылія Галіна Тукала]*
*Ul. Zeromskiego 7/9 т. [вул. Жаромскага]*
*81-826 Sopot, [Сопат]*
*woj. pomorskie, Polska [Паморское ваяводства, Польшча]*

***Паважаны спадар дырэктар Маркевіч.***

*Праз спадара Андрэя Гяцэвіча, які па Інтэрнэце звязаўся з Пятром Тукалам, я атрымала інфармацыю пра Вашы пошукі адносна сям'і Тукалаў з сядзібы Курасёўшчына пад Лідай. Мяне завуць Цэцылія Тукала, і я разам з сястрой Бажэнай з'яўляемся дочкамі апошняга ўладальніка Курасёўшчыны, Яўгенія Тукалы. Пётр Тукала гэта сын маёй сястры Бажэны. Мае веды на тэму Курасёўшчыны абмежаваныя, бо даўнія польскія Ўсходнія Крэсы я пакінула разам з сям'ёй ва ўзросце 9 гадоў, пасля 17 верасня 1939 года, перасяляючыся на тэрыторыю цэнтральнай Польшчы. У наш час я з'яўляюся самым старэйшым чальцом сям'і і мне ўжо 82 гады. Пачатак вайны і неабходнасць неадкладных уцёкаў пазбавілі нас магчымасці ўзяць і захаваць шматлікія дакументы, а таксама фатаграфіі, якія маглі б дапамагчы Вам у Вашых працах. Ніжэй, для ўводзін, мы падрыхтавалі некаторую інфармацыю пра нашы продкаў, якія нейкім чынам запісаліся ў гісторыі Віленшчыны, Гарадзеншчыны і Лідскай зямлі, а таксама кароткую гісторыю нашай сямейнай галіны да цяперашняга часу. Генеалагічныя спісы нашага роду і іх валоданняў павольна атрымліваем з розных крыніц (у т.л. ад далейшых чальцоў нашай сям'і). Першае згадванне пра нашу сям'ю датычыцца Мацея Тукалы і датуецца 1460 годам. Яго сын Ян жаніўся з Ганнай Булхакаўнай з 1550 года, з якой у яго былі тры сыны Станіславаў, Канстанты Станіслаў і Мікалай. Станіслаў з 1612 года выконваў пасаду лідскага памочніка суддзі. Канстанты Станіслаў разам з Мікалаем пасяліліся ў сядзібе Ольжава (vel Ольжаў) у 1586 годзе. Юзаф Тукала з Ольжава быў лідскім стайнікам да 1717 гады. Яго сын Міхал ад 1787 гады быў лідскім будаўніком. Ян Тукала (1847 г.н. - памёр 1905), сын Міхала, які ажаніўся на Рацоўнай, быў уладальнікам Курасёўшчыны (vel Валерава), з вёскамі Навіцкія і Навасёлкі Лідскага прыходу. Валеры Тукала, сын Юзафа Тукалы, які ажаніўся з Эльжбетай Немаршчанскай, актыўна ўдзельнічаў у Студзеньскім паўстанні (1860-1863) супраць расійскага захопніка ў раёне Аугустова. Па гэтай прычыне, пасля канца паўстання, расійскія ўлады канфіскавалі яго маёнтак Рачкоўшчына. Сын Валерыя, Валеры Рышард Тукала, жаніўся ў 1891 годзе з Ядвігай Сабалеўскай з прыходу Сільванаўцы, якая ў пасаг прынесла маёнтак Белыя Балоты (vel Беліца), размешчаныя больш за дзясятак кіламетраў на поўнач ад г. Гародня, недалёка ад Сопоцкіна (цяпер на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь). Гэтыя маёнткі сталі галоўным месцам пражывання сям'і Тукалы, і менавіта там нарадзіліся і выхоўваліся дзеці Валерыя Рышарда і Ядвігі, г.зн. Валеры (загінуў у 1920 г. падчас польска-бальшавіцкай вайны, студэнт Сельскагаспадарчага ўніверсітэта), Ядвіга (выйшла замуж за Концкага, памерла ў 1978 годзе), Марыя Галіна (выйшла замуж за Юзафа Гурскага з маёнтка Свяцк-Гурскіх), Тадэвуш Юзаф (жаніўся з Марыяй Хоўвальт, памёр у 1981 годзе на тэрыторыі Польшчы), Міхал (трагічна загінуў у 1933 годзе), Станіслаў (трагічна памёр у 1930 годзе, учадзеў у маёнтку Белыя Балоты), Тадэвуш Юзаф - уладальнік Курасёўшчыны, памёр у 1981 годзе на тэрыторыі Польшчы). Ядвіга з Сабалеўскіх Тукала пасля нараджэння сямярых дзяцей памерла ў маладым узросце і пахавана ў касцёле ў Сільваноўцах, які ў 1865-1867 гг. быў заснаваны яе бабуляй. Там таксама, у крыпце касцёла, побач з чальцамі сям'і Сабалеўскіх пахаваны трое яе дзяцей. Касцёл і крыпта з трунамі захаваліся дагэтуль. Валер Рышард Тукала памёр у 1929 годзе і пахаваны, паводле свайго жадання, на могілках ў Лідзе (прыход Узнясення Святога крыжа ў Лідзе і, калі захаваліся прыходскія кнігі, там менавіта будуць усе звесткі). У сваёй апошняй волі даручыў сынам аднаўленне сямейных магіл Тукалаў на гэтых могілках. Пасля смерці Валера Рышарда Тукалы паводле яго волі Курасёўшчына як сямейная рэліквія была запісана нашаму бацьку Яўгенію і яго брату Станіславу Тукалу. Паколькі Станіслаў трагічна загінуў у 1930 годзе, адзіным уладальнікам з 1930 да 1939 года быў Яўген Тукала. З-за займанай пасады, ён разам з сям'ёй увесь час пражываў у г. Гародня ў сваёй хаце, летні перыяд праводзячы ў сядзібе Монькаўцы (частка маёнтка Белыя Балоты, атрыманай у спадчыну пасля маці Ядвігі), якая была ў суседстве з сядзібай Белыя Балоты (уласнасць брата Тадэвуша). Бацька наш, Яўген Тукала, у дваццатыя гады мінулага стагоддзя жаніўся з нашай маці Геленай са Ставецкіх (якая жыла ў Гародні) і ў іх было чацвёра дзяцей, г.зн. сын Багдан, сын Ежы, дачка Цэцыля, значыць я, і дачка Бажэна, мая сястра, што нарадзілася падчас вайны ў 1941 годзе. У 1944 годзе самы старэйшы сын Багдан загінуў падчас бітваў як партызан Арміі Краёвай. Сын Ежы загінуў ва ўзросце 39 гадоў у трагічнай аварыі пасля вайны. У наш час разам з сястрой Бажэнай і яе сынам Пятром жывём у Сопаце. Нажаль, у нас няма вялікай інфармацыі на тэму Куросёўшчыны па прычынах, якія я раней прадставіла. Мы ведаем, што сядзіба была абрабавана падчас I Сусветнай вайны, а затым падчас польска-бальшавіцкай вайны ў 1920*

*годзе, калі спалілі большасць забудоў разам з палацам. У 30-тыя гады мінулага стагоддзя, па ўспамінах маёй маці Гелены Тукалы, палац быў адноўлены, аднак дадзеная інфармацыя не была пацверджана. У 1930-я да 1939 года Куросёўшчына разам з меншай сядзібай Семякоўшчына (vel Сінакоўшчына) разам з урочышчам Трылясоўшчына былі арандаваны Каўфманам, уладальнікам парфумерыі ў Лідзе. Маёнтак уключаў у вялікай меры шырокія вільготныя сенажаці (акрамя лясоў і ворнай зямлі) і ў сувязі з гэтым быў накіраваны на гадоўлю жывёлы і вытворчасць малака. Паводле рэкамендацый майго бацькі Яўгенія, у сядзібе быў разбудаваны сыраварны завод, а за вытворчасцю сыроў назіраў згаданы ўжо арандатар Каўфман. Прыбыткі, атрыманыя такім спосабам, галоўным чынам былі прызначаны на аднаўленне палаца і разбудову гаспадарчых забудоў, меліярацыю і ўтрыманне гістарычнага парку (гэтая інфармацыя таксама з успамінаў маёй маці Гелены Тукалы). Нас цешыць магчымасць усталявання кантакту з Вамі і нас вельмі цікавіць, ці засталося што-небудзь з сядзібы Курасоўшчына. У наш час у Польшчы павялі-чылася зацікаўленасць гісторыяй былых усходніх ускраін польскіх земляў (Усходніх Крэсаў) і іх былымі жыхарамі. Дзякуючы гэтаму, у апошні час з'явілася шмат распрацовак на гэтую тэму, падрыхтаваных новым пакаленнем гісторыкаў (бо і зацікаўленасць з Вашага боку). Прыкладам можа быць тут праца чальцоў гарадзенскага клуба "Спадчына", дзе выдатна апісана гісторыя маёнтка Свяцк-Гурскіх, які з'яўляўся ўласнасцю нашых сваякоў. Дадзеная праца ў вялікай меры падрыхтаваны на грунце ўспамінаў старэйшых жыхароў навакольных вёсак. Магчыма ўсталяванне сувязі з людзьмі, якія пражываюць у наваколлях былой сядзібы Куросоўшчына, дапаможа Вам у пошуках. Для таго, каб Вам дапамагчы, ніжэй паказваем прозвішчы асобаў, якія да вайны, у рамках вымушанай парцаляцыі земляў, што прылягалі да Курасёўшчыны і Семякоўшчыны, сталі суседзямі фальварка: Войцах і Марыя Нізінскія, Антоні Маршпалак, Браніслава і Станіслаў Вячорак. Не хаваем вядома, што мы таксама зацікаўлены ва ўсталяванні непасрэднага кантакту з людзьмі, якія памятаюць часы нашых бацькоў, памятаюць Куросёўшчыну ў перыяд да 1939 года. Мы часта сустракаемся з асобамі, якія эмігравалі пасля 1945 года ў Польшчу, пакідаючы частку сям'і на тэрыторыі Крэсаў. Мы з задавальненнем звяжамся з гэтымі сем'ямі з наваколляў горада Ліды. Да гэтага ліста прыкладаемы некалькі апісаных фатаграфій, якіх у нас мала. Можа яны спатрэбяцца Вам у Вашай распрацоўцы.*

*Са шчырым прывітаннем*

*Цэцылія Галіна Тукала.*

**Спіс літаратуры:**


1. Беларуская энцыклапедыя: У 17 т. / Г.П. Пашкоў [і інш.]. - Мінск: БелЭн., 1996 - 2004.

2. Гарады і вёскі Беларусі: энцыклапедыя / Ю.Я. Гаева, В.В.Грынявецкі [і інш.]. - Мінск: БелЭн., 2004.

3. Гарбачова , В.В. Удзельнікі паўстання 1830-1831 гг. на Беларусі: Бібліяграфічны слоўнік / В.В. Гарбачова // Электронная библиотека БГУ: Гістарычны факультэт : Навуковыя і вучэбна-метадычныя працы выкладчыкаў і аспірантаў [Электронный ресурс]. - 2004. - Режим доступа: http://www.elib.bsu.by/simple-search?query. - Дата доступу: 20.01.2012 .

4. Лихачёв, Д. Поэзия садов / Д.Лихачёв // Кинотеатр HD Видео: Видеодиск ТВ [Электронный ресурс]. - Режим доступа: http://film.arjlover.net/info/d.s.lihachev.poezija.sadov.avi.html. - Дата доступа: 10.04 2012.

5. Лосминский, А.И. Августовский канал. Фотоальбом / А.И. Лосминский. - Минск: УП "Издательство "Беларусь", 2008. - 96 л.

6. Охлябинин, С.Д. Повседневная жизнь русской усадьбы XIX века/ С.Д. Охлябинин.//Либрусек: Книги [Электронный ресурс]. - 2006. - Режим доступа: http://lib.rus.ec/b/220020/read. - Дата доступу: 12.02 2012.

7. Сліўкін, В.В. Лідчына ў паўстанні 1794 года /В.В. Сліўкін // Лідскі летапісец. - 2008. - № 25-26.

8. Словік, С. Інтэр'ер шляхецкай сядзібы як фактар культуры сям'і ў першай палове XIX ст. / С. Словік// Наша Беларусь [Электронный ресурс]: Сборник статей и материалов по культуре Беларуси. - Режим доступа: http://nashabelarus.iatp.by/Statii/statii3.htm. - Дата доступа: 15.02.2012.

9. Страчаная спадчына / Т.В. Габрусь, А.М. Кулагін, Ю.У. Чантурыя [і інш.]; уклад. Габрусь Т.В. - Мінск: Полымя, 1998. - 351 с.: іл.

10. Федарук, А. Сядзібна-паркавае дойлідства Беларусі ў еўрапейскім кантэксце/А. Федарук// Наша Беларусь [Электронный ресурс]: Сборник статей и материалов по культуре Беларуси. - Режим доступа: http://nashabelarus.iatp.by/Statii/statii3.htm. - Дата доступа: 15.02.2012.

11. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т./ Беларус. Энцыкл., М.В.Біч [і інш.]. - Минск: БелЭн., 1993.

12. Яхантава, В. Аб чым шапочуць клёны ў Курасеўшчыне? / В.Яхантава // Лідская газета. - 2007. - 16 чэрвеня, - С. 3

13. Яхантава, В. Тукала з Курасеўшчыны, або аб чым гамоняць ліпы ў старой сядзібе / В. Яхантава // Лідская газета. - 2012. - 17 сакавіка. - С. 3

14. Dwor Tukallow// zdjecia i historia [Электронный ресурс]. - Режим доступу: http:// www.radzima.org/pl/ob. - Дата доступу: 20.09.2011.

15. Malewski, Cz. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku: powiat Lidzki/Czeslaw Malewski. - Wilno, 2005.

16. Majatki powiatu lidzkiego. // Genealogia Polska - najwiekszy polski serwis genealogiczny [Электронный ресурс]. - Режим доступу: http:// www.genealogiapolska. - Дата доступу: 15.09.2011.

17. Poczobut, S. Wadrowki po Grodzienszczyznie/ S. Poczobut// Pozostalosci Polski na Bialorusi [Электронный ресурс]. - Режим доступу: http://www.skyscrapercity.co. - Дата доступу: 10.09.2011.

18. Herbarz polski i imionospis zasluzonych w Polsce ludzi: tom I/lwow: Drukiem Koriefa Villera, 1855.

19. Herbarz polski Kaspra Niesieckiego S.J. tom IX/W Lipsku Drukiem Breitkopfa i H.Ertela, 1842.

*Леанід Лаўрэш*

# Гісторыя чыгункі на Лідчыне

У 1860-1862 гадах праз паўночна-заходні ўчасток Лідскага павету была пракладзена чыгуначная лінія Санкт-Пецярбург - Варшава праз Вільню, на якой былі пабудаваны станцыі Вільня, Ландвараў, Руднікі, Алькенікі, Араны, Марцінканцы, Парэчча і Гародня. У 1871 годзе была здадзена ў эксплуатацыю Маскоўска - Берасцейская чыгунка, на якой былі размешчаныя станцыі Менск, Фаніпаль (тады Франапаль), Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея (тады Гародзей), Пагарэльцы і Баранавічы[1].

Пытанне аб пабудове разгалінаванай сеткі ваенна-стратэгічных чыгуначных ліній на Палессі было прынята на сакрэтных нарадах Расійскага Генеральнага штаба яшчэ ў 1873 г. У 1881 годзе быў падпісаны Найвышэйшы загад пра будаўніцтва 136-ці вёрстнай чыгункі Жабінка - Пінск, дзе ўпершыню на будаўніцтве чыгунак былі выкарыстаны чыгуначныя войскі. Гэтая дарога была пабудавана за адно лета. Таму паспрыялі раўнінная мясцовасць і амаль поўная адсутнасць штучных збудаванняў. 9 лістапада 1882 г. на ёй адкрыўся пасажырскі і таварны рух. План далейшага будаўніцтва Палескай чыгункі быў зацверджаны 14 лютага 1883 г. Аляксандрам III. 12 траўня прыступілі да ажыццяўлення гэтага плана. Участак Вільня - Лунінец (з адгалінаваннем Лунінец - Пінск: усяго 353 вярсты) адкрыўся для рэгулярнага руху 30 снежня 1884 г. У гэты дзень з боку Вільні цераз Ліду на Баранавічы прайшоў першы цягнік[2].

Пад будаўніцтва станцыі Ліда адышло 6 дзесяцін зямлі (6,83 га) сабornай царквы. Лідская станцыя будавалася за межамі горада, паміж горадам і вёскай "Дварцовая Слабада". Пасля будаўніцтва чыгункі, горад пачаў пашырацца да вакзала, а "Дварцовая Слабада" стала месцам жыхарства чыгуначнікаў і паступова ўлілася ў горад[3]. Для Палескай чыгункі было пабудавана паравознае дэпо з бутавага каменю на два паравозы серыі "Чн"[4] і першы, драўляны вакзал. Дарэчы бальшыня вакзалаў XIX ст. Палескай чыгункі былі драўлянымі, яны будаваліся па тыпавых праектах і адрозніваліся адзін ад аднаго ў асноўным памерамі.

На Лідчыне з'явіліся станцыі **Беняконі, Бастуны** і **Нёман**.

У 1886 г. Вільня-Ровенская і Пінская чыгункі перайменаваны ў Палескія чыгункі. Відавочна, з-за ўдзелу ў будаўніцтве чыгункі ў 1887-1891 гг. у Лідзе кватараваў 2-гі чыгуначны батальён царскага войска, якi потым быў пераведзены ў Баранавічы[5].



***Інжынер-чыгуначнік Ваўжынец Путкамер, унук Марылі Верашчакі, дэпутат Дзяржаўнай думы Расіі двух скліканняў***

Сярод інжынераў - чыгуначнікаў, якія будавалі Палескую дарогу, быў граф Ваўжынец Путкамер (1859-1923), унук знакамітай Марылі з Верашчакаў. Чыгунка прайшла за некалькі кіламетрах ад яго радавога маёнтка Больценікі і была апошняй дарогай у будаўніцтве якой ён прымаў удзел. Ваўжынец Путкамер нарадзіўся ў Больценіках, скончыў гімназію ў Вільні і Інстытут інжынераў шляхоў зносін ў Пецярбургу. 10 гадоў адпрацаваў інжынерам, будаваў Уральскую і Бакінскую чыгункі. Пабудаваўшы магістраль каля свайго маёнтка, у 1890 годзе граф выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў Больценіках. Ваўжынец Путкамер актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці краю, быў сябрам сельскагаспадарчага таварыства і куратарам Евангелісцка - рэфарматарскага сінода ў Вільні[6]. Два разы абіраўся ў Дзяржаўную думу Расіі: Другую і Чацвёртую. У складзе Другой думы ён уваходзіў у "польскае кола", а ў Чацвёртай - у беларуска - польска - літоўскую групу і быў сябрам Савета старэйшын думы.

Палескія чыгункі злучалі Паўднёвы захад Расіі з Прыбалтыйскім, Паўночна-Заходнім, Цэнтральна-прамысловым раёнамі, мелі ваенна-стратэгічнае значэнне, спрыялі распрацоўцы лясных масіваў Беларусі, развіццю дрэваапрацоўчай і гарбарнай прамысловасці, спрыялі росту гарадоў.

Наогул, чыгункам абавязаны сваім нараджэннем гарады: Баранавічы, Маладзечна, Асіповічы, Жабінка, Жлобін, Лунінец і інш. Дзякуючы чыгунцы набылі другое дыханне старыя беларускія гарады -

[1] Коласаў Л. Старая пошта на Лідчыне // Лідскі летапісец № 42. 2004. С. 37-38.

[2] Киштымов Андрей. Этапы железнодорожного строительства на Беларуси // Гістарычны альманах № 7. 2002. С. 125.

[3] Abramowicz Wl. Slobodka - przedmiescie Lidy // Ziemia Lidzka № 1(53), 2002.

[4] Лідскі летапісец № 27-28. 2004. С. 8.

[5] Szymielewicz M. Lida w latach wielkiej wojny Lidy // Ziemia Lidzka № 2(37), 1999.

[6] Kuryer Litewski № 29 (14894) 1907




***Першы лідскі вакзал з капліцай***

Ліда і Ворша. У той жа час старажытныя і славутыя гарады - Мсціслаў, Нясвіж, Наваградак разам з адсутнасцю чыгункі былі пазбаўленыя стымулу для эканамічнага развіцця[7].

Квіткі на цягнік былі нятанныя. З Віленскага календара за 1899 г. можна даведацца, што нават пасля зніжкі коштаў за праезд, якая адбылася 1 снежня 1894 г., квіток ад Ліды да Вільні каштаваў: у першым класе 3 рублі 20 капеек, у другім - 1 рубель 92 капейкі і ў трэцім класе - 1 рубель 28 капеек[8]. Пры тым, што ў Еўрапейскай Расіі, гадавы даход на чалавека ў 1900 г. складаў 63 рублі[9], гэта сярэдняя лічба, і шмат людзей не зарабляла і гэтулькі, а ў Беларусі сярэдні заробак быў ніжэй, чым па Еўрапейскай Расіі. У 1896 годзе чалавек, які адназначна быў часткай гарадской эліты Ліды, наглядчык (дырэктар) самай грунтоўнай на той час навучальнай установы ў горадзе - павятовай двухкласнай вучэльні (прагімназія М. Навіцкай пачала працаваць ў 1901 годзе, а ешыбот Рейнеса ў 1905 г.) Свідэрскі С.С. зарабляў 500 рублёў у год (звыш таго яму выплочваліся грошы за арэнду кватэры)[10].

Каля Лідскага драўлянага вакзала ў 1897 г. была пабудавана праваслаўная капліца. Малюнак і праект капліцы зрабіў студэнт, будучы архітэктар і інжынер Катовіч М. І.[11] Праект быў зацверджаны начальнікам тэхнічнага аддзялення ўправы Палескіх дарог. Капліца пабудавана ў гатычным стылі з расшыўкай з шэрай цэглы і мела калоны. Знаходзілася з паўдзённага боку вакзала каля кратаў платформы, на штучным узгорку, у садку, сярод кветнікаў. Дзякуючы загадчыку участка

[7] Киштымов Андрей. Этапы железнодорожного строительства на Беларуси // Гістарычны Альманах. 2002. Т. 7. С.116-145.

[8] Виленский календарь на 1899 г. Вильна. 1898. С. 91.

[9] Рубакин Н.А. Россия в цифрах. Страна. Народ. Сословия. Классы. Опыт статистической характеристики сословно-классового состава населения русского государства. СПб. 1912. С. 206-207.

[10] Памятная книжка Виленского учебного округа. Вильна. 1896. С. 139. Для параўнання: 1 кг не больш за 37 капеек, батон белага здобнага хлеба 300 грам - 7 капеек, чырвонагалоўка (чырвоны корак), гарэлка, якую звалі ў народзе "казёнка", каштавала за бутэльку (0,61 літра) 40 капеек. "Белагалоўка" (белы корак) - гарэлка двайной ачысткі, каштавала 60 капеек. Піва на разліў танных гатункаў каштавала ад 6 да 10 капеек за 1 літр (бутэлькавае піва з-за кошту шкла было даражэй у сярэднім на 20 капеек за бутэльку). У карчме горада, заплаціўшы 5 капеек, можна было выпіць 50 грамаў таннай гарэлкі і закусіць салёным агуркам за 1 капейку. Наесціся ў такой карчме можна было за 10 капеек. У сярэднім, за поўны абед з алкаголем у рэстаране Вільні трэба было заплаціць 1,5-2 рублі, у Лідзе, вядома ж, менш.

дарогі Лунскаму, які кіраваў працамі, капліца пабудавана на працягу аднаго месяца. Матэрыялы на капліцу абышліся ў 250 рублёў, рабочыя збудавалі яе безаплатна. Абраз Св. Мікалая выпісалі з Масквы, ён каштаваў 125 рублёў. Абраз змяшчаўся ў глыбіні нішы капліцы за шклом, перад ім быў размешчаны вялікі ліхтар - лямпа з рознакаляровым шклом. Капліца ў вячэрні і начны час асвятлялася звонку двума ліхтарамі, пастаўленымі па абодва бакі. Пад абразом была дошка з белага мармуру з залатым надпісам: **"Збудаваная стараннасцю службоўцаў палескіх чыгунак на станцыі "Ліда" у памяць Святой каранацыі 14 траўня 1896 года гасудара імператара Мікалая II і гасударыні імператрыцы Аляксандры Фёдараўны. Асвечана 30 жніўня 1897 года".**



*Станцыя Нёман (лінія Вільня-Баранавічы)*



*Станцыя Яцукі (лінія Вільня-Баранавічы)*

Для асвячэння прыбыў спецыяльны вагон - царква. Боская літургія ў вагоне - царкве пачалася ў 9.00 раніцы 30 жніўня 1897 г. “Літоўскія епархіяльныя Ведамасці” пісалі: *"Настаяцель вагона-царквы а. Шырынскі прамовіў назідацельнае слова, прысвечанае ўшаноўванню і памяці князя Св. Аляксандра Неўскага а таксама свяціцеля Мікалая. Пры гэтым а. Шырынскі падкрэсліў глыбокае рэлігійнае значэнне будынка капліцы ў імя гэтага свяціцеля каля чыгункі, пры станцыі, дзе заўсёды спыняюцца цягнікі і дзе, такім чынам, людзі усіх веравызнанняў якія вандруюць, могуць узнесці свае малітвы да Св. абраза свайго апекуна і абаронцы ў дарозе. Па заканчэнні літургіі адбыўся хросны ход з вагона-царквы да збудаванай капліцы з абразом Божай маці і мясцовымі абразамі і толькі што напярэдадні асвечаным вялікім абразом для капліцы - пры спеве малітваў Св. Аляксандру Неўскаму і свяціцелю Мікалаю. Абразы неслі чыгуначныя службоўцы станцыі Ліда. Ля самой капліцы, упрыгожанай зелянінай і гірляндамі кветак, было здзейснена воднае асвячэнне з чытаннем малітваў на асвячэнне капліцы і крыжа, які потым быў ўзняты на капліцы, было абвешчана шматгоддзе гасудару імператару і царственнаму дому, Св. Сіноду, архіепіскапу Ераніму, урадаваму сінкліту, воінству, стваральнікам капліцы, начальству Палескіх чыгунак, службоўцам станцыі Ліда і ўсіх ліній гэтай дарогі і ўсім праваслаўным хрысціянам. Урачыстасць скончылася хросным ходам назад у вагон-царкву.*

*Паўнаце ўрачыстага набажэнства ў гэты дзень шмат садзейнічаў выдатна складзены канторшчыкам станцыі сп. Шаршнёвым хор аматараў з службоўцаў станцыі які стройна выконваў спевы на ўсіх набажэнствах"*[12].

[11] Мікалай Іванавіч Катовіч - другі сын вядомага святара, настаяцеля Віленскага Прачысценскага сабора, рэдактара (з 1869 г.) "Літоўскіх епархіяльных Ведамасцяў" протаіерэя Іаана Антонавіча Катовіча (1839-1911). Мікалай Іванавіч Катовіч - архітэктар і вядомы дзеяч рускага руху ў Польшчы. Нарадзіўся 25 лістапада 1875 г. ў Вільні. У 1894 годзе скончыў Віленскую гімназію, дзе вучыўся разам з Васілём Шверубовічам - будучым знакамітым мхатаўскім акцёрам Качалавым. Далей абодва вучыліся ў Пецярбургу. У 1899 годзе Мікалай Катовіч скончыў Пецярбургскі інстытут цывільных інжынераў, атрымаў дыплом інжынера з правам правядзення будаўнічых, дарожных і землямерных работ. Ён пабудаваў у Пецярбургзе 14 даходных дамоў, драўляную царкву ў дачным пасёлку Вырыца і сяле Карташэўскім. Да 1922 г. жыў у Расіі. У 1922 г. эміграваў у Польшчу, кіраваў будаўнічым і землямерным бюро ў Пінскім і Драгічынскім паветах. У 1927 г. пераехаў у Берасце дзе нейкі час займаў пасаду гарадскога архітэктара, а потым кіраваў будаўнічым і землямерным бюро, займаўся прыватнай архітэктурнай практыкай. 8 траўня 1934 года Мікалай Катовіч нечакана памёр. Яго пахавалі на Трышынскіх могілках у Берасці, магіла не захавалася. Быў непрыхаваным манархістаў, у бюро, якім кіраваў, прымаў выключна аднадумцаў. З'яўляўся актыўным дзеячам Рускага дабрачыннага таварыства і Рускага нацыянальнага аб'яднання. Жывучы ў Пінску, вёў шырокую і заканспіраваную дзейнасць, узначальваў тайную манархічны арганізацыю, якая была тады ў горадзе і кіравалася з Парыжа генералам Куцепавым. Пасля пераезду ў Берасце Катовіч спыніў актыўную палітычную дзейнасць, займаючыся выключна сваім бізнесам. Быў архітэктарам і будаўніком будынка рускай гімназіі ў Берасці.

[12] Литовские епархиальные ведомости. 21 сентября 1897 г. № 38. С. 358.

* * *

У чыгуначным раскладзе руху за 1906 год па Палескай чыгунцы з Вільні праз Ліду на Баранавічы - Сарны значыліся 3 цягнікі: хуткі, паштовы, таварны адмысловы, і столькі ж цягнікоў рухалася ў адваротным кірунку[13].

Рэвалюцыя 1905-06 гг. адгукнулася тым, *"што 7 кастрычніка 1906 г. паштовы цягнік на Вільню, каля Ліды быў абстраляны невядомымі бандытамі. Некалькі куль прабіла сцяну вагона і адзін пасажыр быў паранены"*[14].

27 кастрычніка ў 6 гадзін вечара на станцыі Ліда *"селянін Мікалай Паўлоўскі пераходзіў чыгуначнае палатно, пры гэтым патрапіў пад манеўровы цягнік, які адрэзаў яму ногі. Пацярпелы быў дастаўлены ў чыгуначную амбулаторыю, дзе праз дзве гадзіны памёр у пакутах"*[15].

* * *

Чарговы план будаўніцтва чыгунак быў зацверджаны Указам Мікалая II ад 1 верасня 1901 года.

Расія не мела ўласных сродкаў для такога маштабнага і дарагога будаўніцтва стратэгічных, а значыць - стратных дарог. Затое Францыя, занепакоеная суседствам з Германіяй, настойвала на больш хуткім вырашэнні пытанняў будаўніцтва шляхоў зносін.

На пачатку 1901 г., пасля перамоваў на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў, Расіі былі выдаткаваны французскія пазыкі на суму 200 мільёнаў рублёў для неадкладнага праектавання і будаўніцтва стратэгічных чыгунак. Участак будучай лініі ад Балагое да Полацка абышоўся ў 53 мільёны рублёў, або 118 131 рубель на вярсту - гіганцкія грошы для таго часу.

Дзвюхкаляёвая казённая стратэгічная чыгунка Балагое-Сядлец будавалася з 1902 г. па 1907 г. Часткай гэтай дарогі была лінія Полацк-Сядлец (590 вёрстаў), якая прайшла праз Вілейку, Маладзечна, Ліду, Масты, Ваўкавыск, Свіслач і мела адгалінаванне з Мастоў на Гародню. Фінансавы бок забяспечыла французская пазыка. Галоўным прызначэннем дарогі з'яўлялася перакідка расейскага войска ў Царства Польскае падчас вайны. Адсюль шматлікія пакгаўзы, вайсковыя пляцоўкі, стайні, хлявы, чатырохразовае рэзерваванне харчовых аб'ектаў, патрабаванні да падвышанай



***Віадук у Лідзе на перасячэнні калеяў Вільня-Баранавічы і Маладзечна-Масты, ідзе цягнік з Вільні***

бяспекі збудаванняў на выпадак ваенных дзеянняў. Таксама ў пералік "дадатковых патрабаванняў" патрапілі вузлавыя станцыі, якіх на трасе было шмат, у тым ліку Полацк, Маладзечна, Ліда, Ваўкавыск, Масты і г.д. Кожная з іх абавязкова павінна была мець злучальныя чыгуначныя каляі, з дапамогай якіх можна было трапіць з адной дарогі на другую, не змяняючы галавы цягніка (у выпадку Ліды: з Полацк-Сядлецкай лініі на Палескую і наадварот)[16].

Кіраваў будаўніцтвам Уладзімір Віктаравіч Цімафееў-Расоўскі (1856-1913 г.). Яго сын, вучоны-генэтык з сусветнай вядомасцю, Мікалай Цімафееў-Расоўскі, так успамінаў пра бацьку: "Ен толькі будаваў чыгункі і ніколі не працаваў на эксплуатацыі. Пабудаваў ён у былой Расійскай імперыі каля 15 000 вёрстаў чыгунак і быў буйным інжынерам-дарожнікам, які стварыў свайго роду практычную школу інжынераў". Талент інжынера і арганізатара Цімафееў-Расоўскі з бляскам праявіў на беларускай зямлі. Яму ўдалося зэканоміць больш за 12 млн. руб., гэта больш за 15% з амаль 81 млн. руб., запланаваных па каштарысе выдаткаў на будаўніцтва. Выпадак безпрэцэдэнтны на фоне казнакрадства, якое звычайна суправаджала будаўніцтва чыгунак у Расійскай Імперыі. На пачатку студзеня 1907 г. новая лінія здаецца ў пастаянную эксплуатацыю, прычым участак ад Балагога да Ваўкавыска перадаецца Мікалаеўскай дарозе, а ад Ваўкавыска да Сядляца - Прывісленскай дарозе. У 1910 г. ўчастак Ваўкавыск-Полацк (куды ўваходзіла і

[13] Kuryer Litewski № 224, 4 (17) кастрычніка 1906:
***Праз Ліду ў кірунку Баранавічы - Сарны.***
Хуткі №1: прыбыццё 2-49, адпраўленне 3-04.
Паштовы №3: прыбыццё 5-39, адпраўленне 5-54.
Таварны, адмысловы №7: прыбыццё 23-44, адпраўленне 23-59.
***Назад.***
Хуткі №2: прыбыццё 16-14, адпраўленне 16-29.
Паштовы №4: прыбыццё 13-19, адпраўленне 13-34.
Таварны, адмысловы №8: прыбыццё 6-28, адпраўленне 6-43.
[14] Kuryer Litewski № 230, 11 (24) кастрычніка 1906.
[15] Kuryer Litewski № 249, 3 (16) лістапада 1906.
[16] Казюлин Николай. Самовар в упряжке ходит. Великие Луки. 2002. http://pskovrail.narod.ru/main141.html

станцыя Ліда) уключаны ў склад Палескай дарогі[17].

Будаўніцтва дарогі выклікала шматлікія скаргі. Вядома, напрыклад, цяжба паміж лідскім саборным пратаіерэям Іосіфам Каяловічам (родным братам вядомага гісторыка), пра якую сведчыць справа **"О вознаграждении за землю занятую в Лидском уезде Виленской губернии под устройство Полоцк-Седлецкой железной дороги из владения причта Лидского Михаила-Архангельского собора"**[18].

Чыгуначная лінія паміж Лідай і Маладзечнам прайшла проста цераз маёнтак мастака Фердынанда Рушчыца - Багданаў. У сваім "Дзённіку"[19] мастак занатаваў некалькі эпізодаў будоўлі:

*"Багданаў, 25.08 (1901).*

*Прыехалі інжынеры*[20]*. Яны тут, у Багданаве, нечакана. Не папярэджваючы нікога, не пытаючыся, хаця б з далікатнасці, пра дазвол, вядуць лінію, высякаюць трасу ў лесе, замяраюць будынкі. Адносна нас, грамадзян тутэйшага краю, іх не абавязвае да гэтага не толькі права, але нават элементарныя законы прыстойнасці.*

*Багданаў, 27.08 (1901).*

*Зноў іншая траса. Зараз каля самага маёнтка, так што, можа, прыйдзецца знесці толькі што пастаўленае гумно і хлеў. Маёнтак будзе пасечаны на кавалкі. Амаль цэлую ноч думкі пра будучыню Багданава, пра клопаты, змены, якія прыўнясе будоўля чыгункі ў гаспадарку, не даюць мне заснуць.*

*Багданаў, 27.06 (1902).*

*Я змог сёння растраціць шмат энергіі, і гэта для мяне добра Ад 11-й да 6-й хадзіў з эканомам па лесе, па трасах, вызначаных інжынерамі. На зямлі скрозь сляды людской нікчэмнасці, ашуканства і крадзяжу, але над гэтым усім узвышаўся гонкі, ганарысты лес - рэшткі старажытных волатаўскіх лясоў.*

*Багданаў, 30.06 (1902).*

*У нас Ягміны*[21] *і інжынеры. Відавочна, яны пад уражаннем атмасферы ў Багданаве. Калі зайшла размова пра "Ашмянскі павет"*[22] *і пра захаванне даўніны, Ягмін Ян Максімільянавіч не вельмі добра сябе адчувае.*

*Багданаў, 01.08 (1902).*

*Хоніг*[23] *у нас. Паведамляе, што зацверджана лінія (праектаванай чыгункі) вышэй млына. Для нашай гаспадаркі гэта вельмі нязручна. Дзіўна, што пра станцыю ніхто не вядзе гаворкі."*

У сакавіку 1906 г. газета "Кур'ер Літоўскі" пісала[24]: *"Падобна на тое, што новая чыгунка "Балагое - Сядлец увосень ужо пачне працаваць. Ужо зараз таварныя цягнікі тры разы на тыдзень адпраўляюцца з Маладзечна ў бок Вілейкі, цэнтральны вакзал у Маладзечна ужо пабудаваны..."*. Да гэта часу ўжо быў пабудаваны і аднатыпны вакзал ў Лідзе, бо найвялікшы знаўца лідскай гісторыі XX ст. Міхал Шымялевіч пісаў ў 1906 г.: "У г. Лідзе размешчаны злучаны вакзал Палескай і Балагое-Сядлецкай чыгунак"[25].

У 1905-07 г. працаваў дзесятнікам у Лідзе на будаўніцтве чыгункі Балагое - Сядлец грамадскі дзеяч, беларускі паэт, празаік, драматург, аўтар першых беларускіх падручнікаў Карусь Каганец. Прывёз сюды жонку і двое дзяцей Янку і Мірона, сям'я жыла ў Лідзе да 1906 г.. "Беларускі лемантар..." ён напісаў ў Лідзе, падчас працы на чыгунцы[26].

---

[17] Киштымов Андрей. Этапы железнодорожного строительства на Беларуси // Гістарычны Альманах. 2002. Т. 7. С.116-145

[18] РГИА. Ф. 1248. воп. 2. спр. 1256. : "По заявлению соборного протоиерея Кояловича, на отчуждаемой земле были крупные деревья, которые вырублены и взяты в казну; что в участке под лит. А, на земле, занятой под сторожевую будку, было уничтожено озимого посева около 40 кв. саж., за который вознаграждение не получено и, кроме того, за границей отчуждения подрядчиками складывался камень, копались ямы и были устроены бараки и колодезь при постройке жел.-дорожного моста. В начале постройки техническим надзором была проведена борозда, и было объявлено, чтобы в пределах борозд посевов не производить, а в настоящее время граница в некоторых местах значительно уменьшена, благодаря чему причт до осени 1904 года этой землей не пользовался. Вся земля причта отдается в обработку с половины. … Выслушав возражения сторон и словесные объяснения настоятеля Лидского собора Кояловича и агента по отчуждению имуществ, Комиссия нашла, что представленный протоиереем Кояловичем проект условия … не может служить основанием к увеличению оценки … На основании вышеизложенного Комиссия определила постановление свое от 2 декабря 1905 года касательно оценки земель… . Согласно сему Комиссия назначила вознаграждение причту Лидского собора за земли … всего 6760 руб. 22 коп."

[19] Рушчыц Ф. Дзённік - Мн.: Медысонт, 2002.

[20] Інжынеры вызначалі трасу запраектаванай лініі чыгункі Ліда-Маладзечна, якая праходзіла праз землі, што належалі Багданаву і Вайгянам.

[21] Ягмін Ян Максімільянавіч (? - пасля 1919) - уладальнік маёнтка Гальшаны ў Ашмянскім павеце, з часткова разбураным Сапежынскім замкам; з 1888 г. маршалак ашмянскай шляхты па прызначэнні; жонка з Гарбанёвых.

[22] Маецца на увазе кніга: Czeslaw Jankowski. Powiat Oszmianski. Petersburg, 1896.

[23] Хоніг - інжынер чыгункі. У 1902-1903 гг. будаваў чыгуначную лінію Ліда-Маладзечна, якая праходзіла праз Багданаў.

[24] Kuryer Litewski № 54, 8 (21) marca 1906.

[25] Шимелевич М. Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[26] Суднік С. Лёсам Лідчыны кранууся // Лідскі летапісец № (1) 41 С. 19-20.




***Новы вакзал у Лідзе, пабудаваны ў 1906 г.***




***Новы вакзал у Лідзе атрымаў назву "Мікалаеўскі"***

У 1906 г. было пабудавана новае цаглянае дэпо на 4 паравозы і адміністрацыйны 2-х павярховы будынак. На Лідчыне з'явіліся новыя чыгуначныя станцыі: Гаўя, Скрыбацы і Ражанка. У кожным такім вакзале, меліся наступныя асобныя памяшканні: крытыя сенцы для ўваходу з боку вакзала і з боку плошчы, пошта, лямпавая, у якой захоўвалі і запраўлялі газай ліхтары, кантора начальніка станцыі,

тэлеграф, каса, багажнае аддзяленне, памяшканне дзяжурнага вартаўніка. Вакзалы мелі дзве залы для чакання: для пасажыраў I-II і III класаў і абаграваліся кафлянымі печамі. Для пасажыраў першага і другога класаў былі мужчынскі і жаночы ватэрклазеты з рукамыйнікамі.

Новы цагляны вакзал "астраўнога" тыпу ў Лідзе быў пабудаваны па тыпавому праекту для сумеснага карыстання абедзвюх дарог і акрамя пералічаных аб'ектаў меў дадатковыя пакоі для каменданта і яго канцылярыі, а таксама буфет з *"драўляным, абсыпаным зямлёй, леднікам"* для захоўвання прадуктаў. Пасажырскія платформы рабілі з каменнага друзу або бітай цэглы, якую залівалі вапнавым растворам. Платформы былі абсыпаныя пяском і ўтрамбаваныя *"да шчыльнасці добрай садовай дарожкі"*. Па краях і пасярэдзіне платформы ўкладваліся дарожкі з дошак. Каля кожнага вакзала ўладкоўваліся "садкі", разбіваліся кветнікі. Плошчу і вуліцу каля вакзала масцілі каменем. Усе жылыя і службовыя памяшканні да адкрыцця дарогі былі *"цалкам мэбляваныя і забяспечаныя білетнымі скрынямі і штэмпелямі, вагавым абсталяваннем, брызентам, вогнетушыльнымі прыборамі, сігнальным інвентаром, інструментамі, качэргамі, венікамі ..."*[27].

Усе іншыя чыгуначныя будынкі - казармы, паўказармы, будкі вартаўнікоў, лінейныя будынкі, будаваліся з дрэва і прызначаліся для пражывання адміністрацыйнага персаналу сярэдняга і ніжняга звяна, рабочых, абходчыкаў і вартаўнікоў. Жылы фонд будаваўся капітальна і спраўна служыць аж да сёння, больш за 100 гадоў з дня пабудовы.

На пачатку студзеня 1907 г. новая лінія здаецца ў пастаянную эксплуатацыю, "Курьер Літоўскі" пісаў: *"Ад 1 студзеня лінія Балагое - Ваўкавыск з адгалінаваннем на Гародню, далучана да Мікалаеўскай дарогі. Па ёй адкрыты рэгулярны рух цягнікоў. Часова курсуе толькі адна паштова - пасажырскіх пара цягнікоў, з якіх кожны складаецца з аднаго вагона першага класу, аднаго - другога класу і двух вагонаў трэцяга класу.*

*Цягнік выходзіць з Балагое ў 04-30, з Полацка ў 19-41, з Маладзечна ў 01-45, з Ліды ў 05-51, прыбывае ў Ваўкавыск у 09-00.*

*З Ваўкавыска выходзіць у адваротны бок у 22-45, з Мастоў у 23-45, з Ліды ў 01-40, з Маладзечна ў 05-20, з Полацка ў 11-27. У Балагое цягнік прыбывае ў 02-50.*

*З Гародні цягнік выходзіць у 19-15, прыбывае ў Масты ў 20-55. З Мастоў на Гародню адпраўляецца ў 11-10 і прыбывае ў 12-50"* [28]. Праз некалькі тыдняў газета адзначае, што *"Адкрыццё руху па чыгунцы Балагое - Сядлец паскорыла гандлёвы пульс у нашым краі ... Артэрыя гэтая мае для яго вялікае эканамічнае значэнне ... Але ўзмацнілася русіфікацыя краю з-за наплыву інжынераў, прадпрымальнікаў, чыгуначных службоўцаў ... якія на чыгунцы заўсёды былі "з над Волгі""*[29].



***Станцыя Гаўя (лінія Маладзечна-Масты)***



***Станцыя Юрацішкі (лінія Маладзечна-Масты)***

Ужо ў траўні прэса[30] паведамляла пра *"абставіны чыгуначнага крушэння: паштовы цягнік № 4 выйшаў уначы 11 траўня са станцыі Ваўкавыск у бок Балагое перапоўнены пасажырамі. Катастрофа здарылася ў 6 гадзін раніцы на 662 вярсце, бліжэй да Маладзечна. Раздаўся аглушальны скрыгат, пасля чаго лакаматыў і частка вагонаў павaліліся з высокага насыпу ў дол. На рэйках засталіся толькі апошнія вагоны цягніка. Пачалася страшная паніка. З ацалелых вагонаў у ніжняй бялізне павыбягалі пасажыры бо катастрофа вырвала іх са сну. Абслуга цягніка шукала доктара ці фельчара сярод непацярпелых пасажыраў. Унізе, пад насыпам з пабітых вагонаў разносіліся страшныя стогны і енкі. Пасля сёмай раніцы прыйшлі выратавальныя цягнікі з боку Ліды і Маладзечна. Забіты: машыніст Жукоўскі, яго памочнік Суровіч і адзін пасажыр, цяжка паранены качагар і тры памочнікі, лёгка паранены падкандуктар Землякоў і 5 пасажыраў. 11 траўня з Пецярбурга на месца катастрофы выехаў міністр шляхоў*

[27] Вульфов А. Заповедная железная дорога // Наука и жизнь. 2001. № 12.
[28] Kuryer Litewski № 2, 4(17) stycznia 1907.
[29] Kuryer Litewski № 16, 21 stycznia (3 lutego) 1907.
[30] Kuryer Litewski № 106, 16(29) maja 1907.

*зносін Шаўфус*[31]".

Цяжкія інцыдэнты, пэўна, не абыходзілі і Палескую чыгунку, бо ў лістападзе 1907 г. прэса паведамляла: *"З-за неаднаразовых няшчасных выпадкаў з гібеллю людзей на чыгунцы, міністэрства шляхоў зносін запатрабавала ад кіраўніцтва Палескіх чыгунак прыняць самыя энергічныя меры для недапушчэння падобных інцыдэнтаў у будучыні"*[32].

Ад пачатку эксплуатацыі чыгункі участак ад Балагое да Ваўкавыска перадаецца Мікалаеўскай дарозе, а ад Ваўкавыска да Сядляца - Прывісленскім дарогам. У 1909 г. ў сувязі з будаўніцтвам чыгункі Полацк-Сядлец прадугледжвалася поўная перабудова станцыі Ліда. З адкрыццём лініі меркавалася *"перанесці карэннае дэпо з Вільні ў Ліду і зрабіць у Вільні абаротнае дэпо"*[33]. Але вайна перашкодзіла гэтым планам. У 1910 годзе ўчастак Ваўкавыск-Полацк уключаны ў склад Палескіх дарог.

У красавіку 1910 г. *"селянін Ракішка кінуўся пад хуткі цягнік і загінуў пад яго коламі. Прычынай гэтага страшнага ўчынку сталася адсутнасць сродкаў да жыцця"*[34]. А праз некалькі дзён *"на станцыі Ліда адбылося сутыкненне манеўровага лакаматыва з таварным цягнікам ... вагоны атрымалі пашкоджанняў на 1500 рублёў"*[35].

У снежні 1911 г. "Кур'ер Літоўскі" пісаў пра новае сур'ёзнае крушэнне цягніка: *"Больш падрабязна пра катастрофу на чыгуначнай станцыі Ліда: калі таварны цягнік рухаўся ад Ліды да станцыі Скрыбаўцы, семафор быў зачынены, але як раз у момант калі цягнік праходзіў стрэлку, стрэлачнік па памылцы перавёў яе на іншую лінію. У выніку 6 вагонаў сышлі з рэек і валакліся 250 сажняў, руйнуючы ўсё на сваім шляху. Кандуктар тармазоў Стулаў быў забіты адразу, старшаму кандуктару Казлоўскаму скамячыла абедзве нагі і ён памёр у чыгуначным шпіталі ў Вільні, кандуктару Юхневічу пашкодзіла грудную клетку, ён знаходзіцца ў шпіталі ў цяжкім стане. У катастрофе вінаваты дзяжурны па станцыі які недакладна паведаміў стрэлачніку пра лінію, па якой будзе рухацца цягнік. Дзяжурны адразу адхілены ад сваіх абавязкаў"*[36].

У 1911 г. камісія па перспектыўным будаўніцтве пры Міністэрстве шляхоў зносін Расіі вызначыла, што чыгункі павінны будавацца з улікам эканамічных патрэбаў тэрыторый. Планы міністэрства абмяркоўваліся ў Дзяржаўнай Думе. Быў прыняты план праектавання і будаўніцтва дарог на 1911-13 гг. У Беларусі планавалася пабудаваць дарогу Магілёў-Паставы-Свянцяны-Панявеж і чыгунку Ліда-Араны (зараз - Варэна) даўжынёй 60 км[37]. Дарога Ліда-Араны павінна была злучыць новую дарогу Балагое-Сядлец з дарогай Пецярбург-Варшава, яна мела б і ваеннае значэнне для перавозкі грузаў і расейскіх войскаў да Прусіі ў выпадку вайны. Па ўспамінах людзей, ў 1914 г. ужо былі пачаты падрыхтоўчыя работы па будаўніцтву. Вядома, што на тэрыторыі Лідчыны, чыгунка павінна была прайсці прыкладна па трасе сучаснай аўтадарогі Ліда-Радунь.

Заробкі на чыгунцы былі ў сярэднім у два разы большыя за заробкі на іншых прадпрыемствах[38]. У 1913 г. стаўкі зарплаты на Палескай дарозе былі наступныя: інжынеры атрымлівалі 1800 - 2400 руб. у год, тэхнікі - 1200 руб. у год, дарожныя майстры 480 - 720 руб. у год, машыністы, у залежнасці ад класа 742 - 510 руб. у год, качагары 255 - 270 руб. у год, шчэпшчыкі вагонаў 240 - 468 руб. у год, стрэлачнікі 240 - 156 руб. у год, шараговыя калейцы 144 - 228 руб. у год[39]. У 1882 г. на Палескай дарозе было зацверджана "Палажэнне аб абмундзіраванні…". Абмундзіраванне атрымлівалі тэлеграфісты і тэлефаністы, машыністы і памочнікі машыністаў паравозаў, качагары і дарожныя майстры - шматлікія іншыя катэгорыі чыгуначнікаў, у сярэднім на абмундзіраванне аднаго работніка трацілася 11 руб. 43 капейкі ў год. Выплачваліся грошы на здыманне кватэры (некаторым катэгорыям работнікаў давалася бясплатнае жыллё), розныя прэміі, у выпадку працы за межамі сваёй зоны - камандзіровачныя і сутачныя выплаты, розныя грашовыя дапамогі[40].

[31] Мікалай Канстанцінавіч Шаўфус (1846-1911) - ваенны інжынер, генерал-лейтэнант. З 1905 г. начальнік Упраўлення чыгунак Міністэрства шляхоў зносін і сябра ад міністэрства ў Савеце па тарыфных справах пры Міністэрстве фінансаў. З 25 красавіка 1906 г. па 29 студзеня 1909 года міністр шляхоў зносін.

[32] Kuryer Litewski № 249, 7(20) listopada 1907.

[33] Карэннае дэпо з'яўлялася цэнтрам цягавага участка (цягавага пляча). За даўжыню кожнага ўчастка было прымалася адлегласць паміж карэннымі дэпо. Да такіх дэпо для рамонту і абслугоўвання былі прыпісаны грузавыя і пасажырскія паравозы. У прамежках паміж карэннымі размяшчаліся абаротныя дэпо, дзе знаходзіліся рэзервовыя паравозы на выпадак паломкі лакаматываў.

[34] Kuryer Litewski № 73, 1(14) kwietnia 1910.

[35] Kuryer Litewski № 81, 10(23) kwietnia 1910.

[36] Kurjer Wilenski № 158, 7(20) grudnia 1911.

[37] Kuryer Wilenski № 92, 26 kwietnia (9 maja) 1911.

[38] Шибеко З.В. Шибеко С.Ф. Минск: Страницы жизни дореволюционного города. 1990. Минск, С. 32.

[39] Железная дорога Беларуси. История и современность. Минск, 2001. С. 100. 112.

Для параўнання: Кошт страў у чыгуначнай сталовай быў: суп без мяса - 5 кап., каша з маслам - 5 кап., суп з мясам - 10 кап., смажаніна - 10 кап., *"Пры ўсіх стравах адпускаецца неабмежаваную колькасць хлеба на чалавека бясплатна"*.

[40] Железная дорога Беларуси. История и современность. Минск, 2001. С. 103-105.







***Вакзал у Лідзе падчас Першай Сусветнай вайны, па адных звестках разбураны (спалены) рускімі пры адступленні, па другіх звестках разбураны ў выніку падзення на яго збітага рускага самалёта.***

Пасля пачатку Першай Сусветнай вайны і паразы рускіх войскаў ва Ўсходняй Прусіі пачалося наступленне немцаў ва Ўсходняй Польшчы. Рэзка вырасла значэнне Лідскага аэрадрома, сюды з-пад Варшавы пераляцела эскадра самалётаў "Ілья Мурамец". Узнікла патрэба ў дастаўцы вялікай колькасці грузаў на аэрадром і была пабудавана каляя ад вакзала да аэрадрома. Легендарнай асаблівасцю гэтай будоўлі стала тое што будавалі каляю, у тым ліку цераз пойму рэчкі Лідзейкі, адны жанчыны (мужчыны пагалоўна былі мабілізаваныя ў войска). Аднак немцы акупавалі Заходнюю Беларусь. Пры адступленні рускіх войскаў з Ліды ў 1915 г. ў горадзе быў знішчаны будынак лідскага вакзала і віадук на скрыжаванні Палескай і Полацк-Сядлецкай чыгунак каля сучаснай бальніцы, рускія войскі ўзарвалі чыгуначныя масты, у тым ліку і праз раку Гальшанку на перагоне Юрацішкі-Багданаў (Вайгяны). Немцы не



***Разбураны віадук у Лідзе на перакрыжаванні Палескай і Сядлецкай ліній***




***Узарваная вадакачка ў Лідзе***




***Вакзал у Лідзе падчас Першай Сусветнай вайны***



***Нямецкі кайзер Вільгельм на Лідскім вакзале ў 1915 г.***

аднаўлялі мост, а блізка ад яго ўладкавалі станцыю перагрузкі з шырокай і вузкай каляямі. Станцыя "Ліс-тапады" на ўчастку Маладзечна - Ліда пры наступе немцаў у 1915 г. разбурана артылерыяй. Пасля вайны замест аднаўлення гэтай станцыі была пабудавана бліжэй да Маладзечна новая станцыя Гаронькі (зараз Валожын).

З 18 траўня 1916 г. па 3 чэрвеня кайзер Гераманії Вільгельм II быў у паездцы, (Гамбурга - Берлін - Мітава (Елгава) - Вільня - Ліда - Слонім - Гародня - Марыенбург). Захавалася паштоўка, якая адлюстроўвае знаходжанне кайзера на Лідскім вакзале.

З 1920 г. чыгункі Лідчыны ўваходзілі ў склад Віленскай акруговай дырэкцыі Польскіх дзяржаўных чыгунак. У склад Віленскай акруговай дырэкцыі уваходзілі рэгіянальная аддзелы. Лідскі аддзел меў 703 км чыгункі і 2 226 супрацоўнікаў. Чыгунка была найбуйнейшым працадаўцам у рэгіёне, амаль што ўся каляя яшчэ немцамі была перашыта на еўрапейскі стандарт (з 1524 на 1435 мм)[41]. З-за змяншэння аб'ёму перавозак па лініі Ліда - Маладзечна (яна стала амаль што тупіковай), на гэтым адрэзку была знята другая каляя.

Верагодна, 24 жніўня 1923 г. адбылося найвялікшае чыгуначнае крушэнне за ўсю гісторыю лідскай чыгункі. Загінула 50 чалавек і больш за 100 чалавек было паранена, калі пад Лідай пасажырскі цягнік "Вільня - Варшава сышоў з рэек. Трагедыя была выклікана размывам чыгуначнага насыпу[42].

Па ўспамінах відавочцаў, на пачатку 1920-х гадоў, пакуль не быў адноўлены будынак вакзала, замест яго выкарыстоўвалася таварная кантора чыгункі - зараз адзін з будынкаў паліклінікі па вуліцы Труханава.

Пасля аднаўлення вакзал быў пафарбаваны ў светла-крэмавы колер і пакрыты чырвонай дахоўкай. Пасярэдзіне была зала білетных касаў і памяшканне для захоўвання багажу. Дзяцей прыцягвалі 2 аўтаматы, якія прадавалі смачны шакалад: малая плітка каштавала 20 а вялікая 50 грошаў. Злева ад цэнтральнай залы была вялікая зала чыгуначнага рэстарана 1-га класу з буфетам: *"У рэстаране можна было смачна пад'есці, а ў буфеце атрымаць розныя вытанчаныя халодныя закускі, найлепшую вяндліну, фашыраванага шчупака, галярэту ці селядца з рознымі салатамі. Да ежы падавалася гарэлка, віно і піва лідскага бровара ці віленскага бровара "Шапэн". Алкаголь пілі культурна і не шмат, ніколі не бачыў я каб хтосьці валіўся з ног ці ладзіў сваркі"*[43]. Направа ад цэнтральнай залы вакзала была зала чакання, у якой месцілася паштова-тэлеграфнае аддзяленне Ліда-2 з тэлефонам-аўтаматам.

Летам 1944 года Лідскі вакзал быў спалены і разбураны. Яго аднавілі толькі ў 1949 г. Апошняя рэканструкцыя Лідскага вакзала адбылася ў 2010 годзе. Але гісторыя лідскай чыгункі ў гады Другой Сусветнай вайны і пасля яе, а таксама гісторыя вузкакалейнай чыгункі на Лідчыне - гэта асобныя тэмы.

У XX ст. Ліда стала буйным чыгуначным узлом, што забяспечыла хуткі рост горада і захаванне рэгіянальнага дамінавання. Але гэта ж гарантавала ўзмацненне пакутаў пры розных акупацыях і страту нацыянальнай ідэнтычнасці. Значэнне транспартных артэрый у XXI ст. змяншаецца, галоўнымі чыннікамі развіцця становяцца адукацыя, інфармацыйныя тэхналогіі і здольнасць да адаптацыі ў сучасны свеце. Ці зможа горад даць годны адказ на новыя выклікі гісторыі?

[41] Skrat opisowy organizacji i dzialalnosci Dyrekcji Wilenskiej Kolei. Wilno, 1920. S. 34. 36.
[42] Meriden Daily Jornal. Aug 24, 1923.
[43] Naruszewicz Wl. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 97.

# Беларуская Манон Ляско

Жанчыны ў беларускай гісторыі і ў лідскай гісторыі адыгрывалі выключна важную ролю. Настолькі важную, што да энцыклапедыі "Вялікае Княства Літоўскае" ў двух тамах быў дададзены трэці том, у якім значнае месца было ўдзелена менавіта жанчынам. Вялі сябе нашыя жанчыны ў той гісторыі абсалютна па-рознаму і займалі ўсю этычную шкалу ад святой да куртызанкі. Пры гэтым кожная з іх мела сваю логіку, сваю волю або няволю паводзін.

Асобнае месца займаюць і дзве **Кастравіцкія Мялання** і **Анжаліка**. Іх лёс у нечым падобны, у нечым розны, але ў свой час яны былі гераінямі шматлікіх свецкіх скандалаў, размоў і плётак. Пры гэтым еўрапейцы проста заблыталіся, дзе ў іх Мялання, а дзе Анжаліка, і гісторыі, звязаныя з адной Кастравіцкай, прыпісвалі другой і наадварот

Kostrowicki h. Bajbuza (in. Baybuza, Вуж), rodzina litewska z Wileńszczyzny, bioronca nazwisko od dobr Kostrowicze. W XIX stuleciu ich renku znajdowaly sien majontki ziemskie: Orniany i Doroszkowicze w pow. Wilenskim, Ostrowiec i Mozejkow Maly w pow. Lidzkim.



*Герб "Байбуза" ("Вуж")*

Гэты даволі блытаны запіс аб'ядноўвае ўсіх Кастравіцкіх. Блытаны, бо Дарашковічы - гэта Дзісненскі павет, а Астравец - гэта Ашмянскі павет, і валодалі імі розныя лініі Кастравіцкіх, якія аднак усе былі дальшымі ці бліжэйшымі сваякамі.

Фальварак Малое Мажэйкава ў другой палове 18 ст. быў куплены Самуэлем Кастравіцкім. Кастравіцкаму перайшлі Скрыбаўцы, Лебяда, Паперня, Гасцілаўцы, Бешанкі, Шпількі, Алежкаўцы, Зенаўцы, Царкоўцы, Гардоўцы, Мураванка. Першае дакладнае ўпамінанне пра валоданне Кастравіцкімі Малым Мажэйкавым адносіцца да 1784 г. і знаходзіцца ў апісанні Ішчалнскай парафіі Лідскага дэканата.

Кастравіцкі Ігнат сын Самуэля - лідскі дэлегат у Віленскай радзе паўстання, лідскі камісар, генерал ВКЛ 1792, уладальнік Ваверкі. Удзельнік напалеонаўскіх паходаў. На радзіму не вярнуўся, рэшту жыцця пасля 1813 г. дажываў у Вене.

Самуэль Ігнатавіч Кастравіцкі (1788-1859) пакінуў прыкметны след на Лідчыне. У Ваверцы на яго сродкі ў 1840 годзе быў пабудаваны адзін з лепшых мураваных касцёлаў з гіпсавымі скульптурамі на столі, дзве з якіх захаваліся і дагэтуль. Ён жа ў Паперні пабудаваў цудоўную канюшню з порцікам і каланадай, дзе трымаўся табун чыстакроўных арабскіх коней, атрыманых у пасаг яго жонкай Ганнай Залескай. Самуэль Кастравіцкі эміграваў у Вену, дзе ад бацькі



*Сядзіба Кастравіцкіх у Касцянёве Лідскага р-на*

застаўся палац, і заняўся выхаваннем і адукацыяй сваіх дачок Мяланні і Юліі ды сына Люцыяна.

Унучка генерала - Мялання Самуэлеўна. Лёс Мяланні Кастравіцкай суперрамантычны: адукаваная, вывучаўшая гісторыю, літаратуру, музыку, жывапіс, валодаўшая класічнымі і еўрапейскімі мовамі, здольная мастачка была прынята пры аўстрыйскім двары, знаходзілася ў бліжнім атачэнні жонкі Напалеона Банапарта - Марыі Людвікі (1791-1847). У 18 гадоў зацяжарыла, па легендах ад Напалеона II (1811-1832). Сына выхоўвалі прэлаты Ватыкана. Імя яго засталося невядомым.

Лёс Люцыяна Кастравіцкага (1816-1867) драма-



*Жазяфіна Кастравіцкая, польская мастачка, магчыма Мялання і Анжаліка Кастравіцкія былі нечым падобныя да яе, тым больш, што Мялання была таксама мастачкай*



*Сядзіба Кастравіцкіх у Дарошкавічах на Дзісеншчыне*



*Сядзіба Кастравіцкіх у Арнянах (Літва)*

тычна надломлены самадзяжаўнай воляй. Калі ён вучыўся ў Парыжскай вайсковай акадэміі падчас візіту расейскага імператара Мікалая І яго прадставілі самадзержцу з найлепшымі пахваламі. Ці то Люцыян нагрубіў імператару, ці то быў прыняты за ўцекача, але па высачайшым загадзе пад аховай быў адпраўлены ў Расію пад нагляд без права выезду. Люцыян жыў у Паперні, жаніўся з Юзэфай Сіклюцкай. У іх нарадзілася трое сыноў і дачка. Меў велізарны масіў зямлі плошчаю ў 15750 гектараў: Паперня (3000 га), Ваверка (6000 га), Кавалі (3000 га), Касцянёва (3750 га), пазбягаў грамады і лічыўся дзіваком. Згодна з патрабаваннем жыўшага з Мяланняй ў Вене бацькі Люцыян спачатку прадаў Ваверку і Кавалі, затым каля 1860 г. прадаў Паперню за дзвесці тысяч рублёў золатам памешчыку Слізяню, праўда з правам выкупу на працягу ста гадоў. Сваім дзецям Люцыян пакінуў толькі Касцянёва.

Наступнай Кастравіцкай, якая з’явілася ў Еўропе была Анжаліка дачка Міхала Самуэлевіча Кастравіцкага, якому разам з братамі, сасланымі ў Сібір за паўстанне 1863 года, належалі Дарашковічы і Арняны. Адзін з гэтых братоў - Карусь Самуэлевіч Кастравіцкі, яго сына Казіміра Кастравіцкага мы ведаем як беларускага паэта Каруся Каганца. Менавіта ў гэтай лініі Кастравіцкіх Дарошкавічы і Арняны былі канфіскаваны. Арняны дасталіся расейскаму афіцэру Карпаву, пра што добра ведала Анжаліка.

Анжаліка была далёкай сваячкай Мяланні, ведала пра яе, а еўрапейцы, як гаварылася, наогул іх блыталі, хаця Мялання была на пакаленне старэйшая за Анжаліку. Тым не менш рамантычны арэол з Мяланні распаўсюдзіўся на Анжаліку, і сын Анжалікі, слынны французкі паэт Гіём Апалінэр ахвотна падтрымліваў легенду, што той сын Напалеона II і Кастравіцкай, імя якога невядома, - гэта менавіта ён. Жартам ён падтрымліваў і легенду пра тое, што ён сын расейскага генерала, хаця каго ён меў на ўвазе, цяжка сказаць

Авантурны характар і лад жыцця Анжалікі Кастравіцкай і рамантычны лёс Мяланні Кастравіцкай перапляліся ў свядомасці, чутках і плётках прадстаўнікоў еўрапейскіх свецкіх грамад, і абодва іхнія лёсы былі сплецены ў адзін лёс - лёс такой беларускай Манон Ляско, жанчыны, якая кіравалася больш пачуццямі і жарсцямі, чым розумам.

Невялікую інфармацыю пра Анжаліку Кастравіцкую можна выбраць з кнігі польскай даследчыцы Юліі Хартвіг **“Апалінэр”.**



***Пад партрэтам подпіс: Гіём Апалінэр - Вільгельм Альберт Уладзімір Аляксандр Апалінар Вуж-Кастравіцкі 1880-1918, французскі паэт***



***Французскі паэт Гіём Апалінэр, дваюрадны пляменнік беларускага паэта Каруся Каганца***

*Гіём Апалінэр*

## Бывай
(Adieu)

Я зламаў гэты верас у полі
Наша восень памерла ў журбе
Нам ужо не сустрэцца ніколі
Водар часу - верас у полі,
Толькі знай, я чакаю цябе

*Пераклад з французскай Андрэя Хадановіча.*

# З кнігі Юліі Хартвіг “Апалінэр”

Мадам Кастравіцкая дзякуючы Апалінэру ператварылася проста ў фантастычную постаць. Ніводны з любоўных раманаў яе сына не займаў так біёграфаў, як незалежны і незразумелы для француза лад жыцця яго маці, мацярынскія пачуцці якой да не вельмі вось, па яе меркаванні, удачлівага сына хісталіся паміж паблажлівасцю і гневам. Яна лічыць яго хлапчуком, гультаяватым і недастаткова ўпартым там, дзе справа датычыцца жыццёвага становішча; як бы там ні было, у якасці банкаўскага службоўца Вільгельм - менавіта так называе Гіёма маці - не прасоўваецца і не выяўляе ніякіх здольнасцяў. Яго запал да пісьменніцтва мадам Кастравіцкая лічыць проста кепскай схільнасцю, тым больш, што адгэтуль выцякаюць яго падазроныя знаёмствы з людзьмі, якія нагадвалі часцяком - чаго хаваць - даволі цёмных суб'ектаў. Нуда па ўстойлівым становішчы, жаданне зацвердзіцца і забяспечыць будучыню - зразумелыя ў пажылой жанчыны, ранняя маладосць якой пачалася з даволі скандальных прыгод. Зусім яшчэ дзяўчынкай Анжаліка Кастравіцкая пры даволі драматычных акалічнасцях была прывезена бацькамі, Міхалам Костравіцкім і Джульетай Фларыяні, з радавога маёнтка пад Навагрудкам у Рым. За ўдзел у студзеньскім паўстанні (1863) браты Міхала былі сасланы ў Сібір, а іх маёмасць падлягала канфіскацыі. Міхал Кастравіцкі, жанаты на італьянцы Джульеце Фларыяні, пазбег высылкі толькі дзякуючы ўцёкам на радзіму жонкі, дзе і пасяліўся з ёю і малагадовай дачкой у Рыме. Сіньёр дэ Кастравіцкі атрымлівае ў Ватыкане выдатную пасаду cameriere d’onore di cappa e spada[1], без цяжкасці ўваходзіць у колы шляхетнага і вельмі высакароднага італьянскага дваранства і арыстакратыі, а дачка Анжаліка трапляе ў адзін з лепшых манастырскіх пансіёнаў у Рыме, у Сакрэ Кёр, дзе абавязковай мовай была французская. Анжаліка належыць да ліку самых непаслухмяных выхаванак гэтага элегантнага манастыра. Свавольная, дэспатычная і наравістая, яна даводзіць сясцёр да роспачы сваімі паводзінамі, так што яе неаднаразова імкнуліся выправадзіць і адправіць да бацькі. Калі ж нарэшце гэта ўдалося, бацькі вырашаюць як мага хутчэй вывесці маладзенькую, бурнага тэмпераменту дзяўчыну ў свет, на першы баль, знайсці ёй прыймальнага кавалера і збыць на яго рукі гэты цяжкі, хоць і не пазбаўлены свайго харства груз. Нажаль, задума гэтая ўдалася нават занадта. Не атрымаўся толькі шчаслівы шлюб, пра які так марылі сужонцы Кастравіцкія. Дзяўчына з першага позірку закахалася ў прыгожага і дасведчанага сэрцаеда афіцэра Франчэска Флуджы д'Аспермона, які быў удвая старэй за яе, атожылка шляхетнага італьянскага роду, за бліскучай кар'ерай якога вось ужо гадамі сачылі дамы з дочкамі на выданне. Каханне канчаецца свецкім скандалам. Закаханая спадарычня дае сябе выкрасці свайму спакусніку і некалькі гадоў вядзе з ім вандроўнае жыццё, спыняючыся ў розных гарадах Італіі і паўднёвай Францыі. Сувязь гэтая так ніколі і не будзе змацавана шлюбам, хоць праз два гады, у 1880 годзе, Анжаліка нараджае сына з некалькімі імёнамі - Вільгельм Альбер Уладзімір Аляксандр Апалінар, які будзе хрышчаны ў адной з рымскіх цэркваў і запісаны ў кнігу без указання імя бацькі. Праз два гады нарадзіўся яшчэ адзін сын, Альбер, хутчэй за ўсё, ад таго ж самага бацькі, хоць некаторыя даследчыкі кідаюць на гэта далікатнае пытанне цень сумневу. Становішча маладой дзяўчыны, цяжкае з першай жа хвіліны, становіцца яшчэ цяжэйшым пасля нараджэння дзяцей. Можна толькі гадаць, ці спрабавала Анжаліка схіліць Франчэска ўзаконіць іх сувязь ці ганарліва чакала згоды сям'і Флуджы, якая змовай маўчання ахінула сувязь спакуслівага афіцэра з рудавалосай іншаземкай. Здаецца, Франчэска спрабавалі паслаць у далёкае вандраванне, але ён паціху звярнуў у нейкі порт, дзе яго чакала нашая Манон. Сувязь, гэтых двух незалежных характараў павінна была быць поўная патэтычных сцэн і часамі пякельных скандалаў. Анжаліка бывала страшная ў гневе, якога так баяўся потым яе дарослы сын. Тупат, ляпанне дзвярамі, крык на некалькіх мовах, потым дні расстання і нуды. То яны цягнуліся адзін да аднаго, то расставаліся, каб ізноў вярнуцца, поўныя гневу і кахання; перш чым дайшло да канчатковага разрыву, сувязь гэта доўжылася доўгія гады.

Тым часам сыны падрасталі; прабыўшы некалькі гадоў у Італіі, дзе прайшло іх ранняе дзяцінства, яны трапляюць у манастырскую школу ў Манака, потым у Канах і Ніцы. Абодва хлопчыкі, асвоіўшыся з манастырскім рэжымам, які так ненавідзела іх маці, выносяць яго без бунту - інтэрнат замяняе ім дом, якога ў іх няма, забяспечвае правільны лад жыцця, што першым чынам неабходна ў дзяцінстве. Залічыць хлопчыкаў у цяжкадаступны ліцэй марыянітаў дапамагае брат Франчэска Флуджы - Дом Рамарына, генеральны абат ордэна бенедыктынаў, як кажуць, улюбёнец ранейшага папы, Пия IX; ён жа, падчас знаходжання хлопчыкаў у манастыры, берэ іх пад неафіцыйную апеку. Так ужо з ранняга дзяцінства Вільгельм Кастравіцкі і яго брат Альбер жывуць у атмасферы недамоўленасці, сямейныя адносіны іх акружаны непранікальнай таямніцай, але выгоды і добрыя манеры, якія пануюць у ліцэі, ствараюць такія ўмовы, што выключнасць іх становішча толькі надае ім арыгінальнасці і пахвальна вылучае з асяроддзя выхаванцаў. Падобнае становішча настолькі спадабалася Вільгельму, што ўжо юнаком, ды што там, нават цалкам сталым чалавекам, ён будзе ахіляць сваё паходжанне таямнічасцю, робячы розныя намёкі і не аспрэчваючы нават самыя фантастычныя здагадкі, што

[1] Ганаровага камергера плашча і шпагі (італ ).

ў нейкай ступені будзе спрыяць яго паэтычнай славе Падтрымка царкоўнага вяльможы ў дзяцінстве кладзе пачатак легендзе пра бацьку-кардынала, нейкі час нават пагаворвалі, што Апалінэр (скарыстанае для псеўданіма апошняе імя, дадзенае пры хрышчэнні) - незаконны сын манакскага прынца, якому - цікаўны збег акалічнасцяў! - належаў дом на бульвары Сен-Жэрмен, дзе жыў Апалінэр апошнія гады свайго жыцця. Калі пры ім загаворвалі пра яго паходжанне, ён маўчаў ці смяяўся смехам, ахоўным, скептычным, што дазваляе думаць усё і не пацвярджае нічога. У аповядах яго, паўднёвых, буйных, жартаўлівых, дзе эрудыцыя змешвалася з выдумкай, так што фантазію часта немагчыма было адрозніць ад сапраўдных фактаў, - мноства магчымасцяў для ўсякіх здагадак, нярэдка вельмі пахвальных для іх аўтара. Як і ўсе гарачыя апавядальнікі, Апалінэр не любіць, каб яго папракалі ў разыходжанні з праўдай. Калі ў лекцыі пра маладых паэтаў літаратурны крытык Жан Руайер публічна заявіў, што Апалінэр любіць містыфікацыю, той гнеўна падняўся, крыкнуўшы: "Гэта вы ўсе містыфікатары! Толькі я адзін не!" - на што Руайер са спакоем адказаў: "Так на так і выходзіць".

Да сямнаццаці гадоў, гэта значыць да канца ліцэя, Вільгельм Кастравіцкі знаходзіцца на поўдні Францыі, у Манака, Ніцы, а потым у Канах, у гарадах, дзе ўсе інтарэсы, любая здабыча, уся ўвага накіраваны па выгоды сезонных курортнікаў. Ніца - зімовы салон Францыі, зіготкі золатам салон, аздоблены аднак не вельмі густоўна, у традыцыйным, жудасна пампезным стылі Другой імперыі. Сярод касмапалітычных насельнікаў раскошных гатэляў, размаўляўшых на ўсіх мовах свету і ўяўляўшых у зімовы перыяд усё самае элегантнае з ліку тытулаваных асоб і найбуйных міжнародных фінансавых тузоў, праходзіць выразная мяжа. Уся гэтая складаная гульня адасобленасці, непрыязнасці, пагарды да невысакароднага паходжання, з іншага ж боку, спробы пераадолець мяжу, якая адлучае імя і багацце ад збяднелага імені ці багацця без імені - прычым лік камбінацый бясконцы - гульня, якая знайшла сваё дакладнае адлюстраванне ў апісанні свецкага грамадства Бальбека ў Пруста, дыктуе і тут свае правілы.

І ў Манака, і ў Ніцы асноўную цікавасць выклікаюць казіно. Яны нібы тэатр з яго запалам, фарсавымі самагубствамі, нажаль незваротнымі па сваіх наступствах, роспаччу пасля страты маёмасці, сатысфакцыямі, абавязкамі, растратамі і пабочнымі кулуарнымі эпізодамі, які разыгрываюцца дробнымі камбінатарамі і ўсякага роду авантурнікамі і вынаходнікамі "найнадзейнейшай сістэмы гульні". Да ліку асобаў, якія рызыкоўна гуляюць у казіно як Манака, так і Ніцы, адносіцца маладая элегантная дама не то руская, не то полька, дакладна не вядома, якая валодае бездакорна французскай мовай, з завадовым, драпежным тварам, рудымі валасамі, вузкім ротам, буйным носам і рашучым паглядам. Даму гэтую завуць Анжаліка Кастравіцкая. Яе маленькая, але прыгожая постаць, багатыя туалеты і энергічныя рухі звяртаюць увагу заўсёднікаў, дырэкцыя казіно асцярожна наводзіць даведкі ў гатэлі, дзе спынілася маладая іншаземка. Сабраная інфармацыя дае мала. Прыбыла з Італіі, шмат падарожнічае, адкуль берэ грошы - не вядома, але гэтак жа невядома і паходжанне сродкаў, на якія гуляюць сама меней тры чвэрці наведвальнікаў казіно. Стаўкі гэтая асоба робіць увогуле ж умераныя, гуляе без рызыкі, насцярожвае толькі яе настойлівасць і апантанасць, гуляе яна ўвесь час, заахвоціўшыся, усе вечары да позняй ночы праводзіць за зялёным сталом з рулеткай. Вяртаецца сюды рэгулярна кожны сезон, нібы клапатлівая экзатычная птушка. Праходзяць гады, і мадам Кастравіцкая, ужо вядомая зараз усім парцье, гардэробшчыкам і круп'е казіно Манака і Монтэ-Карла, неўзаметку, але ўсё няўхільней набывае адпаведную рэпутацыю. Аднойчы, невядома дакладна, як гэта здарылася і па якой прычыне, хтосьці сказаў пра яе: "Гэта прыгожая авантурніца",- і ад гэтага эпітэта ўжо нельга было пазбавіцца. Ва ўсякім разе, калі сыны, выйшаўшы з ліцэя, з'язджаюць з Ніцы цягніком са старамодным паравозам з высокай трубой, маці іх, вытанчана, мабыць, нават занадта вытанчана, апранутая дама, у шэра-перламутравым вэлюме і дарожным гарнітуры, прадставіць ім перад ад'ездам незнаёмага дагэтуль дзядзьку, які будзе аказваць ёй, як па прыездзе ў Парыж, так і некалькі наступных гадоў, клопат і ўвагу зусім не братэрскага характару. Новы дзядзечка носіць імя Вейль,- гэта невысокі цёмнавалосы спадар з манерамі былога афіцэра, куды маладзей за мадам Кастравіцкую, заможны, ва ўсякім разе з сям'і, злучанай з біржай і банкамі, відавочна закаханы ў маці двух амаль дарослых сыноў. Менавіта дзякуючы спадару Вейлю некаторыя скрупулёзныя даследнікі прыпісваюць Апалінэру паўсеміцкае паходжанне, мяркуючы, што Вейль з'яўляецца яго бацькам. Здагадка гэта аспрэчваецца простым падлікам, з якога відаць, што ўяўнаму бацьку ў момант нараджэння сына было няпоўных дванаццаць гадоў. Але нішто не можа здзівіць таго, хто ў 1950 годзе пачуў у розных кафэ на Сен-Жермен, тых самых, дзе бываў Апалінэр перад Першай Сусветнай вайной і пасля вяртання з фронту, як там шэптам і з жахам распавядалі новы варыянт паходжання паэта: нібы ўстаноўлена, што ён ні больш ні менш усяго толькі сын свайго дзеда, які, пасля доўгай адсутнасці вярнуўшыся з Сібіры, страціўшы галаву ад прыгажосці ўласнай дачкі, здзейсніў страшны грэх крывезмяшання. Плёнам граху і быў Вільгельм Кастравіцкі, гэта значыць Апалінэр. У сваю чаргу адзін з польскіх пісьменнікаў вывеў выразную генеалогію Апалінэра ад Напалеона "Арляняці". Як бачым, апалінэраўская легенда ўсё яшчэ жывая і дае глебу для ўсё новых гіпотэз, нажаль, ва ўсіх у іх той недахоп, што іх немагчыма праверыць, затое найвялікая добрая якасць у іх маляўнічасці і падтрыманні цікавасці да біяграфіі паэта, які дапушчаў усе магчымыя варыянты, якія тычацца яго паходжання, пры ўмове, каб бацька, які прыпісваецца яму, быў асобай высокапастаўленай, адгэтуль добразычлівая згода нават на бацьку-кардынала. Можна падазраваць, што варыянт з бацькам-дзедам пусцілі разам з клубамі чорнага дыму сюррэалісты, збіўшыся вакол століка ўжо пастарэлага, але

ўсё яшчэ поўнага запалу і забіяцкага Андрэ Брэтона. Вельмі ўжо гэта нагадвае атмасферу тых гадоў. Верагодна, надакучыў ім афіцыйны глянец апалінэраўскай славы, яго пасмяротная акадэмізацыя і рахманае стаўленне крытыкаў да яго творчасці, вось яны і вырашылі пужнуць публіку анекдотамі з яго жыцця, каб выратаваць сюррэалістычны "гонар" аднаго са сваіх патронаў.

Дзяцінства і юнацтва, праведзеныя на Сярodземнаморскім узбярэжжы, сфармавалі Апалінэра тыповым паўднёўцам, нават у тыпе яго прыгажосці ёсць штосьці паўднёвае. Злучаны з Італіяй сувяззю крыві - прымем гэтую тэзу, паколькі яе пацвярджаюць традыцыі, якія захоўваюцца ў родзе д'Аспермонаў,- і дакументы, сабраныя Марсэлем Адэма - успрымальны, уражлівы да атачаўшага яго пейзажу, фарбаў, пахаў (*"у мяне вельмі добры нюх і нюхальная памяць, часам воблака паху нагадвае мне вельмі аддаленыя рэчы, пра якія я б не памятаў, калі б іх не ўваскрэсіў раптам у маіх мазгах пах"*); ён пачуваўся як дома ўсюды, куды заносіў яго лёс. Так, у спелым узросце ён лічыў сябе парыжанінам, пра што нярэдка з гонарам заяўляў, але паколькі поўдзень быў яго калыскай, там ён упершыню спазнаў жыццё і прыроду. З поўдня вынес Апалінэр паганскі, натуральны падыход да кахання, волю мовы, запал да бадзяжніцтва, шматлікія забабоны, цікавасць да вулічных спектакляў і цягу да выдатнага слова, цягу да канкрэтнасці разам з нудой па класічнасці, гэтак характэрныя для ўсёй яго паэзіі і для самых спелых тэарэтычных выказванняў. Славянскі пачатак паглыбіў у ім не адну з гэтых асаблівасцей, якія педанты маюць звычай называць недахопамі: нежаданне лічыцца з часам, абвостранае пачуццё гонару, ганарыстасць. Адгэтуль і паўночны сум, гэтая чорная нітка, якая цягнецца праз жыццё, і хісткі рытм роспачы, гэтак незвычайны ў гэтага дзіцяці са шчаслівым характарам, шчодра адоранага добрымі феямі дабрадзейнасцю даверу і перакананасцю ў сваёй удачлівай зорцы, перакананасцю, якая пасля бурных, але параўнальна кароткіх бур дазваляла яму кожны раз падымацца з дзіўнай сілай псіхічнага здароўя. "Хто ты, прыгнаны да нас вятрамі Скіфіі..."

Назаўжды засталася ў яго і прыхільнасць да італьянскай кухні. Праславутае яго абжорства найсімпатычным чынам спалучалася з кулінарнымі спазнаннямі, якія знаходзяць належную ацэнку ў такой краіне, гэтак патрабавальнай у пытаннях, звязаных са страўнікам, як Францыя. Пацешная слабасць гэта патрабуе адмысловай увагі, гэтулькі крыецца ў ёй нечаканасцей і магчымасцей, ад варварскага пажырання апельсінаў з лупінай да ўмення адрозніваць ледзь улоўныя адценні ў соўсе, які рыхтуецца. Ён ведае ўсе выбітныя кухні свету і лепшай лічыць італьянскую, але адразу ж за ёю ставіць французскую, польскую, рускую і габрэйскую. Не выносіць ангельскай з яе крывавымі біфштэксамі і мятнымі соўсамі, з-за гэтага ў яго нярэдка ўзнікаюць пацешныя сутычкі з Андрэ Біі, дбайным англаманам. Але да італьянскай кухні ў яго непаўторнае пачуццё: пры асабліва ўражлівых, інтымных кулінарных аказіях ён успамінае італьянскія ласункі, у якіх яму відавочна не адмаўлялі ў дзяцінстве, ды схільнасць да салодкага не пакінула яго і пазней, знаёмыя часта бачаць яго, як ён вяртаецца ў сваю кватэру на Сен-Жэрмен, нагружаны ласункамі, за якія прымаецца яшчэ па дарозе, надрываючы пакеты і кулёчкі. Але ўжо няма ў гэтых пакуначках былых анісавых цукерак, ад якіх адтапырваліся калісьці кішэні яго школьнай курткі, ні цудоўнай лапшы з мятай, ружай, цытрынай і ананасам, няма ні аладачак з персікамі, ні начыненых дуль, няма арэхаў у мёдзе і пахучага айвовага жэле. І ён пакорліва ўздыхае, аплаквае мінуўшчыну, хоць жыве яшчэ ў Францыі з бездакорнымі кулінарнымі традыцыямі, калі міндальныя піроЖныя з Экса, монтэлімарская нуга і нармандскія піроЖныя з садавінай у параўнанні з цяперашнімі былі проста на недасягальнай вышыні.

Мадам Кастравіцкая выяўляе сапраўды матчыну ўвагу да гэтага боку характару старэйшага сына. З таго моманту, калі яна пасяляецца ў Везінэ, старыя абшарніцкія традыцыі, успадкаваныя ёю па мужчынскай лініі, бяруць сваё. Дабраўшыся да сваёй гаспадаркі, яна пануе ў ёй, як панавалі яе энергічныя бабкі па бацьку на беларускіх землях, рондалем і шумоўкай заваёўваючы ўладу над домам, забіваючы пышнай правізіяй прасторныя каморы, скляпы і гарышчы. Эксцэнтрычны лад жыцця ані не замінае ёй удасканальвацца ў хатніх дабрадзейнасцях. Праўда, яна паліць, як стары драгун, п'е па-гусарску, усё яшчэ неабыякавая да туалетаў і багатых убораў, але гэта ані не замінае варыць велізарнымі місамі варэнне, рыхтаваць батарэі марынадаў і сістэматычна пячы хатнія тарты. Так што, з'язджаючы з Везінэ, Апалінэр звычайна прыхоплівае з сабой некалькі слоікаў з любімым варэннем.

"Не забудзься вярнуць слоікі!" - нагадвае маці ў лісце. Калі ж здараецца прывезці з сабой госця, то і той пакідае хату, адораны харчамі "на дарогу". Гэты звычай выклікае ўсеагульнае здзіўленне сярод гасцей Апалінэра, тым больш, што нядзельная бяседа звычайна зацягваецца да самага ад'езду запрошаных. Толькі вось Апалінэр рэдка прыхоплівае з сабой сяброў. Ён асцерагаецца, што тыя не спадабаюцца маці, бо ўвогуле асцярогі гэтыя не пазбаўлены падстаў, паколькі маці неаднаразова перажывала з-за яго кепскіх знаёмстваў, кепскага таварыства. Варта ўявіць сабе ў мадам Кастравіцкай хоць бы Альфрэда Жары! Ды тая выгнала б яго палкай за благія манеры (пра яе кажуць, што яна з палкай бегае за прыслугай, якую ўвесь час змяняе), абурылася б на яго за адно грэбаванне гастранамічнымі абрадамі, у яе з ежаю не жартуюць, ежа-гэта рэч святая! Акрамя таго, запрашэнне сяброў у Везінэ мела той ценявы бок, што сямейная легенда ў нейкай меры падрывалася, сутыкнуўшыся з рэчаіснасцю. Да шчасця, рэчаіснасць гэтая была гэтак незвычайная і самабытная, што ўяўляла сабою сапраўдную выспу цудаў для агаламошанага госця. Апалінэр побач са сваёй грознай маці змяншаўся і прытухаў, паспешна рэціраваўся, яна ж, ва ўсёй велічы гаспадыні

дома, апекавала ўсіх сабраных, карміла, паіла і забаўляла гутаркай.

У адным з лістоў да Мадлен Пажэс з фронту (Апалінэру ўжо тады было за трыццаць) ён так апіша сваё стаўленне да маці: *"Увогуле то я вельмі люблю маму, і яна мяне, але славянскія рысы характару развіты ў ёй да такой ступені, што яна заўсёды будзе раўнаваць да кожнага, каго яе сын пакахае... Ты змушаеш мяне спехам, што амаль няветліва ў адносінах да мамы, растлумачыць факты, якія цяжка зразумець таму, хто не славянін, і якія паўтараюцца ва ўсіх славянскіх сем'ях... Я кажу табе гэта таму, што, пры ўсёй поўнасці сыноўскай любові і абсалютнай любові матчынай, маці мая не прымае ніякага ўдзелу ў маім жыцці, і добра ведае пра гэта: гэта выцякае з яе і майго характару, таму што, хоць у ёй няма ніякай цягі да літаратуры, асабліва да той, якой займаюся я, мы ўсё ж  падобныя адно на аднаго, галоўным чынам з-за нашага гонару, толькі яна неўтаймоўная, абсалютна неўтаймоўная, як гэта бывае толькі ў жанчын славянскага паходжання (чытай Дастоеўскага), і я магу жыць толькі ўдалечыні ад яе, а калі мы разам, яна абыходзіцца са мной як з дзевяцігадовым хлапчуком, пры аказіі яна магла б нават даць мне аплявуху, што я прыняў бы без супраціву, бо ні завошта на свеце не захацеў бы яе крыўдзіць, але я гэтак жа незалежны, як яна, так што не мог бы жыць разам з ёю. Яна занадта мяне любіць, а я гэтак жа люблю яе. Больш строгі характар майго брата дазваляе яму жыць з ёю пад адным дахам, ды і, паколькі ён не літаратар, маці яго паважае куды больш. Але маці мая, сама не падазраючы пра тое,- паэт, як і я, і многае напісанае мной зыходзіць ад яе, ад таго, што яна кажа, нават, што думае".*

Як бачна, стаўленне Апалінэра да маці вырастае ў яго жыцці да памераў праблемы, і такой, з якой нельга не лічыцца.

Не шмат было абраннікаў, якія маглі пераступіць парог дома ў Везінэ: Андрэ Сальман, Рэнэ Нікасія, адзіны - калі верыць яго словам - каму Апалінэр паказаў фатаграфію італьянскага афіцэра, сказаўшы: "Гэта мой бацька". Раз былі там нават Пікасо і Макс Жакоб (валасы ўстаюць дуба пры думцы пра гэта) і багаты юнак з залатой моладзі, прадстаўнік дацкага музея Петар Мадсен, якому ўдалося заваяваць адмысловую сімпатыю мадам Кастравіцкай. Тут адпаведную ролю мог адыграць яго непадробны, хоць і вельмі малады баронскі тытул! Ён жа і пакінуў кароткую, але пышную характарыстыку маці Апалінэра, якая робіць гонар як лапідарнасці яго пяра, так і бліскучай назіральнасці.

Андрэ Сальман, запрошаны Апалінэрам за горад, з першай хвіліны быў падступна ўцягнуты ў падстроеную яму пастку. Паэт правёў яго ў вілу, ветліва прадставіў маці, пасля чаго, жалячыся на лютую мігрэнь, на цэлы дзень заваліўся ў пасцель, замкнуўшыся ў адным з пакояў. Злёгку агаломшаны, але як заўсёды ветлівы Сальман, заплюшчыўшы на імгненне вочы і ўручыўшы сябе добрым багам, увайшоў у клетку грознай, але пры добрай гаспадарцы ільвіцы, якая, кормячы і спяваючы, пратрымала яго ў гэтым бесперапынным стане гасціннасці амаль дванаццаць гадзін. Толькі познім вечарам ён, не атрымаўшы аўдыенцыі ва ўсё яшчэ хворага прыяцеля, адбыў, зразумела з традыцыйным скруткам пад пахай. Найвялікае ўражанне зрабіў на яго раскінуты ў адным з пакояў ханскі шацёр, пад якім падаваліся кава, тытунь і лікёры.

Плётак пра мадам Кастровіцкую захавалася за паўстагоддзя без ліку. Уладальнік вілы, якая здавалася ў Везінэ, скардзіўся, што яна самавольна ссекла дуб, які зацяняў нейкі з яе пакояў, і асушыла сажалку, асцерагаючыся вільготнасці. З жахам распавядаў ён, што яна піла чысты ром і віскі, ледзь-ледзь разведзены гарбатай. (Заўважце - гарбатай!) Ён нават адважваўся сцвярджаць, што яна біла беднага Вейля, які неяк адкрыў яму дзверы ўвесь падрапаны, растлумачыўшы свой выгляд злым характарам малпачкі, якая жыла ў Везінэ. (У іх была яшчэ і малпа!) Уладальнік, абыходзячы вілу, са здзіўленнем убачыў у сталовай велізарны більярд і раскрытыя ламберные столікі, мэблю, даволі незвычайную для дробнабуржуазнога інтэр'еру. Як бачна, рызыка не пакідала мадам Кастравіцкую да старэчага ўзросту, з часам знікла толькі вонкавая пышнасць, элегантныя казіно змяніліся ігральнымі памяшканнямі паменш. Ужо падчас знаходжання ў Бельгіі, куды мадам Кастравіцкая вывезла сыноў на першыя вакацыі, забраўшы іх са школы, ёй па дакладна не ўстаноўленых прычынах было адмоўлена ў допуску ў клуб замежнікаў пры казіно ў Спа. Гэта было першая перасцярога, якая павінна была прымусіць мадам Кастравіцкую своечасова сысці са згубнага шляху рызыкі.

Вакацыі, праведзеныя ў Бельгіі, у невялікім гарадке Стаўло, адзін з самых зыркіх перыядаў у жыцці Апалінэра. Ён і яго брат Альбер жылі спачатку пад апекай дзядзькі Вейля, потым адны. Неаднаразова наведвалі яны маці ў Спа і Остэндзе, яна ж ніколі да іх не рвалася, захоўваючы для атачальных сваё матчынае інкогніта. Інкогніта вельмі спатрэбіцца па вяртанні хлопчыкаў у Парыж, дзе будзе ўзбуджана судовая справа супраць мадам Кастравіцкай, якая назвалася Вольгай Карпавай (цікава, што яна ўзяла імя рускага, якому царскі ўрад перадаў канфіскаваны ў Кастравіцкіх радавы маёнтак Арняны), з-за неаплачанага рахунка за пражыванне яе непаўнагадовых сыноў, Вільгельма і Альбера, у пансіянаце ў Стаўло. Справа гэтая не пазбаўлена пікантнасці. Абодва хлопчыкі лічыліся ў Парыжы кузенамі мадам Карпавай, што тлумачыцца, відавочна, пытаннямі пристойнасці (прысутнасць мсье Вейля!) і асцярогай перад бельгійскімі крэдыторамі.

Справа скончыцца нічым, але ўвесь гэты прыкры інцыдэнт сведчыць аб сталых фінансавых цяжкасцях мадам Кастравіцкай і адсутнасці ў яе комплексаў там, дзе гаворка ідзе пра паўсядзённыя жыццёвыя абавязкі.

У Стаўло Вільгельм, ужо юнак, яму дзевятнаццаць, ён спрабуе заляцацца да дзяўчат і адмысловай увагай атачае прыгожую дачку тамтэйшага рэстаратара Мірэйр, самую прыгожую дзяўчыну ў горадзе. Вучнёўскія вершаваныя распачынанні (ён ужо надрукаваў адзін верш у Ніцы) становяцца тут сапраўднай паэзіяй, ствараецца цэлы цыкл вельмі неблагіх вершаў, прысвечаных Мірэйр, насычаных тонкім пачуццём і тым пышным адчуваннем атмасферы горада, якое будзе характэрна для будучыні Апалінэра. Мірэйр відавочна імпануюць заляцанні маладога замежніка, які славіцца ў Стаўло comte russo, рускім графам, старанна захоўвае яго вершы, і захавае, перавязаныя ружовай стужачкай, на ўсё жыццё, канец якога рамантычна і кранальна супадзе са смерцю паэта.

Стаўло - гэта першае сутыкненне Вільгельма Кастравіцкага з паўночнікамі. Востры, так добра знаёмы яму па Ніцы, пах часныку і аліўкавага алею саступае месца з'едліваму дыму, які цягнецца па рана адзначаных восенню наваколлях, цёмнавалосыя агнявыя дзяўчаты поўдня сплываюць удалечынь на барках памяці, на танцавальных вечарах у Стаўло яму працягваюць рукі светлыя, буйныя дзяўчаты, адны ружовыя, пульхныя фламандкі, якія пастаянна хіхікаюць, другія - гнуткія і меланхалічныя, з блакітным затуманеным паглядам. Ён танчыць з імі, жартуе і лічыцца адным з самых элегантных юнакоў у горадзе. Па вечарах п'е са сталымі мужчынамі ў карчме піва і закусвае хрумсткай бульбай, у якой тут зусім іншы смак, чым на вузкіх вулічках старой Ніцы. Па грубіянскіх жартах, непатрабавальных анекдотах вучыцца ён новаму стылю захаплення жыццём старэчага ўзросту Тыляў Уленшпігеляў, якія выраслі на цяжкіх мучных стравах сярод халодных вятроў з паўночнага мора.

Праходзіць лета, знаходжанне юнакоў у Стаўло зацягваецца да позняй восені. Уладальнік пансіяната цярпліва чакае платы за стравы, якіх не шкадуе для маладых людзей з выдатным апетытам, нават не падазраючы, што за іх ніколі не заплацяць. Аднойчы Вільгельм атрымлівае ад маці ліст з наказам паскладаць самыя каштоўныя рэчы і, не папярэдзіўшы гаспадара, выслізнуць з братам са Стаўло. Заданне адказнае і рызыкоўнае. Што скажа шаноўны ўладальнік пансіяната, мсье Канстан, як зловіць іх з валізкамі ў калідоры, калі яны будуць красціся да дзвярэй, яшчэ да таго як світанак зазірне ў вокны? З якім выглядам прыйдзецца вяртацца ад станцыі, дзе іх ведаюць усе і дзе з недаверам паставяцца да гэтага нечаканага рашэння з'ехаць адным, без дарослых? Пры думцы пра гэта ў юнакоў мурашкі прабягаюць па спіне. План, аднак, удаўся цудоўна. Браты пакідаюць дом незаўважанымі, пасля чаго, валакучы цяжкі багаж, цягнуцца да наступнай станцыі, адкуль без вялікіх цяжкасцяў перасякаюць на цягніку бельгійска-французскую мяжу. Але шаноўны мсье Канстан, уражаны такімі неджэнтльменскімі адносінамі, пачынае шукаць маладых уцекачоў, прыцягвае апекуноў да суда і выйграе справу, хоць грошай так і не атрымлівае.

Бельгійскі паэт Робер Гофен, які сабраў шмат матэрыялу пра бельгійскі перыяд і перыяд, звязаны з Ані, у біяграфіі Апалінэра, паспрабаваў завязаць перапіску з былымі ўладальнікамі пансіяната, дзе летам 1899 гады жылі браты Кастравіцкія. Уладальніка, якому было накіравана ліст, ужо не было ў жывых, адказаў яго сын Жан Канстан, які, як відаць па тоне ліста, успадкаваў ад бацькі ўсё яшчэ не ўцішаны сямейны гнеў і абурэнне ашуканцамі, якія не толькі пазбавілі старога Канстана належных яму грошай, але яшчэ і зрабілі пасмешышчам у вачах жыхароў мястэчка.

Адразу ж пасля Другой Сусветнай вайны бельгійскія прыхільнікі паэта павесілі ў памяць пра знаходжанне Апалінэра ў Стаўло дошку з надпісам: *"Досвіткам 5 кастрычніка 1899 года паэт Гіём Апалінэр пакінуў гэты дом, дзе пражыў частку сваёй маладосці"*. Як бачна, некаторыя дэталі, якія кампраметуюць паэта, затушаваны, а павагі цалкам досыць. Можна ўявіць, што сын Канстана не быў задаволены гэтымі ўшанаваннямі і не раз, сербануўшы піва, пагражаў палкай мемарыяльнай дошцы, якую ўмацавалі тут, ані не думаючы пра пацярпелых, а толькі шануючы крыўдніка, даўжніка і ўцекача. Няма справядлівасці на гэтым свеце! Дык вось, гэты мсье Канстан - малодшы, зрэшты ўжо не вельмі малады, у адказ на ліст Робера Гафена выліўся наступнай эпісталой:

*"З жалем апавяшчаю Вас, што адзіная інфармацыя, якую я магу прадставіць пра шаноўнага мсье Апалінэра, абмяжоўваецца фактам, што гэтая ганебная асоба пасля трох месяцаў знаходжання ў маіх бацькоў знікла аднойчы ўначы на ангельскі манер, не заплаціўшы, што прымусіла маю бедную маці праліваць горкія слёзы. Вы толькі ўявіце: па меншай меры сто франкаў у 1899 годзе!*

*Вось Вам аблічча гэтага спадара, пра якога Вы збіраеце звесткі: самы звычайны ашуканец, і нічога больш! Тады як маецца гэтулькі прыстойных, сумленных бельгійцаў, якімі ніхто не думае цікавіцца. Што да адрасу маёй сястры, то я не бачу падстаў даваць яго, а перасылаю ёй Ваш ліст.*

*Ж. Канстан."*

Цяжка адмовіць у рацыі добрапрыстойнаму бельгійцу, выпадак быў даволі непрыемны. Малады паэт узяў гэта здарэнне за аснову літаратурнага твора, для юнацкай штучкі пад назвай "A la cloche de bois"[1] якая, як той казаў, ніколі не ўбачыла агнёў рампы.

Прыехаўшы са Стаўло ў Парыж, браты Кастравіцкія пасяліліся з маці ў невялікай кватэры на вуліцы Амстэрдам, жывучы сціпла, нават часам залішне сціпла...

*Матэрыял скампанаваў,*
*да беларускай мовы адаптаваў*
*і да друку падрыхтаваў*
***Станіслаў Суднік.***

[1] Употай, цішком *(франц.)*.

***У лідскіх калекцыях***

# Гэта і нашыя ўзнагароды

У лідскіх калекцыях з’явіліся ўзнагароды часоў польска-савецкай вайны 1919-1920 гадоў і часоў Сярэдняй Літвы: Крыж Заслугі Войскаў Сярэдняй Літвы і памятная адзнака Літоўска-Беларускага фронту. Гэтыя ўзнагароды атрымалі многія беларусы, якія змагаліся перш за ўсё ў шэрагах Беларуска-Літоўскіх дывізій. Таму не дзіўна, што крыжы раз-пораз знаходзяць на тэрыторыі Лідскага раёна.

**Крыж Заслугі Войскаў Сярэдняй Літвы**



Крыж Заслугі войскаў Сярэдняй Літвы (Krzyz Zaslugi Wojsk Litwy Srodkowej) - заснаваны Віленскім Соймам 25 лютага 1922 гады, уключаны ва ўзнагародную сістэму Польскай Рэспублікі ў 1926 году. Гэты знак ваеннага адрознення прызначаўся для ўзнагароджання вышэйшых армейскіх чыноў, якія здзяйснялі кіраўніцтва баявымі дзеяннямі пад Вільняй і афіцэраў, што прымалі непасрэдны ўдзел у баявых дзеяннях у складзе Беларуска-Літоўскай дывізіі пад камандаваннем генерала Л. Жалігоўскага з 9 кастрычніка па 19 лістапада 1920 года. Крыжом узнагароджваліся да канца 1926 года. Было праведзена 1439 узнагароджанняў. Сярод узнагароджаных: маршал Ю. Пілсудскі, генералы Л. Жалігоўскі і В. Сікорскі.

Крыж вырабляўся прыватнымі фірмамі. Для атрымання яго неабходна было прад'явіць Дыплом пра ўзнагароджанне і ўнесці ў скарб кошт вырабу знака.

Знак уяўляў сабою стылізаваны рыцарскі крыж з пашыранымі да канцоў і злёгку ўвагнутымі па баках плячамі.

На аверсным баку крыжа ў цэнтральнай яго частцы змешчана рэльефны малюнак арла з распасцёртымі крыламі, які трымае ў кіпцюрах тарчу з малюнкам герба Літвы ("Пагоня"). Плечы крыжа злучаны паміж сабой лаўровым вянком, якія ўтвараюць вузкае кольца. На верхнім плячы крыжа надпіс: "WILNO", на гарызантальных і ніжнім плячы - даты: "9.X.", "19.IX.", "1920".

На адваротным баку крыжа на гарызантальных плячах змешчана надпіс: "LITWA - SRODKOWA". На вертыкальных плячах намаляваны два мячы, зарыентаваныя сваімі лёзамі да канцоў крыжа. У цэнтральнай частцы - круглая таблічка, акантаваная пояском. На таблічцы выбіваўся парадкавы нумар узнагароды.

Крыж па перыметры апраўлены вузкім борцікам. Усе надпісы выпуклыя.

Знак вырабляўся са светлай бронзы.

Памеры крыжа 43 x 43 мм.

Крыж насіўся на зялёнай стужцы шырынёй 37 мм з чырвонымі і жоўтымі палоскамі 2 мм шырыні.

Крыж Заслугі войскаў Сярэдняй Літвы насіўся пасля Крыжа Заслугі (агульнапольскага), але перад Крыжам на Шлёнскай Стужцы Змагання і Заслугі.

**Памятная адзнака Літоўска-Беларускага фронту**








Літоўска-Беларускі фронт - аператыўнае злучэнне Войска Польскага, утворанае ў ходзе польска-бальшавіцкай вайны дырэктывай Галоўнакамандуючага генерала Юзафа Пілсудскага 15 траўня 1919 г. Фронт утвораны з чатырох тактычных груп, якія дзейнічалі на тэрыторыі былога ВКЛ: генералаў Рыдз-Сміглага, Макрэцкага (родам з-пад Ліды), Ласоцкага і палкоўніка Зарыцкага. Задачай фронту было правядзенне федэралістычнай ідэі, або ўтварэнне незалежных Літвы і Беларусі, як буферных дзяржаў паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. Пад камандай Макрэцкага і Ласоцкага былі часткі Беларуска-Літоўскіх дывізій.

Адзнака выраблялася некалькіх варыянтаў: з жоўтага металу і белага металу з чорнай і чырвонай эмаллю. Знак уяўляў сабою стылізаваны рыцарскі крыж з пашыранымі да канцоў і злёгку ўвагнутымі па баках плячамі. Па цэнтры размяшчаўся польскі геральдычны арол, на грудзях якога размешчана тарча з шасціканцовым беларуска-літоўскім крыжом (Крыж Ярылы). На крылах надпіс: “Front Lit. Bial. 1919-1920”.

***Матэрыял скампанаваў***
***Станіслаў Суднік.***

*Алесь Хітрун*

# МАСТАЦКІЯ АДМЕТНАСЦІ БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ АНЕКДОТАЎ І ЖАРТАЎ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ

Беларуская вусна-паэтычная творчасць з'яўляецца важнай часткай духоўнай спадчыны народа. Яна служыць магутным сродкам вобразнага пазнання жыцця, праўдзіва адлюстроўвае думкі, імкненні і спадзяванні народа, дапамагае яму ў вырашэнні пэўных спраў, садзейнічае выхаванню эстэтычных густаў і ідэалаў. Многія стагоддзі вуснапаэтычная творчасць была адзінай формай выражэння духоўнага жыцця працоўнага люду, неад'емнай часткай культурных здабыткаў народа і лічыцца спадарожнікам працоўнага чалавека на працягу ўсяго яго жыццёвага веку.

У фальклорнай спадчыне беларусаў народна-паэтычнай творчасці Заходняй Беларусі належыць асобнае месца. Некаторыя творы заходнебеларускай народнай паэзіі ўзніклі як жывы, непасрэдны водгук на нядаўнія войны, узброеную барацьбу з захопнікамі, на антынародную ўладу. Часам яны заключаліся ў афарыстычную форму прыказак, знаходзілі выхад у форме лірычнай песні элегічнага тону, здзекліва-насмешлівы змест мелі прыпеўкі, якія высмейвалі прыхадняў, несамавіта адчуваўшых сябе на чужой зямлі і дрыжаўшых ад страху перад народнай помстай. Аднак самыя ідэйна-вострыя і паўнагучныя творы ўзніклі ў вуснай традыцыі, дзе яны не былі абмежаваны рамкамі цэнзуры. Пакідаючы вядучае месца за песняй, народна-паэтычная практыка стала развівацца ў форме вуснага сказа і бытавой сатырычнай казкі палітычнага зместу, у форме анекдота і нават загадкі.

Заходняя Беларусь, а калі канкрэтна, Гарадзеншчына, шырока выкарыстоўвае ў фальклоры і зброю сатыры, якая накіроўваецца супраць розных недарэчнасцяў у нашым грамадстве. Рэзкасць крытыкі адмоўных з'яў нашага жыцця характэрна для народных твораў розных жанраў. Сярод сатырычных песень вялікай папулярнасцю карыстаюцца ў народзе песні-пародыі, жанр, які быў пашыраны і ў дарэвалюцыйным беларускім фальклоры. У адрозненне ад літаратурных пародый, якія складаюцца з мэтай асмяяння стылю і зместу той або іншай песні, гэтыя пародыі-сатыры накіраваны супраць недахопаў у працы калгасаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, супраць розных заган і хібаў людзей ("У сватах", в. Морына Іўеўскага р-на Гарадзенскай вобл. [7]; "Філіп і Магдуля", в. Дварэц Дзятлаўскага р-на Гарадзенскай вобл. [7]; "Багацейкі", г. Гародня) [7]).

У жанравых адносінах сярод сучасных народных твораў пераважаюць у большасці анекдоты - найбольш "аператыўны" жанр, які адгукаецца амаль на ўсе падзеі і з'явы як станоўчыя, так і адмоўныя. Анекдот займаў значнае месца ў рэпертуары розных пластоў насельніцтва як вельмі мабільны, дынамічны жанр, які дазваляў хутка рэагаваць на бурныя падзеі свайго часу. Побач з творамі бытавога плану ўзнікалі анекдоты, накіраваныя на выкрыццё сацыяльнай няроўнасці, а таксама антыўрадавыя анекдоты.

Сваю каранёвую жанравую аснову анекдоты, жарты і гумарэскі атрымалі амаль аднолькава з узнікненнем сацыяльна-бытавых казак, але ў адрозненне ад апошніх актыўна бытуюць і зараз. Варта нагадаць, што анекдот паходзіць ад грэчаскага слова "анекдотас" (anekdotos) са значэннем "неапублікаваны". У XIX стагоддзі пад анекдотам разумелі кароткае камічнае апавяданне пра смешны выпадак з жыцця вядомай гістарычнай асобы. Пазней значэнне гэтага тэрміну пашырылася: анекдотам пачалі называць невялікае вуснае апавяданне сатырычна - гумарыстычнага характару з нечаканай камічнай канцоўкай.

У прыватнасці, анекдот у сваім змесце нагадвае сацыяльна-бытавую казку, жарт, досціп. Сатырычна-гумарыстычная казка і анекдот маюць характэрнае адрозненне. Калі ў першай характэрнай рысай з'яўляецца наяўнасць фантастыкі, то ў другім у большасці фантастыка адсутнічае. Важнай вызначальнай спецыфічнай рысай анекдота як фальклорнага жанру з'яўляюцца яго аднаэпізоднасць і нечаканасць развязкі адлюстраванай у ім падзеі, учынку, смешнага выпадку з жыцця. Канцоўка твора вызначаецца камічнасцю і дасціпнасцю.

Узнікненне анекдотаў, жартаў, досціпаў тлумачыцца імкненнем народа па-мастацку асэнсаваць асобныя з'явы рэчаіснасці ў жыцці. Вытокам многіх твораў гэтага жанру былі казкі, прыказкі, народныя афарызмы.

Блізкі да анекдота жарт, асновай якога з'яўляецца апавяданне пра смешнае здарэнне, дасціпная насмешка. Калі анекдот крытыкуе і сацыяльна-палітычныя з'явы, то жарт незласліва высмейвае бытавыя здарэнні, смешныя рысы людзей, іх дзіўныя ўчынкі і камічныя размовы. Як і для анекдота, для жарта характэрна аднаэпізоднасць дзеяння - нечаканасць выніку. Пераважнай формай жарту з'яўляецца дыялог.

Добразычлівым характарам смеху вызначаецца і гумарэска, або досціп - невялікі апавядальны твор, у якім трапна высмейваюцца прыватныя з'явы, паводзіны людзей. Для гумарэскі ў адрозненні ад анекдота камічны вынік ці аднаэпізоднасць не з'яўляецца абавязковай.

Анекдот распаўсюджваецца ў народзе. Але збіранню і вывучэнню гэтага жанру на Беларусі ў цэлым, і на Гарадзеншчыне ў прыватнасці, не надавалася належнай увагі, хаця частка працы была зроблена ў дарэвалюцыйны час. На мяжы XIX - XX стст. былі апублікаваны выдадзеныя ў Кракаве тры тамы аднаго з найбуйнейшых у гісторыі беларускай фалькларысты-

кі збору вусна-паэтычнай творчасці - шматтомавага выдання М. Федароўскага "Люд беларускі..." ("Lud bialoruski na Rusi Litewskiej"). У гэтых тамах і былі сканцэнтраваны разнастайныя ў жанравых адносінах апавядальныя творы беларускага фальклору: усе жанравыя разнавіднасці казачнага эпасу, легенды і паданні, былічкі, вусныя апавяданні. Трэці том (1903 год) вялікага выдання хоць і з недахопамі ў размеркаванні матэрыялаў, з'яўляецца адным з найбольш поўных і цікавых зборнікаў сацыяльна-бытавых і авантурна-навелістычных казак і анекдотаў, у якіх знайшлі адлюстраванне паўсядзённае жыццё і клопаты селяніна, яго сацыяльныя стасункі і мараль, перадаецца багацце народнага гумару, яго адносіны да рэчаіснасці. Анекдоты, жарты і досціпы размеркаваны ў ім па тэматычным прынцыпе. Сярод іх нямала твораў пра паноў, папоў, ксяндзоў, пра адносіны паміж імі і сялянамі. Адметнае месца займаюць творы пра палешукоў, мазураў, цыганоў, немцаў, габрэяў. Асаблівасцю многіх анекдотаў з'яўляецца іх вострая сацыяльная накіраванасць. Просты селянін высмейвае ксяндза, папа, час ад часу ашуквае іх. Героямі некаторых анекдотаў выступаюць вядомыя гістарычныя асобы: Касцюшка, Радзівіл і інш.

Свой значны след у збіральніцкай працы сатырычна-гумарыстычных твораў малых форм пакінуў Е.Р. Раманаў. У 1912 г. у Вільні выйшаў яго зборнік "Матэрыялы па этнаграфіі Гарадзенскай губерні", дзе ён змясціў 19 анекдотаў. Галоўным героем у большасці гэтых твораў з’яўляецца спрытны салдат, які ашукаў някемлівую бабку ("Салдат да баба", "Не гусак, а гуска"). У іншых высмейваліся пыхлівая ганарыстасць, хцівасць, п'янства, гультайства ("Цыган на дрэве", "Маскаль-касар").

Варта адзначыць, што першым зборнікам сатырычна-гумарыстычных твораў малых форм была невялічкая кніжачка "Беларускія жарты", выдадзеная ў 1915 г. В. Ластоўскім у якасці дадатка да беларускіх выданняў; пазней выйшлі ў свет зборнікі анекдотаў і жартаў "Народныя ўсмешкі" (1961 г.), "Беларускія народныя жарты" (1970 г.), складзеныя З. Бяспалым; Нілам Гілевічам быў выдадзены зборнік "Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі" (1983 г.), у якім былі апублікаваны 44 анекдоты. Шматлікасць народных анекдотаў і жартаў змяшчалася і змяшчаецца ў сатырычна-гумарыстычным часопісе (цяпер альманасе) "Вожык", у розных газетах ("Звязда", "Рэспубліка", "Ніва" (Беласток)) і іншых выданнях. Вялікая колькасць захоўваецца ў фальклорных архівах, пераважна ў архіве ІМЭФ.

Уклад у захаванне народных сатырычна-гумарыстычных твораў малой формы Гарадзеншчыны ўнеслі і іншыя збіральнікі, да ліку якіх у першую чаргу трэба аднесці П.В. Шэйна, А.С. Фядосіка, К.П. Кабашнікава, У. Содаля і іншых руплўцаў. Большасць сабраных імі твораў па заходняй частцы Беларусі - Гарадзеншчыне, захавана беларускай Акадэміяй навук інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ў томе серыі "БНТ" "Жарты, анекдоты, гумарэскі" (1984 г.).

Дасканалую працу ў зборы анекдотаў і жартаў Гарадзеншчыны выканаў Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. У 2007 годзе дзякуючы гэтай ВНУ выйшла ў свет хрэстаматыя "Беларускі фальклор Гродзеншчыны: Народны эпас. Замовы. Варажба" (складальнік Р.К. Казлоўскі), у якой змешчаны сучасныя запісы тэкстаў беларускіх народных казак, легенд, паданняў, сказаў, замоў і ў тым ліку анекдотаў і жартаў колькасцю 47 найменняў.

Трэба адзначыць, што значны ўклад ў даследаванне фальклору зрабіў даследчык М.А. Янкоўскі. У яго манаграфічнай працы "Паэтыка беларускай народнай прозы" (1983 г.) разглядаюцца праблемы вытокаў паэтыкі народнай прозы, суадносінаў слова і вобразу ў фальклорных творах, асацыятыўнасці мастацкага слова, узаемадзеяння матываў і вобразаў у розных жанрах народнай прозы (анекдота і народнага жарту, у тым ліку асобным раздзелам).

Такім чынам вынікае, што анекдоты і жарты Гарадзеншчыны канца XIX - пачатку XX стст. у значнай ступені даследаваныя.

Анекдот як жанр гумарыстычна-сатырычнага характару да цяперашняга часу не мае сваёй навуковай сістэматызацыі. Вядомы фалькларыст М.П. Андрэеў выказаў свае слушныя думкі пра класіфікацыю анекдотаў па знешнежанравай прыкмеце, пры гэтым пазначыў недасканаласць падзелу анекдотаў на пэўныя групы ў каталогу Аарнэ з навуковага пункту гледжання фармальна-лагічнай паслядоўнасці і ахопу ўсяго матэрыялу. Навуковец падзяліў іх на фабульныя і бесфабульныя і сістэматычна расклаў на адпаведныя тэматычныя групы. Такая класіфікацыя і сістэматызацыя мае магчымасць значна больш поўна і больш дасканала ахапіць велізарную колькасць разнастайных па сваім зместу і форме анекдотаў, у прыватнасці і Гарадзеншчыны. Выказванні М.П.Андрэева ў артыкуле "Сацыяльна-класавыя матывы ў анекдоце" вартыя ўвагі, у іх пераадолены важны недахоп сістэмы Аарнэ - ігнараванне сацыяльнага зместу анекдотаў. Трэба пазначыць, што М.П. Андрэеў меў рацыю, адзначыўшы, што "такі падзел амаль зусім (за выключэннем анекдотаў пра паноў) не раскрывае менавіта сацыяльна-класавыя элементы ў анекдотах". Аднак і ў бочцы мёду ёсць лыжка дзёгцю: новая сістэматызацыя анекдотаў М.П. Андрэева мае недахопы. Праявілася гэта ў тым, што яна не ахоплівае ўвесь масіў твораў (куды, напрыклад, аднесці анекдоты, у якіх высмейваюцца людскія заганы - прагнасць, гультайства, п'янства), і ў ёй не зусім дакладна вылучаюцца групы анекдотаў.

Анекдот па свайму знешняму абліччу - зместу, а часам і па структуры, вельмі блізкі да сатырычнай казкі і яго, пры тым, адразу немагчыма адрозніць ад яе. Свае меркаванi адносна гэтай асаблівасці рабілі розныя вучоныя (А. Пельтцар, С. Саўчанка). І ўрэшце рэшт аказалася, што адрозненнем ў анекдоце з'яўляецца аднаэпізоднасць і нечаканасць развязкі, у якой заўсёды прысутнічае камічнасць і дасціпнасць.

Народны талент перш за ўсё раскрываецца ў камізме персанажаў і сітуацый, у якія яны трапляюць. Анекдоты Гродзеншчыны здзіўляюць чытача пачуц-

цём гумару, які здольна заўважаны народам-творцам. Дадзенае назіранне сведчыць аб тым, што народ гэтага заходняга краю надзвычай кемлівы і дасціпны. Гэтым народным жанрам беларускі люд карыстаўся ў дакастрычніцкі час як важнай ідэйнай зброяй у барацьбе з сацыяльным прыгнётам.

Бязлітасная іронія і сарказм беларускага народа выкрывае дэспатызм і жорсткасць, прагнасць і скупасць, крывадушша і карыслівасць паноў, папоў і іншых прадстаўнікоў тых сацыяльных груп, якіх немагчыма крытыкаваць адкрыта. У анекдотах Гарадзеншчыны пашыранымі героямі супрацьпастаўлення з'яўляюцца дурны пан і мудры, кемлівы і дасціпны мужык. Селянін спрытна выкарыстоўвае слабасці свайго праціўніка, смяецца і здзекуецца з яго. Анекдот "Як паляшук пана сабакаю зрабіў" (в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ.) [12] раскрывае сутнасць пана, які нават у дзіцячыя гады бачыўся палешуку ў вобразе сабакі:

*" - От, Сямён, каб мы дзе і зышліся з табой разам, то не ведаў бы, хто я, а я - хто ты.*

*- А дзе, - кажа, - панічу, я пана пазнаў бы, калі яшчэ тады, як пан сабакам быў.*

*... - Паночку, не гневайся, я нічога ліхоха не сказаў, гэта я проці таго кажу, што пан яшчэ тады на чатырох лапах пад сталом хадзіў. То мы гэта кажам у простаці"* [12, с. 27-28].

Трапнае выказванне, як бачна, прыдуманае народам, мае свой каларыт, хоць і прамоўлена станоўчым героем - палешуком. Кампазіцыя ўсіх такіх анекдотаў амаль падобная. Вызначаецца яна нечаканай завязкай ў аднаэпізодным кірунку і мае такую ж самую нечаканую развязку, у якой адлюстраваны розныя смешныя выпадкі, учынкі з жыцця ў камічным завяршэнні - канцоўцы. Такія творы народ ствараў у большасці размоўнымі - у дыялогу двух герояў. Яшчэ ў XIX ст. былі распаўсюджаны так званыя ананімныя гутаркі пана з селянінам. У іх мужык наўмысна прыкідваецца дурнем, каб лепш накпіць з пана.

У анекдоце "Мужык і пан" (в. Драгічын Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12] з кумулятыўнай кампазіцыяй разгортваецца клубок дыялогу аднаіменных герояў. Размова пабудавана на гульні слоў і ператварае анекдот у каламбур. Пытанні пана мужык наўмысна ўспрымае не з тым сэнсам, з якім яны задаюцца, і адпаведна адказвае.

*"...- Чалавеку! Хто гэты двор трымае?*

*- А што, - кажа,- паночку, як новы быў, то сам стаяў, а цяпер як стары, то на лісіцы ўзялі.*

*...- Хто ж у вас старшы?*

*- У нас ёсць старая баба, ёй, дальбог, ёсць лет ужо з осімдзесят, то яна найстарэйшая за ўсіх у гэтым сяле.*

*...- Я хачу цябе спытаць: каго ў вас слухаюць?*

*- Ага! Слухаюць? Ёсць, паночку, у нас у сяле адзін хлопчык, лет сямі альбо і дзевяці, то як зачне граць на скрыпачцы, то ўсё сяло збягаецца і слухае"* [12, с. 29-30].

Канкрэтнага адказу, як бачна, пан і не дабіўся. Наступная іх сустрэча на рынку зноў не прывяла да агульназразумелай размовы. Пан з мэтай купіць авёс пытае ў мужыка:

*" - Чалавечку! Ці не чутно тут дзе аўса?*

*- Аўса?*

*..Узлез чалавек на воз, на дровы і ветрыць носам. Паветрыў, паветрыў да й кажа.*

*- Не, паночку, не чутно!*

*- Што тут за д'ябал! - кажа пан, - ці не ўчарашні ты, чалавечку?*

*- Што ты, паночку, мне будзе лет больш як з сорак, а ты кажаш, што ўчарашні! "* [12, с. 30]

Такія анекдоты (лепш сказаць, гумарэскі) з доўгай сюжэтнай лініяй разгортваюць маштабнае палатно паміж асобамі розных слаёў насельніцтва, і кожны герой праўдзіва адлюстраваны, пры тым, паўстае больш падрабязны малюнак ад пачутага. Кароткі анекдот мае ўжо меншы малюнак, але дасціпна і трапна б'е не горш за доўгі сюжэт, як, напрыклад, у "Што ні пан, то сабака" [12].

*"Едзе мужык і вязе свінню, а насустрач ідзе пан з сабакам. Пан кажа:*

*- Што ні мужык, то свіння.*

*А мужык, доўга не думаючы, адказвае.*

*- Што ні пан, то сабака "* [12, с. 40-41].

Як бачна, "разумны" прадстаўнік вышэйшага саслоўя застаецца абыграным з боку "дурнога" простага чалавека. І ў такіх выпадках, у ролі простага люду выступае не толькі селянін, мужык, але таксама і прадстаўнік з іншага народа, у прыкладзе з цыганом ("Сыны", в. Бародзічы Зельвенскага р-на Гарадзенскай вобл. [7]).

*" Пан запытаў у цыгана:*

*- Што будзе: дождж ці пагода? Калі скажаш, то заплачу.*

*- Я не ведаю, але мае сыны ведаюць, спытай у іх.*

*Адзін сын сказаў, што будзе дождж, а другі - пагода. Цыган сказаў:*

*- Давай грошы, хоць адзін ды ўгадаў "* [7, с. 40-41].

Акрамя паноў, дастаецца ў анекдотах і жартах Гарадзеншчыны і прадстаўнікам царкоўнага саслоўя. У такіх народатворах востра крытыкаваліся заганы святарства. У анекдоце "Набожны ксёндз" (м. Свіслач Гарадзенскай губ.) [12] раскрываецца недалёкасць святара, хоць ён і лічыўся вельмі пабожным. *"Ён раз сказаў людзям, што ў другую нядзелю прыляціць у касцёл свенты дух, ...ажно яму прыснілася, што дух свенты не явіцца яму за тое, што ён пахваліўся. Паслаў ён свайго парабка на сяло, каб ён купіў белага галубка і ў нядзелю рана занёс яго ў касцёл на гару. А там у столі былі маленькія дзверцы... Ксёндз... сказаў: "Як толькі я ў касцёле скажу: "Духу свенты, зэйдзь на мене!", дык ты ўпусціш гэтага галубка ў касцёл". Але ж як на бяду, гэтага "святога духа" з'еў кот. І пры прамаўленні ксяндзовых слоў, пасля казання, парабак з гарышча данёс: "Немаш, дабрадзею, кот з'ядл!"* [12, с. 58]

У гэтым творы нерэальнасць, міфічнасць, якая аснована на празмернай саманадзейнасці ксяндза,

пераўвасобілася ў рэальнасць, якая прадстаўлена другім героем - парабкам.

Такога манеру і "Незакончанае казанне"(г. Ваўкавыск Гарадзенскай губ.) [12]. Але тут у нагрузку дадаецца яшчэ адзін недахоп "божага" служкі - сацыяльная праблема - п'янства духавенства. Рызнічы, які па загаду ксяндза вымушаны быў узяць у карчме гарэлкі ў "крэдзіт" вярнуўся назад ні з чым, таму што паводле адказу яўрэя Давыда "ксёндз ужо і так многа набраў". А ў гэты час ксёндз гаварыў казанне пра караля Давіда і прамовіў да людзей: *"І што ж на тое адказаў кароль Давід?"* На гэтыя словы адказаў рызнічы, які думаў што яны датычацца яго: *"Давыд гаворыць, што болей гарэлкі без грошай не дасць, бо ксёндз і так у вялікім даўгу!"* [12, с. 79] Такі адказ служкі адразу б'е па загане. Прыстойнасць прапаведніка, насамрэч, як бачна, праяўлялася толькі знешне, а раскрыццё сапраўднага аблічча, выявілася ў камічнай сітуацыі. [12, с. 79].

Анекдот "Паляшуцкія пропаведзі" (в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12] раскрывае тую ж тэму - ненедастатковую адукаванасць святарства. Варта пазначыць, што анекдоты пра палешукоў карысталіся ў беларусаў вялікай папулярнасцю. Гэтыя героі не ўмеюць нічога рабіць і не ведаюць самых звычайных жыццёвых ісцін. Такім героем пададзены малады поп, які накіраваны быў бацькам вучыцца на святара, "пабыў ён недзе колькі гадоў, у бацькі грошы набраўшы, ажаніўся дый прыехаў дадому" [12, с. 61]. У вёсцы для яго збудавалі царкву. І на першай пропаведзі *"ён выйшаў з кніжкай дый пытае ў народа:*

*- Людзі, людзі, ці вы ведаеце, што ў гэтай кніжцы напісана?*

*- Не, - кажуць, - не ведаем, ойчэ духоўны.*

*- То вам і казаць нечага, калі вы такія дурні"* [12, с. 61].

Такое ж пытанне, якое было зададзена на наступнай нядзельнай пропаведзі мела адказ у адваротнай форме:

*" - Ведаем, ойчэ духоўны!*

*Але ж і тут мясцовы поп знайшоў выхад з сітуацыі:*

*- То што, - кажа, - буду язык аб зубы біць, калі вы самі ведаеце"* [12, с. 61].

Невуцтва папа, які "пабыў недзе колькі гадоў" і меў права на правядзенні пропаведзяў, як дзіўна, не заўважана сялянамі, а наадварот, яны *"пабедавалі, што занадта папа разумнага маюць, бо ўжо і невядома, як цяпер яму адказваць"* [12, с. 61].

У такіх "заслужаных" святароў народ заўважаў шмат надахопаў і стараўся высмеяць іх у належным парадку. Анекдот "Кпіны шляхецкія з хлопаў" (в. Міжрэчча Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12] не толькі ўтрымоўвае з'едлівую насмешку, але і зачэпку ў саміх словах - назвах.

*"Раз вёз адзін чалавек двух клерыкаў да семінарыі, а шляхціц пытаецца ў яго ў карчме на папасе:*

*- А каго ты вязеш, мой саколіку?*

*- Кнурыкаў, - кажа, - да свінарыі, мой паночку. Вот як людзко спільшчыў!"* [12, с. 61]

Словы ў пераносным паняццях "клерыкі - кнурыкі", "семінарыя - свінарыя" маюць розныя значэнні. Але ж розніцу ў іх народ бачыў невялікую. Клерыкі, як прадстаўнікі пачатковага святарства, між іншым, як і іншыя святары-каталікі пазбаўлены як вядома сямейнага дабрабыту і права прадаўжэння свайго роду, прычым, надзелены прыроднымі якасцямі, як і іншыя простыя людзі. Вось гэтая праява і заўважана ў народзе, якая пасля знайшла месца ў высмейванні.

Сатырычна едка высмейваецца "божы" служка ў анекдоце "Папоўская пропаведзь" (м. Мсцібава Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12]. Прыхаджане, якія паскардзіліся "першасвяшчэннаму" на папа, які "не ходзіць на казанне", пасля прыходу вінаватага пачулі загадку-адгадку. *"От стаіць кабыла сівая на чатырох нагах. Ну што гэта? Ногі? Гэта ногі - стаўбы, а кабыла сівая - гэта свет! А пад хвастом у яе што? Гэта ад! От вас, сукіных сыноў, за пятроўку, філіпаўку, вялікі пост усіх - кабыліцы пад хвост!"* [12, с. 63].

Без належнага шанавання да "Святога пісання" адносіўся і просты люд. І гэта востра крытыкавалася тым жа людам. У анекдоце "Мяса ў пост" (в. Петрашы Дзятлаўскага р-на Гарадзенскай вобл.) [12] "адзін чалавек надта хітры" імкнецца абысці вялікі пост, але не перастаць пры тым ужываць мяса і застацца безгрэшным.

*" - Войчанька, а што трэба рабіць з тым мясам, што пасля ночы ў зубах застаецца?*

*А ксёндз і кажа:*

*- Што ж ты зробіш з ім, трэба з'есці, ужо за гэта не будзе граху"* [12, с. 85-86].

"Надта хітры чалавек" тады вырашыў укласці ў зубы на запускі "ўсмажаную ў сале гусь і заснуў". На раніцы пастаўленая мэта ім была дасягнута: у вялікі пост з'еў мяса і пры тым не ўчыніўшы граху.

Анекдот ці жарт - гэта больш празаічны твор. Але ёсць і адпаведная рыса якая яднае анекдот з родам літаратуры - паэзіяй, прынамсі, з байкай. Як і ў пазначаным вышэй творы, і ў іншых, ёсць вынікі сказанага, падобнага да баечнай маралі. Народны жарт мае задачу не толькі пацяшаць, але і прымушаць да разважанняў. І ў якасці разгрузкі чытачу хоць зрэдку, але выступае мараль, якая і тлумачыць сэнс папярэдне сказанага.

Сатырычна-народны твор тыпу "Якому ты д'яблу ставіш?" (Кобрынскі п. Гарадзенскай губ.) [12] мае мэту паказаць няўменне людзей карыстацца мовай адпаведна сітуацыі. Цэнтрам здарэння выступае "вобраз святога Мікалая", якому "адзін беларус" хацеў праз натоўп малячыхся ў царкве перадаць свечку. Але заўважыўшы, што *"свячу яго ставяць перад вобразам якогасьці іншага святога, толькі не Міколы"*, ён зрабіў гучную заўвагу: *" - Якому ты д'яблу ставіш, Мікалаю пастаў!"* [12, с. 97] Як бачна, выраз "якому д'яблу", што дарэчы ў побыце, зусім недарэчы ў царкве, дзе апрыёры ўсе святыя.

Такая ж падобная структура і ў анекдоце "Якога мяне стварыў, такога мяне маеш" (фальварак Косін Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12]. Зноў-такі,

прастата і адначасова ганарыстасць шляхты, заўважаецца народам і дасціпна адлюстроўваецца. *"Упаў шляхціц у стол алтара і думае, што яго ніхто не слышыць, пачаў ад такіх слоў малітву сваю: "Пане, вот я ёсць твой слуга, к таму ж яшчэ шляхціц".*

*А хтось за алтаром тым часам, стоячы, гаворыць.*

*- Хоць шляхціц, але дурань!*

*Тады шляхціц думае, што там сам Бог адмаўляе, гаворыць:*

*- Пане, якога мяне створыў, такога мяне маеш!"* [12, с. 97]

Твор без маральнай канцоўкі, але дасціпны, годны адказ самога героя развязвае ўзгаданую праблему, у якой закладзена вызначанае "зерне" ісціны: перад Богам можна не велічацца: калі дурань, то дурань, і нічога тут не зробіш, але ўсяроўна не ён вінаваты. Бог стварыў дурня, то Бог і вінаваты.

Падобная размова-малітва да Бога пададзена і ў народным гумарыстычным творы "Як злодзей ачысціў жанчыну ад грахоў" (в. Петражоўка Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12]. Гераіня анекдота "вельмі пабожная жанчына", якая "аднаго вечара ўкленчыла каля лавы і давай пацеры гаварыць" і прасіць ў Бога ачышчэння ад грахоў. Пачатак аповеду зусім звычайны. З'яўленне другога героя - злодзея (які сядзеў пад лаваю) робіць сітуацыю гратэскавай.

*" - Божа, ачысці мяне ад грахоў!*

*То злодзей:*

*- Ачышчу, ачышчу!*

*-... І яшчэ, Божа, мае дзеткі ачысці.*

*- Добра, добра. Як паспею, то ўсіх пачышчу!"* [12, с.102]

Псеўда-Бог, выслухаўшы просьбу - мэту, пастаўленую яму, як *"усе паклаліся спаць, ...вылез, усё пабраў, што змог, ачысціў гладка і сам пайшоў!"* [12, с. 102] Маралізатарская цытата: *"Вось якая боская літасць!.."* гучыць іранічна-сцвярджальным тонам.

Дасціпны гумар і багатая фантазія народа адлюстраваліся таксама ў анекдотах пра цыганоў, мазураў. Героі гэтых народатвораў робяць недарэчныя ўчынкі, трапляюць у камічнае становішча. Смех тут пануе незласлівы, добразычлівы. У аснове яго адсутнічае нацыянальная непрыязнасць і ўзлаванасць, з'едлівая кплівасць, а гучыць незласлівая насмешка, якая нічога не мае агульнага са сцвярджэннем нацыянальнай перавагі, пагарды да іншых народаў.

Анекдот "Як мазур спрытна рубаў галіну" (в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12] утрымоўвае незласлівую насмешку, якая адлюстравана ў смешных паводзінах мазура. Герой паказаны недасведчаным: то "рубае" тую самую галіну, на якой сядзіць; задае пытанні мужыку, ці адгадае, колькі ў яго кароў, то дзесята будзе яго; як завуць яго Марысю. І пры тым заклаў бочку піва і каня сівага, не разумеючы адкуль усё ведае гэты мужык.

З добразычлівым гумарам паказаны і палешукі, напрыклад, у такім дыялогу як "Паляшуцкая гутарка" (в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12].

*" - Скуль ты?*

*- З Астрога.*

*- Чый ты?*

*- Папоў слуга.*

*- Як цябе завуць?*

*- Янка.*

*- Чы еў бы ты капусту?*

*- Ой-ёй! - Абы тлуста!*

*- А гарох?*

*- Ох! Ох! Ох!*

*- А піў бы ты піва?*

*- Гм. Ото дзіва!*

*- А чы жаніўся б ты?*

*- Хоць зара!*

*- А ўмееш пацеры?*

*- Не лезь у вочы!"* [12, с. 112]

Такая кампазіцыя мае больш спрошчаную будову з кумулятыўным нарастаннем: пытанне і адказ. Але раскрываецца і сэнс - заганы паляшуцкага жыцця - гультайства, дармаедства, не валоданне рэлігійнымі ведамі.

У анекдоце "На Палессі то й мядзведзь ксяндзом" (Ваўкавыскі п. Гарадзенскай губ.) [12] на гэты раз у незвычайнае становішча трапіў мядзведзь, прыняты палешукамі нібыта за ксяндза, які ехаў з панам Богам.

Анекдот, у якім прадстаўлены немец "Немца і птушкі настрашаць" (м. Лыскава Пружанскага п. Гарадзенскай губ.) [12] таксама гумарыстычнага кшталту. На гэты раз тут праблемай паўстае выкрыццё крадзяжу, зладзейства. Герою не ўдаецца ўкрасці вала: то яму варона падае гук "Кра-кра!" быццам кажа "Украў, украў!", то зязюля - "Ку-ку! Ку-ку!", быццам "Купіў - купіў!", то крук з гукам "Птру! Птру!" быццам канём яго даганяюць "Тпру!". Кінуўшы вала, немец уцякае. Пакрыўджаным застаецца немец і ад парабка ( "Як парабак немца абідзеў" (в. Ходараўка Сакольскага п. Гарадзенскай губ.) [12]). Немец папрасіў парабка зарэзаць авечку, якая на яго будзе глядзець. У выніку той парэзаў усіх, бо ўсе ўглядаліся на яго.

Характэрнай рысай - хітрасцю, вызначаецца цыган ("Цыганская хітрасць", в. Дрыга Сакольскага п. Гродзенскай губ.) [12], "Якое ў цыгана мяккае сэрца", в. Ходараўка Сакольскага п. Гарадзенскай губ.) [12], "Цыган і гаспадар", м. Шэрашава Пружанскага п. Гарадзенскай губ.) [12]). *"На пытанні пана "Хто будзе водку піць?", "Хто будзе каўбасу есці?", цыган наперад усіх выкрыкваў: "Я, паночку!". А як пан запытаў: "А хто пойдзе сёння касіць?", - цыган знайшоў адказ: "Дзецюкі, адзывайцеся, а то, далібог, мне аднаму ўжо цяжка - усё я да я!"* [12, с. 118] Удругім творы цыган, прысеўшы ў карчме да нейкага чалавека, вырашыў разам паесці парася з ужо прыдуманай хітрасцю. Дзіця, якое час ад часу наўмысна пачало клікаць бацьку да хаты, быццам разгневала яго, і ён тады кідаецца парасём у сваё дзіцё. Вядома, тое парасё падчаканыя цыганы падымаюць і з'ядаюць. А чалавеку цыган адказвае: *"Бачыш, чалавеча, якое ў мяне сэрца не мяккае: я што схаплю, тым і шпурляю!"* [12, с. 118] Жвава абыходзіць гэты прадстаўнік небеларускай нацыянальнасці і гаспадара, у якога ўкраў сала, і з мэтай выйсці з узнікшай праблемы ён кажа: *"Пане гаспадару, на табе сала! Чорт яго прыслаў*

*многа табе"*. На гэта гаспадар лаянкава адказаў: *"Калі табе даў чорт сала, то і нясі яго сабе"* [12, с. 122].

Падобную праблему народ заўважаў і ў "маскалёў", якія здольныя на хітрасць, крадзёж, ашуканства адразу ў адзін момант. Анекдот "Як маскаль спавядаўся" (в. Старынкі Лідскага п. Гарадзенскай губ.) [12] мае кумулятыўную структуру будовы твора - дыялог.

*" - Што ўкраў?*
*- Вяроўку!*
*- А пры вяроўцы што было?*
*- Рогі!*
*- А пры рагах?*
*- Карова!"* [12, с. 127]

Анекдот "Як расеец разгаварыўся" (в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12] выкрывае ганарыстых, хвалькоў, у ролі якіх дзейнічае "расеяц". Герой твора хваліўся перад мужыком: *"Знаеш, дурная галава, я і там быў, і там быў"*. Выслухаўшы ілжывую пахвальбу, мужык кажа: *"Ну, ну, праўда, што Вы ўсюдачкі былі". "Не, зямляк, я ва Усюдачках не быў. Пажалуйста, скажы, какой ето губерніі?"* [12, с. 131]

Неабыякава ставіўся народ і да такога людскай заганы як гультайства. На гэты раз папікаецца і просты люд. У творы "Трошкі паспала" (в. Папелавічы Смаргонскага р-на Гарадзенскай вобл.) [12, с. 132] выстаўляецца "лянівая баба", якая замест таго, каб жаць, вырашыла: "*Вось гэта заўтра зраблю, а гэта потым. А на сёння няма чаго рабіць. Лягу я лепей спаць."* У незвычайную для яе яна трапіла сітуацыю (праспаўшы да самага вечара), у якой так і не зразумелася: *"Лажылася ж я галавой да сонца, а ўстала - яно ў маіх нагах"* [12, с. 131].

Адной з самых турботных праблем народа была праблема беднасці, праз якую прайшоў просты сялянскі люд. Мара аб лепшым жыцці непакоіла творчых прадстаўнікоў, якія ў гэтых пакутах вылівалі на паперу свае балючыя творы. Але і неабыякава ставіўся да гэтай праблемы сам народ, які ў сваім асяроддзі заўважаў шматлікія сатырычна-гумарыстычныя сітуацыі. Твор "Пра багацце і беднасць" (в. Сянежыцы Навагрядскага п. Гарадзенскай губ.) [12] якраз і гучыць балючай нотай. Кумулятыўна падаецца структура твора пабудаваная марамі беднага чалавека, які па дарозе ўбачыў зайца і з мэтай нажыцца з гэтай жывёліны вырашыў: *"Я зайца злаўлю, прадам да свінню куплю. Свіння прывядзе дванаццаць парасят - дванаццацёра шчэ па дванаццаць. Тады свінню закалю, мяса насалю - буду жаніцца! Шмат мяса! Будзе што есці. Да жонка народзіць два сыны. Яны будуць сабе мець падданых - наказываць будуць, біць людзей. А я скажу - не рушце, не бейце! Бо нам кепска даўней было!". Як гукнуў, так зайчык усхапіўся і ўцёк. І багацце яго пабегло"* [ 12, с. 153].

Разнастайнасць крытычных высмейванняў даволі багатая на Гарадзеншчыне. Народ не толькі панура заўважаў беднае становішча, нахабнасць паноў і падпанкаў, якіх трапна высмейваў у фальклорнай крытыцы, але заўважаў цікавыя і практычна незласлівыя моманты з жыцця простага чалавека. Хутка і жвава змагла адкруціцца баба ("Хітра баба" (в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12]) ад пытання чалавека, які заўважыў на яе рынкавым прылаўку "бруднае, што аж рабое" масла. Вось што яна адказала яму: *"Ляньцеся! Бо ад рабой каровы! От пытае, бы то сам не знае!"* [12, с. 154].

Цікава распавядае анекдот "Мужыцкая загадка каралю" (в. Ходараўка Сакольскага п. Гарадзенскай губ.) [ 12]. Сюжэт яго не складаны, пабудаваны як і звычайна ў форме гутаркі. Кароль, напаткаўшы чалавека, які "вёз фуру дроў" дазнаўся, што мужчына за іх атрымае "дваццаць грошы", а канкрэтней: "*Пяць аддам, пяць пазычу, пяцьма жонку жыўлю, пяць у воду пушчу"* [12, с. 158]. Гэтую загадку не маглі нават адгадаць служкі караля. Растлумачыць сэнс сказанага прыйшлося самому чалавеку: *"Пяць, - кажа, - на радзіны, пяць на дзеці, пяць для сябе і для жонкі, а пяць на падатак"* [12, с. 158]. Разгадка, як бачна, зразумелая толькі звычайнаму селяніну, які і жыве тым, што грошы аддае, пазычае, жывіць імі і пускае невядома куды. Такія жыццёвыя клопаты невядомыя былі ў свой час багацеям, і ведаць адгадку ім не пад сілу.

Такія варыянты анекдотаў бытуюць і ў цяперашні час і маюць сваю моцную крытычную насмешку, даецца слухачу самому паразважаць у такой сітуацыі ("Зяць і цёшча", в. Конна Зельвенскага р-на) [7]). Зяць, які папрасіў у скупой цёшчы грошы з мэтай купіць машыну, пачуў такі горкі адказ: *"- Адгадай спачатку загадку: чатыры назад, пяты ўперад (фіга)"* [7, с. 128]. Не адгадаўшы яе, *"зяць сам назбіраў патрэбную суму і купіў машыну"* [7, с. 129]. Другая частка і сама раскрывае адгадку, трапна высмеяўшы "скупую цёшчу", якая з мэтай пад'ехаць з зяцем на машыне пачула наступнае з'едлівае: *"Адгадаеш загадку, то падвязу. Пяць налева, пяць направа (такім чынам складаюць рукі нябожчыку)"* [7, с. 129].

Трапна выкарыстоўваецца ў анекдотах Гарадзеншчыны дзіцячая непасрэднасць, няўменне хітрыць, ліслівіць. Да гэтай характэрнай рысы належыць анекдот "Пуза лопне, то ўсю станцыю затопіць" (в. Н. Бярэзіна Іўеўскага р-на Гарадзенскай вобл.) [12]. У камічным становішчы апынуўся памешчык, які заўважыў на станцыі хлопчыка ў слязах, у якога і запытаўся:

*"- Хлопчык, чаго ты плачаш?*
*- ...А як жа мне не плакаць, калі ваша пуза лопне, то ўсю станцыю затопіць"* [12, с. 41].

Нямала сустракаецца анекдотаў, у якіх сумоўнік хітра, адной фразай стварае камічны эфект. Напрыклад, як у творы "Новая сукенка" (в. Шылавічы Слонімскага р-на Гарадзенскай вобл.) [7].

*"- Як табе падабаецца мая новая сукенка?*
*- Любата! Твая швачка так шые, што і на калодзе добра ляжыць"* [7, с. 122].

Успышка анекдотатворчасці назіраецца ў Заходняй Беларусі і ў тым ліку на Гарадзеншчыне ў 1939-41 гг. пасля прыходу сюды саветаў. Саветы, балішавікі, камуністы становяцца выключна адмоўнымі персанажамі гэтых анекдотаў, жыхар Заходняй Беларусі падаецца выключна станоўча. Пры гэтым анекдоты з-за малога часу іх бытавання маюць вельмі спрошчаную форму, часта гэта адна фраза:

*" - Хазяін, ты для чаго сала склеіў? - пытаецца*

*савецкі салдат, убачыўшы тоўстае сала, якім яго вырашылі пачаставаць, бо ў Расіі ён такога ніколі не бачыў"* (г. Ліда.).

*"- Саветкі пакуплялі начныя кашулі, паапранал і пайшліна танцы"* (г. Ліда).

Фактычна мы маем тут справу не з закончанымі анекдотамі, а з анекдатычнымі сітуацыямі. Канцэнтравана анекдатычныя сітуацыі гэтага перыяду апісаны ў кнізе Сяргея Пясецкага "Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі" [31].

У савецкі час узнікла шмат анекдотаў пра вядомых палітычных дзеячоў, у тым ліку пра Сталіна і яго паплечнікаў, пра савецкую ўладу і партыю. Сатырычныя анекдоты, у якіх востра крытыкавалася становішча ў краіне і непрывабна паказваўся правадыр народаў, забараняліся, іх выкананне жорстка каралася. У анекдоце "Дабрахалася" (в. Тулава Зельвенскага р-на Гарадзенскай вобл.) [7] жонка сказала мужу: *"- Нічога мы не робім. Сядзім толькі як Сталін"* [7, с. 122]. За гэтыя словы жонку арыштавалі. Мужык, занёсшы ёй паесці ў КПЗ адказаў: *" - Дабрахалася. Я табе казаў: не брашы як савецка радыва. Цяперака і будзеш сядзець"* [7, с. 122].

*"- Таварыш Сталін, а якое ў Вас хобі?*

*- Анекдоты пра сябе збіраю.*

*- І ці шмат назбіралі?*

*- Таварыш Берыя казаў, што ўжо два лагеры"* (г. Ліда).

*" - Чулі? Брэжневу аперацыю зрабілі.*

*- Якую?*

*- Па расшырэнні грудзей.*

*- А для чаго?*

*- Медалёў няма куды вешаць* (г. Ліда).

Нямала існуе ў народзе і ўзнікае штодзень анекдотаў, жартаў, досціпаў пра якія-небудзь смешныя выпадкі з жыцця, бытавыя здарэнні. Тэматыка іх такая ж разнастайная, як само жыццё. Гэтыя жанры адны з самых папулярных і сёння. Дасціпны жарт, смешны анекдот пра выпадак з жыцця з нечаканым камічным вынікам, расказаны цікава, з адпаведнай мімікай, жэстамі і эмацыйнай інтанацыяй, - усё гэта захапляе слухачоў. Падобная карціна паўстае ў анекдоце "Запрог" (в. Радзівонішкі Лідскага р-на Гарадзенскай вобл.) [7].

*"Запрог дзед каня галавою да воза, хвастом да хамута. Другі пытае:*

*- Чаму ты так каня запрагаеш?*

*- А адкуль ты ведаеш, куды я паеду?"* [7, с. 120]

У ранейшы час, асабліва цяпер папулярным стала выкарыстанне эратычных народных анекдотаў, якія ўсё больш і больш сустракаюцца. У анекдоце "Хоць бы на месяц хапіла" (в. Дварэц Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.) [7] камізм у тым, што *"бабулі, купіўшай у магазіне для дзеда галёшы, не знайшлося скрынкі, і ёй у аптэцы тады прапанавалі скрынку ад прэзерватываў з надпісам "1000 штук". У аўтобусе зацікаўлены малады мужчына ў яе пытаецца:*

*- Бабка, і на колькі вам гэтай скрынкі хопіць?*

*- Ой, сынок. Як мой дзед шоркае, так хоць бы на месяц хапіла"* [7, с. 121].

Гэтай тэме датычыцца гумарыстычны народны твор "Незвычайны камарык" (в. Бародзічы Зельвенскага р-на Гарадзенскай вобл.) [7].

Перабудова, пераход на рыначную эканоміку, сацыяльнае незабяспечанне людзей выклікалі ўзнікненне сатырыка-гумарыстычных твораў, у якіх выкрываюцца несправядлівасці існуючых у краіне грамадскіх узаемаадносін, беззаконня. У адным з анекдотаў ("Святар і пекла", в. Першамайская Шчучынскага р-на Гарадзенскай вобл.) [7]) святар трапна дае адзнаку міліцыянту, які прыпыніўшы яго, зрабіў заўвагу за хуткую язду, пры чым яхідна папярэдзіў, што можна патрапіць ў пекла. Святар, доўга не думаючы, яму зазначыў, што пекла няма, таму што *"смалу вывезлі на дарогу, а чэрці з палкамі стаяць"* [ 7, с. 125].

З'явай ў анекдотатворчасці Гарадзеншычыны сталіся публікацыі ў газетах "Голас з Ліды" і "Голас Ліды" серыі "Львоўскія анекдоты". У самім Львове пра гэтыя анекдоты ніхто нічога не ведаў, бо ствараліся яны або пераказваліся па беларуску ў Лідзе і Мастах. Адзін з іх, магчыма запазычаны:

*"Едзе аўтобус па Заходняй Украіне. На дарозе яго спыняюць узброеныя бандэраўцы. Адзін з іх заходзіць у аўтобус і пытае:*

*- Колькі часу?*

*Падскаквае малады негр:*

*- Пятнаццаць гадзін, сямнаццаць хвілін.*

*- Сядай сынку! Я і так бачу, што ты не маскаль."*

Такім чынам, беларускі народ Гарадзеншчыны багаты на захаваную фальклорную спадчыну сатырычна-гумарыстычных твораў малых жанраў, у якіх багата адлюстраваны змест рэалій жыцця розных часоў. Паказаць такія карціны народу пашанцавала ва ўмельстве іх пабудовы. Важнай асаблівасцю яе з'яўляецца неадпаведнасць і нават супярэчлівасць паміж апавядальнай часткай анекдота і заключнай, канцоўкай. Камічны эфект нярэдка і дасягаецца гэтай супярэчлівасцю паміж формай і ідэяй твору. Прынамсі, вельмі пашыранай з'яўляецца дыялагічная форма анекдота. У такіх выпадках дыялог выступае як паясняльнік сутнасці канфлікту і асноўных якасцей персанажа. Але незалежна ад формы анекдота кульмінацыя і развязка канфлікту змяшчаюцца ў канцы твору.

Праблемы п'янства і невуцтва, беднасці і багацця, гультайства і прагнасці, рэлігійных свавольстваў сталі галоўнымі пунктамі ў вызначэнні крытычнага стану народным сатырыка-гумарыстычным творам як сродкам "дасягнення" негатыўнага жыццёвага працэсу. Справядлівая крытыка, вострае высмейванне носьбітаў заганных рыс незалежна ад іх сацыяльнага становішча: ці гэта пан, ці памешчык, поп ці ксёндз, цыган ці паляшук, лекар ці міліцыянт - усё гэта знаходзіць месца сатырыка-гумарыстычнаму абсмяянню ўсяго негатыўнага і несправядлівага ў жыцці.

Анекдот - жанр, які патрабуе актыўнага мы-

слення, выказвае не ўсё, а дае магчымасць паразважаць, зразумець сэнс твору слухачу пры тым, што маральнай часткі практычна не заўважаецца. Зразумець сказанае паміж радкамі можа не кожны, таму што слухачу неабходна валодаць пачуццём гумару.

Разнастайнасці крытычнага зместу анекдотаў адпавядае багацце мастацкіх прыёмаў і сродкаў увасаблення ідэй, мноства адценняў сатыры і гумару. Як і казкавая проза, анекдот вылучае толькі адну адмоўную рысу ці якасць персанажа, на якой і канцэнтруецца ўвага. Пры гэтым, дарэчы, анекдот адразу ж уваходзіць у дзеянне без экспазіцыі або зачыну, без дэталізацыі.

У анекдоце "Даведаўся" (Ніва, 1975, 23 чэрвеня) [12] селянін пытае пасля абеду ў пана:

*" - Пане, а чаму вы як паелі, то перавярнулі міску?*

*- Гэта значыць, што я наеўся.*

*- Вось яно што! А я ўсё думаў, бывала, чаго гэта мая свіння як толькі паесць, дык і перавяртае карыта."* [12, с. 34-35]

Характэрнай рысай у беларускіх народных анекдотах Гарадзеншчыны і іншых рэгіёнах Беларусі наяўнасць старажытнага, сёмага склону - клічнага. У сучаснай беларускай мове формай клічнага склону выражаецца зваротак (*пане! чалавеча!*), ды, пры тым, сустракаецца і ў памяншальна-ласкальнай суфікснай форме (*паночку! чалавечку!*).

Анекдоты такога тыпу, у якіх селянін становіцца пераможцам у пэўнай сітуацыі, заўважаецца, бадай, ва ўсіх падобных варыянтах. У іх селянін, які падначальваецца свайму пану, пры чым у розных выпадках захоўвае сваю станоўчасць, а пан паказаны ў камічным становішчы (анекдот "Му-му!", в. Зачэпічы Дзятлаўскага р-на Гародзенскай вобл.) [12].

*"Зайшоў мужык да пана, а той:*

*- Ідзь да джві і зам**ы**кай!*

*Мужык прычыніў дзверы, усунуў галаву і кажа:*

*- Панок, му-у!"* [12, с. 53]

Пры тым, трэба адзначыць, што анекдоты маюць яшчэ і пэўную лексічную асаблівасць - з'яву гукавога супадзення розных паводле сэнсу моўных адзінак - аманімію. У гэтым варыянце народнага твора вызначаецца аманімічная форма - амаформа: *"зам**ы**кай"* - як у значэнні пана 'зачыніць на замок дзверы' і *"зам**ы**кай"* - як у значэнні мужыка 'падаць гук як карова'.

Талент народа-мастака, безумоўна, ярка раскрываецца ў трапнай абмалёўцы ўсяго некалькімі штрыхамі камічных вобразаў і паказам сітуацый, у якія трапляюць персанажы. Самыя тонкія нюансы гумару, якія адлюстроўваюцца ў народных анекдотах, багатая мастацкая вобразная сістэма - сведчанне бязмежных мастацкіх здольнасцей народа Заходняй Беларусі. Багацце анекдотаў на Гарадзеншчыне разнастайнае, доказам гучаць творы на рознасюжэтныя сацыяльныя тэмы: антыпрыгонніцкія, антыпанскія, антыклерыкальныя; на матывы накіраваныя супраць заган і хібаў людскіх; пра палешукоў, цыганоў і прадстаўнікоў іншых народаў, дзяцей. Бязлітасную іронію і сарказм заходні край Беларусі ўжываў пры выкрыванні дэспатызму і жорсткасці, прагнасці і скупасці, крывадушша і карыслівасці паноў, папоў і іншых.

Найчасцей вобраз герояў адлюстраваны ў самым кантэксце, ці лепш сказаць, у кампазіцыі - дыялогу, у размове паміж двума персанажамі. Дыялог якраз і адыгрывае важную функцыю ў выяўленні той рысы, якая і запраграмавана народам для паказу знешняга так і ўнутранага аблічча персанажа.

Камічнасць, безумоўна, адыгрывае значную ролю ў адлюстраванні аблічча персанажаў. Больш змястоўна захоўваюцца рысы герояў, калі дасціпны жарт, смешны выпадак з нечаканым вынікам, незвычайная падзея расказана цікава, з адпаведнай мімікай, жэстамі і эмацыянальнай інтанацыяй, - усе гэтыя асаблівасці захапляюць чытача. Пры чым, гэтыя крытэрыі больш успрымаюцца, калі апавядальнікам з'яўляецца чалавек з пэўнай мясцовасці, у якой і "ходзіць" гэты народны твор, захаваўшы моўныя паказчыкі, каларыт мясцовай гаворкі, дыялектаў. Гэта тлумачыцца тым, што шмат твораў занатавана ў змешанай мове (трасянцы), у якой прысутнічаюць русізмы, паланізмы, словы, якія не заўсёды зразумелыя слухачу з іншага рэгіёну.

Вядома, што самога паняцця "анекдот" першапачаткова не было і асобна твор не існаваў. Крыніцай гэтага твору з'яўлялася шматграннае жыццё, прыказкі, прымаўкі, казкі, народныя апавяданні, літаратурныя творы. Менавіта некаторыя казачныя матывы, асобныя эпізоды перапрацоўваліся ў анекдоты, калі яны былі звязаны з рэчаіснасцю і цікавілі грамадскасць. Не выключэннем з'яўляюцца легенды і паданні. Паданне, якое бытуе пра паходжанне вёскі Моцевічы Лідскага раёна [18],[28] можа ўпэўніць у вышэй сказаным.

Твор будуецца ў іранічным кантэксце на вобразе станоўчага героя Мацея. Ужо ў пачатку твор раскрываецца ў гумарыстычных элементах у спалучэнні са слоўным майстэрствам. *"Ад Мацея, які некалі жыў тут, пайшла назва вёскі. Такі ўжо штукар быў, што людзі яго з замілаваннем згадваюць. А калі хто якую штуку выкіне, то і зараз скажуць: - Няйначай Мацеевы ўнукі пастараліся, іншыя да гэтага не дадумаліся б"* [18, с. 264].

Штукарствы Мацея паказаны на працягу ўсяго твора.

У нечаканым становішчы апынуўся сусед, якога за працу гаспадары вырашылі пачаставаць смачным абедам. Пакуль з ім былі гаспадары, то паесці яшчэ змог, а калі выйшлі, то і "лыжку да рота так і не данёс". А "дзякуючы" гэта гаспадароваму сыну Мацейку, які абазваўся слоўным падколам: *" - Ты дзядзька, есці еш, але не забывайся пра тое, што і мне пакінуць трэба. Ды не самага горшага і не таго, што сам ужо паспрабаваў…"* [18, с. 264]. Разгублены мужчына так і застаўся не паеўшы і не прызнаўся гаспадарам, у чым прычына адмаўлення ад ежы. У наступным штукарстве Мацей паказаны як спрытны жартаўнік-селянін, высмейвальшчык багатых і бацюшкі.

Аднойчы штукар украў у бацюшкі "двух самых лепшых коней" і прадаў іх цыганам. У выніку *"у вёсцы перапалох: гамана, крыкі, матушка плача, валасы гатова на сабе рваць, а бацюшка напіўся з раніцы…"* [18, с. 265]. А Мацей адляжаўшыся ад добрага пад-

пітку вырашыў пасмяяцца над бацюшкам і замаліць свой грэх - кражу ў яго самога (бацюшкі) коней. " У бацюшкі ледзве вочы не павылазілі" ад пачутага, але каб грэх сышоў з душы, святар прапанаваў Мацею прызнацца аб гэтым пры ўсім народзе ў самой царкве пасля малебна. Бацюшка дачакаўшыся гэтага дня "задаволена нешта спяваў, не вельмі падобнае на божыя малітвы", папярэдзіўшы сялян аб выступленні Мацея пасля малебна, маўляў, што ўсё, "што скажа ваш аднавяскоавец, чыстая праўда!" Гэтыя словы яшчэ больш прыдалі смаку для выхадкі Мацею, ён і прамовіў: *"Усе дзеці ў нашай вёсцы, якія рыжыя - гэта бацюшкава работа"* [18, с. 266].

Калі вобраз, які створаны ў мастацкай творчасці з'яўляецца тыпізаваным, то тут характэрная сатырычна-гумарыстычная форма фальклорнай тыпізацыі з яе іроніяй. Вобраз Мацея як станоўчага героя паказаны ў абліччы простага селяніна, смелага, упэўненага ў сваіх учынках. Мацей, лічачы бацюшку, як і панабагацея несумленным чалавекам, паказаў яго з негатыўна-адмоўнага боку, у камічным выглядзе ("матушка валасы рвала", "бацюшка напіўся з раніцы", "бацюшка спяваў не божыя малітвы"). Дасціпны сялянскі гумар знешне набліжаецца да казачнага эпасу, што характэрна ў абмалёўцы сатырычнай казкі. Тут станоўчы герой вабіць сваёй смеласцю, рашучасцю, розумам, непрымірымасцю да несправядлівасці. Адмоўны персанаж створаны шляхам раскрыцця неадпаведнасці паміж вонкавай значнасцю і ўнутранай нікчэмнасцю.

Адной характэрнай мастацкай асаблівасцю, якая раскрывае вобразы герояў, з'яўляецца гіпербалізацыя, як сродак перабольшвання пэўных уласцівасцей чалавека. У адносінах да адмоўнага персанажа, чытач (слухач) заўважае, што бацюшка мае схільнасць да неверагодных з'яў: у яго "ледзве вочы не павылазілі", "напіўся з раніцы", а "матушка валасы рвала" на сабе. Гэтая мастацкая адметнасць надзяляе больш завостранасці ў творы, якая далучае да сябе ўвагай чытача для адлюстравання камічнага і сатырычнага эфекта. Падыграць у такіх выпадках першапачаткова дапамагаюць моўныя выразы, як у гэтым варыянце ў форме метафары - "чыстая праўда" і эпітэтная афарбоўка - "лепшыя коні", "божыя малітвы".

Народ - стваральнік фальклорных твораў - ніколі не сімпатызаваў панам, багацеям. З гэтага вынікае, што ў народным бытаванні пераважалі творы, у якіх падаваліся ў камічным становішчы пазначаныя прадстаўнікі, а ў сутыкненнях паміж бедняком і багачом заўсёды перамагаў бядняк і не толькі фізічна, але і маральна-псіхалагічна, інтэлектуальна насуперак жывой рэальнасці, у якой мужык заўсёды быў і слабейшым і дурнейшым.

Анекдоты такога тыпу прадстаўлены і ў іншых рэгіёнах і абласцях. Пры чым, адна фраза ў гэтых варыянтах мае сваю вагу. Напрыклад, "Лепшых паслалі да лепшых" (ЛМЯК) [12], "А мне - толькі вуха!" ("Ніва" (Беласток) [12]). У першым - пану не спадабаўся пасланец ад другога пана, таму ён спытаў:

*" - Гм! Ці ж у твайго пана няма лепшага чалавека?*

*- Чаму, пане, няма! - кажа мужык. - Але ж ён лепшых людзей то і к лепшым паслаў"* [12, с. 37].

Другі варыянт таксама грунтуецца на панскім абразлівым прамаўленні, але зноў з трапным адказам мужыка. Пан, убачыўшы селяніна з пачырванелым, распухлым вухам, спытаў:

*"- Ты што, у асла такое вуха пазычыў?*

*- Так, пане, - адказаў селянін. - Яго ж розум узялі вы, а мне гэта толькі засталося"* [12, с. 34].

Такія трапныя аповеды тлумачацца характэрнай рысай мастацкай асаблівасці. З боку селяніна, ужо чутно, што сам ён прадстаўлены як чалавек малых магчымасцяў (але з вострым языком), - у літотным стане, сам пан жа, з вялікімі магчымасцямі, - у стане гіпербалы. Ды пры гэтым, зноў такі сваёй эстэтычнасцю вызначаецца адзін з тропаў - эпітэт, які прадстаўлены як з боку адмоўнага, так і станоўчага персанажа ("лепшы чалавек", "лепшы пан") і нават у самой назве твора "Лепшых (людзей) паслалі да лепшых (паноў)".

Такой жа папулярнасцю, як анекдоты, аб'ектам сатыры ў якіх быў пан, карысталіся і анекдоты пра духавенства - папа, ксяндза, дзяка. Характэрна, што ў адрозненні ад рэчаіснасці, у якой да святароў у большасці выпадкаў ставіліся з павагай, у народных творах пераважалі сатырычныя тыпы папоў, ксяндзоў, надзеленыя заганнымі рысамі. Поп, ксёндз у іх паказваліся бязмежна прагнымі, п'яніцамі, распуснікамі, зладзеямі і ашуканцамі. Негатыўнасць гэтых прадстаўнікоў падаецца, прынамсі, як і ў творах пра паноў: з гіпербалізацыяй, літотай, гратэскам, іроніяй, сарказмам, алегорыяй.

Анекдотаў пра святароў багата захавана не толькі на Гарадзеншчыне, але і ў іншых беларускіх абласных рэгіёнах. У гумарыстычнай карціне "Хітры парабак" (в. Старынкі Лідскага п. Гарадзенскай губ.) [12] выкрываецца чалавечая рыса - хітрасць, але ўжо не з боку святара ці з боку яго жонкі - пападдзі, а з боку хітрага парабка - станоўчага героя. Камічна адлюстраваны паказ парабка за абедзенным сталом, за якім выкрыў скупасць пападдзі ( "з мужыковага боку кладзе больш скварак"[12, с. 69]). Абдурваючы, ён на паказе грэцкай кашы, "пракруціў" гістарычны сюжэт: *" - Як шведы, - кажа, - прыйшлі да Польшчы, то так, зачалі біцца і мяшацца з палякамі, то так, - кажа, - як гэтыя скваркі з грэцкай кашай! - да й гэта ложкай змяшаў усё, скалаціў і давай тады есці"* [12, с. 69]. Дасціпна і хітра. Сыграць такую роль, безумоўна дапамагла мастацкая асаблівасць - алегорыя, якая, зразумела, замест вайсковых вобразаў - шведаў і палякаў адлюстравала скваркі ў грэцкай кашы. А эпітэтная афарбоўка надзяляе цікавасць ў раскрыцці аблічча герояў ("хітры парабак", "добры хітрак", "скупая пападдзя").

Сатыра на духавенства ўзнікла на рэальнай глебе. Святары, як і ўсякія іншыя людзі, былі не без граху, але яны павучалі паству, прытрымліваецца рэлігійнай маралі, паважаць дзесяць Божых запаведзяў. Аднак нярэдка самі іх не выконвалі, што выклікала пэўную рэакцыю народа і стымулявала стварэнне анекдотаў пра іх паводзіны, што і заўважаецца ў захаваным фальклоры Гарадзеншчыны. Нельга адмаў-

ляць і значэння законаў мастацтва, у адпаведнасці з якімі вобразы служыцеляў царквы маляваліся завострана, часам гратэскава, каб больш выразна паказаць іх сацыяльныя якасці і рысы. Менавіта гэтым тлумачыцца імкненне знарок падабраць такія сітуацыі, пры якіх святар выстаўляецца ва ўсім сваім "убранні" на публічнае асмяянне.

У народных анекдотах і жартах высмейваліся таксама заганы і простых людзей. Сатыра станавілася сродкам самакрытыкі, сродкам барацьбы за лепшае, ідэальнае ў жыцці. Наяўнасць сатырыка-гумарыстычных твораў, у якіх высмейваюцца розныя недахопы, характэрныя для простых людзей, сведчыць аб перавазе ў свядомасці працоўных станоўчых ідэалаў, іх высокай маральнай патрабавальнасці да сябе. У выніку ўсведамлення сваіх недахопаў, нярэдка і спантанна, з'явіліся шматлікія фальклорныя творы, накіраваныя на пераадоленне іх. Адмаўляючы шляхам высмейвання ўсё недарэчнае, дрэннае ў жыцці, народ змагаўся за ўсё станоўчае. Адлюстроўваючы адмоўнае, ён "адштурхоўваўся" ад ідэальнага, замацоўваў яго. Негатыўнае адлюстраванне рэчаіснасці ў народнай творчасці ніколі не зніжала сілу ўздзеяння тых ідэй, якія імпанавалі шырокім масам працоўных.

Галоўнымі недахопамі ў народзе лічыліся гультайства і нядбайства, побач з якімі прысутнічалі хітрасць і спрыт. Сатырычным вокам такія негатыўныя паводзіны заўважаліся не толькі ў саміх беларусаў, але і ў іншых нацыянальных прадстаўнікоў: цыганоў, мазураў, немцаў.

Анекдот "Сыны" (в. Бародзічы Зельвенскага р-на Гарадзенскай вобл.) [7] з гратэскавым адлюстраваннем паказаў вобраз цыгана, які зноў-такі хітра абкруціў пана-багача з дапамогай "дасведчаных" у надвор'і сыноў-цыганят. У другім анекдоце "Якое ў цыгана мяккае сэрца" (в. Ходараўка Сакольскага п. Гарадзенскай губ.) [12] цыган у вобразе чалавека з "мяккім сэрцам" спрытна махлюе чалавеку, што і дапамагае пракарміць сваю цыганскую сям'ю.

З іроніяй і сарказмам паказаны палешукі і мазуры, якія ў адным становішчы высмейваюцца як прадстаўнікі - носьбіты "дурных народаў" (Юдзін Ю.І.). Такія героі заўважаны не толькі на Гарадзеншчыне, але і ў значна далейшых населеных пунктах Беларусі. Мазуры косяць тупымі косамі, ад якіх нібыта пасля "сілу д'яблы ўзялі" ("Мазурская касьба", в. Кусінцы Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12]; палешукі і мазуры крытыкуюць лацінскую мову перад такімі "дасведчанымі" героямі ("Як мазур сына на ксяндза выкіраваў", в. Жухава Сакольскага п. Гарадзенскай губ. [12], "Паляшуцкая лаціна", м. Мсцібава Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ. [12]). Пры гэтым, хоць галоўным чынам задачай для адлюстравання вобразаў гэтых носьбітаў "набітых дурняў" спрыяў мастацкі сродак - іронія, але ж у высмейванні тут прадугледжваецца здольнасць - іх розум, духоўны імпульс, які дае штуршок, каб пасмяяцца з саміх сябе. І ў аснове смеху тут праяўлена незласлівасць, дабразычлівасць, спачуванне да герояў, якія хоць нават і паказаны ў камічным перабольшванні асобных рыс. Заўважаны такія сатырычныя гісторыі ў іншых народаў, беларус не забывае і пра сваю нацыянальнасць: ён смяецца аднолькава і з самога сябе. Не без граха і недахопу з'яўляецца менавіта і сам беларус. П'янства, гультайства, невуцтва, зладзейства - галоўныя асуджальныя пункты ў сатырычнай абмалёўцы гэтай нацыянальнасці.

Лянівая баба, якая праспала ў полі, не зразумеўшы чаму сонца апынулася ў яе нагах ("легла яна галавою да сонца і праспала да самага вечара") надзелена рэзка выражанай мастацкай процілегласцю - кантрастам, праз які больш яскрава падаецца малюнак такога гультайскага жыцця ў адрозненні ад працоўнага, разумнага люду ("Трошкі паспала", в. Папелевічы Смаргонскага р-на Гарадзенскай вобл. [12]). У такім паказе падаюцца і іншыя падобныя творы, прынамсі, з іншых беларускіх ваколіц і гарадоў ("Гультаявата жонка" (в. Верашчакі Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12[, "Як маладзік гультайку наўстыдзіў" (в. Новікі Ваўкавыскага п. Гарадзенскай губ.) [12], "Гультайства" (в. Ходараўка Сакольскага п. Гарадзенскай губ.) [12]).

У апошнія часы аб'ектам рэзкай ікрытыкі беларусаў стала славутая памяркоўнасці і талерантнасць:

*"Паехалі тры беларусы ў Маскву прадаваць смятану. Прадалі і вырашылі паглядзець Крэмль. Ім кажуць:*

*- Не хадзіце, там маскоўскія хуліганы ўсіх прыезджых б'юць.*

*- А мы скажам, што мы масквічы.*

*Пайшлі, а тут тыя хуліганы. Пытаюцца ў аднаго:*

*- Ты хто?*

*- Масквач.*

*Плясь яму ў морду.*

*Пытаюцца другога:*

*- А ты хто?*

*- І я масквач.*

*Плясь і яму ў морду.*

*На трэцяга:*

*- Ну а ты хто?*

*- Ай, чаго ж ужо там, ляпі"* (г. Ліда).

Камічныя сітуацыі, гумарыстычныя здарэнні заўважаюцца не толькі ў дарослым жыцці, але і ў дзіцячым. І што цікава, дзіцячыя заўвагі ці папрокі праяўляюцца больш востра і дасціпна. У анекдоце "Чым частавалі пана" (в. Грозава Капыльскага р-на Менскай вобл.) [2] у камічнае становішча з-за пачаснунку хлопчыка трапіў пан, якому Міхаська прынёс у гліняным чарапку квасу, так як тому захацелася піць. Пахваліўшы юнака за смачнае пітво, пан спытаўся:

*" - А ў вас яшчэ многа такога квасу?*

*- Вой многа. Учора ў квас уваліўся пацук, дык мама лазіла даставаць, то было па пуп.*

*Тут пан як разлуецца, як топне нагою ды як шпурне чарапок, той і разбіўся. А Міхаська як заплача: "А, дзядзечка, што ж вы зрабілі..."* У гэтым хлопчыкавым енку вызначылася, што ў чарапку кармілі ката, а пасля таго, як яго разбіў пан, ката карміць не было ў чым. У анекдоце, які заканчваецца не шкада-

ваннем пана, а ката, сімпатыі адчуваюцца да хлопчыка-прасцяка. І калі казаць мастацкай трактоўкай, то вобраз хлопчыка Міхаські вызначаецца ў стане гіпербалізацыі: яго трапны адказ пану надае гэтаму належнае значэнне - велічнасць, нябоязнасць. А пан, тым часам, падаецца ў літотным стане: прасцяцкі хлапчук змог яго прынізіць. З іроніяй гучыць анекдот "Бедная цётка" (в. Горна Зэльвенскага р-на Гарадзенскай вобл.) [7], з дапамогай гэтага мас-тацкага сродка высвятліў Слаўка, што цётка Вера прыходзіць да іх дахаты не проста пасядзець, а па прычыне таго, што ў яе, напэўна сваіх крэслаў няма.

Любы твор - народны ён ці літаратурны, мае ў сваіх адносінах мастацкія рысы, спецыфіку адлюстравання рэчаіснасці. Дзякуючы тыпізацыі, а жанру анекдотаў і жартаў датычыцца сатырычна-гумарыстычная форма, герой мае ўласцівасць паказаць сябе са свайго належнага боку: станоўча ці адмоўна, раскрыць свой вобраз, даць характарыстыку свайму процілегламу герою. Іронія, сарказм, гратэск, гіпербалізацыя, кантраст - гэта тыя фарбы, якія перадаюць жыццёвыя рысы народа-мастака праз карціны, якія належным чынам разумее і бачыць у адзін момант слухач-чытач. І трэба адзначыць, што гэтыя мастацкія паказчыкі характэрны не толькі анекдотам і жартам Гарадзеншчыны, але і іншым рэгіёнам Беларусі, у якіх народ заўважаў шматлікія плюсы і мінусы ў грамадскай рэчаіснасці.

Анекдот - бадай, адзіны з жанраў народнай творчасці, у якім мастацкія стылістычныя сродкі пададзены ў меншай колькасці. Вядома, што стылістычная адзінка з'яўляецца ў творы "фарбавальным" элементам у адлюстраванні вобраза, навакольнага асяроддзя. Такую, але крыху іншую задачу-функцыю на сябе ўзялі іншыя "фарбавальнікі" як іронія, сарказм, гіпербала, гратэск, кантраст, без якіх ні адзін твор сатырычна-гумарыстычнага жанру не можа праявіцца актыўным.

Прынамсі, сустракаюцца стылістычныя сродкі, тыпу параўнання, як напрыклад, "што ні пан, то сабака", "што ні мужык, то свіння", якое надае ў гэтым выпадку больш алегарычнасці ў адлюстраванні вобраза персанажа. Адна з асаблівасцей анекдота, якая звычайна лічыцца адсутнай (А. Пельтцар) - гэта наяўнасць "фантастычнага элемента". Гэтую заўвагу даследчыкаў можна палічыць марнай, таму што ў анекдотах Гарадзеншчыны фантазаванасць герояў у нейкай меры прысутнічае. Да прыкладу, анекдот "Пуза лопне, то ўсю станцыю затопіць", у якім сама назва ўжо сама аб гэтым гаворыць. Можна аднесці таксама і творы антыклерыкальнага характару, у якіх раскрываецца фантазаванасць народа аб замагільным жыцці, аб раі і пекле і іншых рэлігійных дагматах.

Структурнай сувяззю з іншымі народнымі творамі "смешнай прозы" з'яўляецца і кампазіцыйная блізкасць. Агульным правілам да яе належыць зачын, завязка дзеяння, яго развіццё, фінал, канцоўка. Анекдот, як форма малой змястоўнасці, безумоўна, усіх гэтых кампазіцыйных пунктаў не прытрымліваецца. Важнейшымі спецыфічнымі рысамі анекдота з'яўляюцца яго аднаэпізоднасць і нечаканасць развязкі, якая заўсёды бывае камічнай і дасціпнай. А ў большасці гэта залежыць ад падачы твору апавядальнікам, ад характара твора, дынамічнасці развіцця яго сюжэту. Сустракаецца і кумулятыўная (ланцугападобная) падача развіцця сюжэту ("Мужык і пан", "Паляшуцкая гутарка", "Як маскаль спавядаўся", "Пра багацце і беднасць"). Зачын, як форма кампазіцыі мае падобную рысу, як і ў іншых народных творах (казках, легендах) - раскрыццё далейшага развіцця сюжэта, героя ("Даў адзін раз мужык сына на папа вучыць.."), апісанне вобраза ("Было сабе ў аколіцы дзвюх дзяўчат. От такіх, як той казаў, што "ні гловы ні мовы"). Амаль ўсёй народнай творчасці анекдота важнейшай кампазіцыйнай структурай з'яўляецца дыялог, які і выконвае пэўную роль у развіцці сюжэта, раскрывае ідэйную задуму твора. І ў большасці дыялог падаецца ад пачатку і да канца, у чым слухачу патрабуецца самому знаходзіць структурныя часткі твора.

Стварэнню вобразу героя, ці то ён падаецца ў станоўчым апісанні, ці то ў адмоўным, належыць адзін з важных спосабаў мастацкай творчасці - тыпізацыя. Прыёмы твору (іронія, гратэск, алегорыя), якія прысутнічаюць у творах сатырычна-гумарыстычнага жанру - у анекдотах, утрымліваюць у сябе адпаведную сатырычна-гумарыстычную форму. Дзякуючы гэтай уласцівасці, звычайны герой падаецца ў своеасаблівай абмалёўцы, якая быццам надае яму незвычайнасці. Ён то станоўчы - спагадлівы, добры, разумны, працавіты; то адмоўны - скупы, злы, невук, гультай.

Значнай працай ў абмалёўцы аблічча героя займаюцца мастацкія тропы - мікравобразы . У анекдотах Гарадзеншчыны яны заўважаны неаднаразова, без якіх, вядома, слабей успрымаецца асяроддзе ў тым ці іншым сюжэце. Напрыклад, у назвах твораў яскрава падаюцца эпітэтамі вобразы герояў - "Набожны ксёндз", "Хітры парабак", "Гультаявата жонка". У якасці параўнанняў сустракаюцца варыянты: "што ні пан, то сабака", "што ні мужык, то свіння", "клерыкі" - "кнурыкі", "семінарыя" - "свінарыя". Гіпербалізавана падаюцца вобразы паноў, якія быццам здольныя толькі на тое, што ўмеюць кпіць з сялян ("А мне - толькі вуха!", "Пуза лопне, то ўсю станцыю затопіць"), вобразы святароў, якія з'яўляюцца аматарамі моцных напояў ("Незакончанае казанне", паданне пра паходжанне вёскі Моцевічы Лідскага раёна) і інш.

Па-рознаму выводзіцца думка, што анекдот - "гэта кароткае апавяданне пра выдуманую і сапраўдную падзею або апавяданне большай часткай гумарыстычнае, звычайна без прымесі маралі" (А. Пельтцар). З гэтай трактоўкай можна пагадзіцца дваяка: і станоўча і адмоўна. Мараль прысутнічае: яна заўважана ў анекдотах Гарадзеншчыны. Але яна вынікае больш са зместу твору, сэнс, ідэю якога не заўсёды можна зразумець адразу, таму што часам яна заключаецца ў падтэксце. А часам - і ў канцы твора трапнай і выкрывальнай цытатай, як напрыклад: "От добраму то і ўсюды добра", "От прыраўняўся да пана!", "Вот як людзко спільшчыў!", "Добры падзел, чаму не!".

Беларускія народныя анекдоты і жарты Гарадзеншчыны маюць шмат агульнага з гумарыстычна-

сатырычнымі жанрамі славянскіх народаў у сюжэтах, у сістэме вобразаў, мастацкіх сродкаў, але, між іншым, і ўносяць нямала свайго, адметнага ў скарбніцу народнай паэтыкі славян. Сюжэтны арсенал беларускіх жартаў і анекдотаў мае свае асаблівасці ў параўнанні з рускімі і ўкраінскімі: значная колькасць беларускіх сюжэтных тыпаў не мае адназначных рускіх і ўкраінскіх адпаведнікаў. У першую чаргу гэта тыя анекдоты, у якіх беларусы смяюцца над сабой:

*"На табурэтку, з якой тырчаў вялікі цвік, пасадзілі папарадку рускага, немца і беларуса.*

*Рускі сеў на цвік, ускочыў, схапіў табурэтку, ляснуў аб падлогу так, што разляцелася.*

*Немец сеў на цвік, ускочыў, выцягнуў цвік, паклаў у кішэню, зноў сеў.*

*Беларус сеў на цвік і сядзіць.*

*- Табе, што не коле?*

*- Яно то трохі коле, але можа так і трэба"* (г. Ліда).

Па сучасных падліках вызначана, што анекдоты ў беларускай народнай прозе займаюць плошчу каля 40%, такі ж сегмент займае і рускі народны анекдот - 40%, толькі першынство ў гэтым жанры бяруць браты-украінцы - 60%. Але ўсё ж, беларускі народны жарт і анекдоты вызначаюцца захаваннем да нашага часу рысаў быту і светапогляду мінулых эпох, што страчаны ў фальклоры іншых славянскіх народаў.

Жывучасць сатырычна-гумарыстычных твораў на Гарадзеншчыне, папулярнасць і пашыранасць іх на гэтай тэрыторыі ў наш час - сведчанне не толькі іх надзённасці, але і адпаведнасці эстэтычным запатрабаванням народа. Ён заўсёды любіць і цэніць гэтыя фальклорныя жанры, захапляецца смехам, выкліканым анекдотамі, жартамі, досціпамі, калі лічыць што сам смех, пры тым, з'яўляецца прадаўжальнікам яго жыцця.

**СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ:**


1. Амбайонис, О. Народный анекдот в латышском фольклоре/ О. Амбайонис/ - У кн.: Латышские народные анекдоты. / Сост. К. Арайс. Рига, 1963, - с.5 - 20.
2. Армянский фольклор / Сост. и пер. с арм. Г. О. Карапетян. - М., 1979.
3. Бараг Л. Р. Сюжэты і матывы беларускіх народных казак. Сістэмны паказальнік / Л. Р. Бараг. - Мн.: Навука і тэхніка, 1978.
4. Беларуская народна-паэтычная творчасць.[ Вучэб. дапаможнік для філал. фак.ВНУ ] / В.К. Бандарчык, К.Н. Кабашнікаў, М.Ф. Ларчанка і інш. - Мн.: Выш. школа, 1979. - 448 с.
5. Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі. - Мн., 1939.
6. Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны / Склад. І.В. Гутараў, М.Я. Грынблат, К.П. Кабашнікаў і інш. - Мн., 1961. - 490 с.
7. Беларускі фальклор Гродзеншчыны: Народны эпас. Замовы. Варажба : Хрэстаматыя / склад., прадмова і апрацоўка тэкстаў Р.К. Казлоўскага. - Гродна :ГрДУ, 2007. - 208 с.
8. Беларускі фальклор: Хрэстаматыя : Вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / Склад. К.П. Кабашнікаў і інш. - 4-е выд.; перапрац. - Мн.: Выш. шк., 1996. - 856 с.
9. Беларускія жарты / Склад. В. Ластоўскі. - Мн., 1951.
10. Беларускія народныя жарты / Склад. З. Бяспалы. - Мн., 1970.
11. Вожык: Альманах сатыры і гумару // Карта "Гумарыстычныя даляглядi. Гродзеншчына" / Вожык. - Мінск: РВУ "Літаратура і мастацтва", 2011. - 64 с.
12. Жарты, анекдоты, гумарэскі: БНТ / Склад. А.С. Фядосік. - Мн.: Навука і тэхніка, 1984. - 438 с.
13. Кабашнікаў, К.П. Народная проза / К.П. Кабашнікаў, А.С. Фядосік, А.В. Цітовец. - Мінск: Беларуская навука, 2002. - 610 с.
14. Кравцов, Н. Проявление художественного единства в фольклорном произведении / Н. Кравцов/ - У кн:. Фольклор как вид искусства. М., 1966. - с. 164.
15. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны: дапам. / М.А. Даніловіч. - Гродна: ГрДУ, 2008. - 227 с.
16. Ліпскі, У. Аўцюкоўцы: Аповесць пра Калінак ды Каласкоў, якія гаруюць і жартуюць. / У. Ліпскі. - Мн., 1995. - 70 с.
17. Народ спявае пра сябе: Жывы фальклор з газетнай паласы / Уклад. А.Ціхановіч. - Мн., 1994. - 36 с.
18. Ненадавец, А.М. Гродзеншчына ў легендах і паданнях. / А.М.Ненадавец / Мн. "Беларусь", - 1999. - 310 с.
19. Паэзія барацьбы / Рэд. і аўтары прадмовы К.П. Кабашнікаў, А.С. Фядосік; Аўтар прадмовы музычнай часткі П.П. Альхімовіч. - Мн., 1985. - 397 с.
20. Пропп, В. Жанровый состав русского фольклора / В. Пропп // Русская литература. - М., 1964., №4.
21. Савченко, С.В. Русская народная сказка (История собрания и изучения). / С. В. Савченко // Киев, - 1914.
22. Сержпутовский, А.К. Сказки и рассказы белорусов - полешуков / А. К. Сержпутовский // СПб., -1911.
23. Сержпутоўскі, А.К. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета /А. К. Сержпутоўскі // Л., - 1926.
24. Сравнительный указатель сюжетов. Восточнославянская сказка / Составители Л. Г. Бараг, И. П. Березовский, К. П. Кабашников, Н. В. Новиков. - Л.: Наука, 1979.
25. Сидельников, В.М. Идейно-художественная специфика русского народного анекдота // Труды Университета Дружбы народов им. Патриса Лулумбы. Т. 4. Вып. 1. Вопросы литературоведения. - М., 1964. - С. 27-50.
26. Сухаревич, В. А юмор у вас есть?/ В. Сухаревич // Лит. газ., - 1993, 19 янв.
27. Фядосік, А.С. Праблема беларускай народнай сатыры. / А. С. Фядосік // Мінск, 1978.
28. Хітрун, А. Беларускі народны эпас Лідчыны: матывы і вобразы. / Алесь Хітрун // Лідскі летапісец. №3 (51). - Ліда, 2010,. - С. 49-64.
29. Юдин, Ю. И. Русская народная бытовая сказка и легенда / Ю. И. Юдин // Русский фольклор. XVI. Историческая жизнь народной поэзии. - Л., - 1976.
30. Янкоўскі, М.А. Паэтыка беларускай народнай прозы / М. А. Янкоўскі// Мн.: Выш. школа, - 1983. - 271с.
31. Piasecki Sergiusz. Zapiski oficera Armii Czerwonej. Sergiusz Piasecki. - Warszawa, 2002.

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Выправы да Галіны**

Я ездзіў у Мальгі некалькі разоў, часта на ровары, часам на возе. Былі ў Стаха са Шрэдарам. Гулялі ў шалёны прэферанс.

Гэта ўжо было потым, пасля той настаўніцы. Стах перабраўся ў яе пакой. Гулялі азартна, літаральна цэлыя ночы. Шчасце бывала зменлівым. Найчасцей прайграваў найбольш прайграўшы, гэта значыць Стах. Тады ўпадаў у азарт, гуляў "у цёмную", прайграў удвайне, учацвярне. Найчасцей выйграў наш школьны таварыш і сусед Стах Барташэвіч. Крываносы, хітры, сын мужыка, які дарабіўся да маёнтка, як Лабко, і купіў двор недалёка ад Стаха.

З раніцы не хапала папярос. Стах рабіў рэвізію ўсіх попельніц, куткоў пакоя, узлазіў на шафы, на верх стаяка, грэбаўся у страшным пыле. Вяртаўся, несучы ў чорных лапах жмельку агідных смярдзючых недакуркаў. А калі і тыя кончыліся, Стах скакаў праз акно, на хвіліну даваў нырца ў зарослы агародзік, тут жа пры акне. Там хвілю мышкаваў (шнырыў), потым вяртаўся з некалькімі зялёнымі лістамі велічыні і кшталту лопуху. Гэта быў тытунь. Сапраўдны тытунь, які ўкрадкам ад паліцыі садзілі паміж кукурузай і памідорамі - для ўласнага ўжытку. Адна з форм мужыцкай самаабароны ў перыяд вялікай бяды, вялікага крызісу.

Лісце тыя прыхіляў да ўжо да смешнага непатрэбнай лямпы. Сохлі ў імгненне вока. Крышыў іх, скручваў у цыгарэткі. Былі пякельныя: кашлялася да слёз, і ні на хвіліну не пераставала хацецца сапраўднага тытуню.

Тым летам хадзіў са Стахам шмат разоў то туды, то сюды. Бываў ён і ў нас. Вазіў яго ў Дакудава. Неяк туды ён не пасаваў. Сара і Рубін прымалі яго цераз сілу. Не прымаўся ён і ў Баневе.

Пасаваў толькі ў Мальгах, трохі ў Лідзе. Быў вясёлы, забаўны, страшна нярвовы, выбухаў за абы-што гневам і быў вельмі ўражлівы на нетаварыскасць. Заўсёды стараўся, каб я пераканаўся, што Шрэдар нетаварыскі, калі той у чарговы раз даваў сябе спакусіць найбольшаму лідскаму інтэлектуалісту Масьлінскаму.

Нейкага дня былі ў Лідзе ўсе трое. Нажаль аказалася, што чацвёра. Утраіх дамовіліся, што паедзем пад Бастуны да такой панны Багдзевіч. Была гэта вельмі прыгожая панна, толькі яшчэ смаркатая: на добрыя чатыры класы малодшая за мяне. Здаецца, што я прыйшоўся ёй да густу, бо даходзілі да мяне чуткі пра нейкія нават сваркі з нейкай іншай чацвёртакласніцай за мяне. Прыдуркаватае пачуццё і збянтэжанасць, і прыкрасць, і прыемнасць. Першае: што такая смаркатая, другое: што я як бы быў мёртвым прадметам - не пыталіся ў мяне зусім, што я жадаю. Ну а трэцяе - цалкам зразумелае...

Здаецца, што яна выйшла з тых сварак: была вельмі моцная, забаўная, з круглым тварам, задраным носікам, светлымі валасамі. Не падабалася мне ў той час абсалютна. Наогул не звяртаў на яе ў школе ўвагі. Потым пры нейкай аказіі мімаходам буркнула нешта на тэму: можа б таварышы, прыехалі да нас. Мы прыгожа падзякавалі і забыліся.

Цяпер ні з таго ні з сяго сабраліся ашчасліўціць Галіну (так называлася, зрэшты вельмі трапна) сваім візітам. Дамовіліся за пару дзён наперад, я спецыяльна прыехаў з Банева, Стах - з Мальгоў. Спатыкаемся са Шрэдарам.

- Пайшлі, бо не паспеем на цягнік.

- Які цягнік?

- Ну да Бастун.

- Якіх яшчэ Бастун?

- Ну да Галіны...

- Не ведаю ніякай Галіны. Выматвайцеся!

Нахабна пасміхаецца. Я быў раз'юшаны. Найахвотней урэзаў бы яму па той губе.

- Ну бывайце, хлопцы! - з крытынскай усмешкай выцягвае да нас рукі. Мы не падаём сваім. Смяецца здзекліва, ідзе назад. Там яго чакае з ухмылкай ад вуха да вуха ... канешне Масьлінскі.

Ужо не памятаю чаму, але дэзертырства Шрэдара страшна нам усё пакілбасіла. Можа быць грошы мелі быць ад яго? Не памятаю, не памятаю. Паглядзелі адзін на аднаго са Стахам, і той пагляд упэўніў нас, што нашая пастанова нязломная.

Бягом кінуліся да акенца. Бастуны - першая станцыя на Вільню. Паспелі купіць білет - на астатнія грошыкі - і ўскочыць у цягнік.

Хоць як называецца той маёнтак, здаецца Янавым. У Бастунах распытваем пра дарогу. Далёка. Ідзём, ідзём, змярканне падцягвае. Змучаныя. Дадаём

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POLWIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

сабе настрою. Двор, сам разумееш. Дадуць нам спачын. Перад тым. звычайная рэч, вячэра Курачка, дамашняя вяндліна. Голад нам сціскае кішкі ад тых размоваў, а мы адзін другому на злосць пра тыя смакоцці. Блудзім, вяртаемся. Ужо вечар, калі спатканы мужык на пытанне пра Янаў паказвае рукой на купу старадрэвін. Штурхаем адзін аднаго ў бокі, але ж Галіна ўсцешыцца. Гэта, значыць Стах, мяне штурхае, Нібы гэты я маю той шанец.

Уваходзім, сабакі да нас. Цёмны прысадзісты дом. Цёмна ў вокнах. Нешта кепска выглядае. Пачынаем стукацца. Стах стукаецца, а я адбіваюся ад сабак, якія штурмуюць нас з падворка.

Доўга, доўга нічога, потым святло ў акне. Нас упускаюць. У прасторнай пустой хаце з малымі аконцамі яе мосць з газавай лямпай

- Чаго?

Халерна цяжкі адказ. Стах як больш адважны:

- Мы таварышы Галіны. Ішлі тут і вырашылі па дарозе адведаць.

Яе мосць, надзьмутая далей, нават яшчэ больш, доўга думае. Нарэшце вымаўляе:

- Галіна спіць.

Я ўжо гатовы развітвацца, але Стах яшчэ ўталкоўвае. Яе маць нарэшце ласкава згаджаецца: кажа нейкай старшай бабе адвесці нас у гумно.

Нам так кепска, што ўпадаем у вясельны гумор. Скачам па нягеглым сене, рыкаем са смеху. Дамашняя вяндліна - нагадваю Стаху. Дамашняя Галіна - парыруе. Рыкаем на ўсё гумно і, скруціўшыся з голаду, засынаем.

Прачынаемся рана і адразу пачынаем спрачацца: як адпомсціць за такі прыём? Доўга сварымся, а потым выбіраем найдурнейшы варыянт: паціху адтуль уцячы. І ў Ліду.

Так і зрабілі. Было з трыццаць кіламетраў. Ані граша за душой. Была, зрэшты, нядзеля, усе крамкі замкнёныя. Па дарозе адзіны падмацунак мелі адведванне касцёла ў Жырмунах. Стах цвердзіў, што касцёл аж з 1875 года. Я быў упэўнены, што з 1900.[1] Пасварыліся трохі... На разагрэў спявалі на паўтара галасы несмяротны "Візіт вартавога". На паўтара, бо толькі ў некалькіх месцах Стах цягнуў на тэрцыю ніжэй, увесь астатні час гарлапанілі ў унісон.

Праз 26 гадоў, у Ольштыне, давялося мне адказваць за той дурны выбрык. Пасля маёй лекцыі пра Амерыку злавіла мяне мажная светлая бландзінка:

- Як жа так можна было! Каб хоць слоўца пакінулі. Пасварылася з маці, а як вы уцяклі, мусіла прызнаць яе рацыю, прыстойныя кавалеры так не робяць...

Яна ніяк не змянілася, падалася мне нават трохі прыгажэйшай. Гэта такая наша паўночна-ўсходняя раса. Такія высокія, мажныя бландзінкі з задранымі носікамі і круглымі тварамі. Як залатыя ранеты і тыя сапраўдныя коксы проста з дрэва сарваныя - трохі церпкія, толькі зімой набіраюцца смаку. А пад Вялікдзень і нават у траўні - непараўнальныя...

**Варшава ў перы раз**

Тым часам прыйшоў для мяне час ад'езду. Яшчэ зімой я сабраўся ў палітэхніку - на хімію, у Варшаву. Паколькі трохі баяўся матэматыкі, бацькі пастанавілі выпхнуць мяне па паўтара месяцы раней, на падрыхтоўчы курс. Было нешта такое, арганізаванае палітэхнічным Братняком (былая студэнцкая арганізацыя "Братняя дапамога студэнтаў", *рэд.)*

Прыехаў з чатырыстамі злотымі. Павінна было мне гэтага хапіць на ўвесь побыт аж да экзаменаў і на дарогу назад. Размясціўся я ў велізарным Акадэмічным Доме на плошчы Нарутовіча. Яго нядаўна скончылі, і ён зрабіў на мяне каласальнае ўражанне.

Пасяліўся ў чатырохмесным пакоі недзе на сёмым ці шостым паверсе. Акно выходзіла ў глыбокую студню падворка. Звычаі жыхароў падаваліся мне дзіўнымі, як звычаі цалкам ізаляванага племені індзейцаў.

Вечарамі адбываліся, напрыклад, такія забавы: сядзім, намагаемся, прытвараемся, што вучымся. Цёмна. Раптам у падворку гук як ад гранаты, але такі весялейшы. Кідаемся да акна. Загараецца святло на ўсіх паветрах. Пачынаюцца здагадкі: хто гэта? Ведаю, ведаю, не выдай, гэта той з восьмага, бачыў як адчыняў акно.

Пагарлапаняць і вяртаюцца ў пакоі. Вокны гаснуць хвіліна цішыні, і зноў - бэнц! Зноў галдзёж. Пасля некалькіх такіх наваротаў людзі вар'яцеюць, крычаць як істэрычкі.

А па-просту нейкі жартаўнік праз пэўны час кідае з акна пустую бутэльку.

Дом быў выключна мужчынскі. Але ўжо наступнага дня спаткаў на калідоры маладую, нябрыдкую дзяўчыну ў халаце. У пакоі пачалі рагатаць, калі папытаўся, што гэта за таварышка. Аказалася што гэта "таварышка" павярховага прыбіральшчыка, што жыве з ім і пры аказіі абслугоўвае таварышаў. Трэба прызнаць, рабіла яна гэта сумленна і часам, у адносінах да небагатых, бясплатна.

На курсе за тое ішло цяжка. Хадзіў на тую праклятую матэматыку. Мы сядзелі ў нейкай зале ў "самой" палітэхніцы. На дошцы малады чалавек пісаў доўгія рады матэматычных формул. Нічога з тога ўва мне не трымалася. Здаецца, у сёмым класе наш Калясон два ўрокі прысвяціў інтэгралам і дыферэнцыялам, Трэба ж было здарыцца такому няшчасцю, што я якраз хварэў грыпам. Калясон больш да таго не вяртаўся, відаць і для яго тэрыторыя тая была напэўная, таму я спакойна перабраўся цераз сёмы і восьмы класы, не

[1] На самай справе касцёл Адшукання Святога Крыжа ў Жырмунах пабудаваны ў 1788-89 гадах. У 1939 годзе на касцёле была ўстаноўлена юбілейная шыльда да 150-годдзя касцёла. На момант наведвання касцёла нашымі героямі шыльды яшчэ не было. У 1989 годзе там устаноўлена другая юбілейная шыльда ўжо да 200-годдзя святыні.

маючы пра тое разумення.

А тут усе мелі больш, чым разуменне. Калі я глядзеў вылупіўшыся на дошку, як цяля на маляваныя вароты, суседзі справа і злева выпісвалі ланцужкі лічбаў, аж ў іх з-пад пёраў фантаны пырскалі. Кепска тут пачуваўся, не ў сваёй талерцы.

Але зрэшты не гэта аказалася вырашальным. Аднак, пакуль дойдзем да канца - яшчэ дзве дэталі.

Спаткаў абодвух Здановічаў. Таксама ішлі на палітэхніку, але пачуваліся на шмат лепей. Як звычайна былі ў настроях сарвігалоў. Прыйшлі да мяне ў акадэмічку. Мы залезлі на дах, глядзелі на Варшаву. Дах быў аточаны цагляным бар'ерам можа метр вышыні і паўметра - або трохі болей - шырыні. Перахіляліся, глядзелі ўніз. Падавалася д'ябальскі далёка да той зямлі. Не гледзячы на гэта мы, як адзін чалавек, узлезлі на тую бюлюстраду і пайшлі ў падарожжа вакол дому.

Усё было звычайным. Ні адзін з нас не цярпеў на кружэнне галавы. Даходзілі ўжо да павароту, калі Бронак амаль летуценна ўздыхнуў. Тут бы на ровары.

І ў тую хвілю ўсе пасыпаліся на дах. Хапіла праз секунду ўявіць сябе на ровары на краі той пропасці, каб ступні і калені агарнула нешта, як бы дрыжыкі.

Я хадзіў на той дах часта, пропасць прыцягвала. Быў гэта тады найвышэйшы дом у Варшаве. Папраўдзе від адтуль не цікавы - бо з аднаго боку манатонныя дахі цэнтра (сяродмесця), а з другога макатоўскія палі - але заўсёды...

Аднаго дня спаткаў на даху трох маладых людзей, якія размаўлялі між сабой па-французску. Страшна яны мне заімпанавалі. Першыя чужаземцы майго пакалення. Я ўмяшаўся ў размову са сваімі рэшткамі школьнай французскай. Неяк дамовіліся. Былі гэта два студэнты - немцы і адзін француз. Спаткаліся ў вандроўцы падчас канікулаў па Балгарыі і разам вярталіся па дамах.

Распытваў іх пра тое і гэтае. Паказваў здымкі з Банева. Потым зайшло ў нас пра палітыку. Было гэта лета 1930 года. Перыяд чарговых выбараў у Германіі: прачытаў у "Варшаўскім кур'еры" прагнозы, хацеў спраўдзіць.

Абодва немцы (вельмі мілыя, такія нейкія звычайныя у супрацьвагу да француза, які быў неяк "нацягнуты") далі мне вычарпальны адказ. На іх думку вялікія шансы меў каталіцкі Цэнтр. Таксама сацыялдэмакраты. Таксама нямецкія нацыяналісты. Яшчэ нейкая такая партыя была названа ў "Кур'еры". Не адразу сабе яе прыгадаў. Абодва згодна і пагардліва махнулі рукамі:

- Нацыянал-сацыялісты? Ніякіх шанцаў. Акрамя таго гэты іхні фюрар - звычайны шарлатан.

З глыбокім перакананнем падтакваў. Зрэшты, нічым мне тая партыя не абходзіла, як і ўсе іншыя. Хацелася па-простy парысавацца перад замежнікамі, што, нягледзячы на тое, што паляк, знаёмы з іхняй краінай і чуў нават пра нейкіх нацыянал-сацыялістаў.

**Правал**

Як ужо гаварылася, не гэта было вырашальным. Вырашыў ўсе прэфенанс.

У маім пакоі жыло яшчэ пару студэнтаў. Сярод іншых нейкі Піскар, сваяк генерала з тым жа прозвішчам.

Вельмі хутка пачалі рэзацца ў прэферанс. І так, як мне тады не шанцавала, не здаралася такога ніколі. Я загразаў што раз далей, бо рэч простая, спрабаваў адыграцца. У кароткі адрэзак прасадзіў некалькі сот злотых. Канешне, не ўсё на той час рэгуляваў, штонішто заставалася на маім сумленні, вельмі яго абцяжарваючы.

Прыціснуты да сцяны клопатамі праферанснымі, нічога не разбіраючыся ў інтэгралах і дыферэнцыялах, я марнеў з дня на дзень. І раптам атрымаў ліст ад Шрэдара. Быў звычайны. Шрэдар пісаў, што паступае на юрыдычны, што да экзаменаў не прыступаў, што сядзіць у Вільні і нудзіцца.

Раптам мяне асяніла. У Вільню, у Вільню, на паланістыку! Што мне гаварыў прафесар Якса-Быкоўскі? Ніякіх дыферэнцыялаў. Ніякіх прэферансаў!

З гарачкі ўзяўся за абдумванне "плана гульні". Уцячы адгэтуль, ад тых карцёжных даўгоў! Так, але такім спосабам, каб бацькі...

Выехаць павінен ужо, цяпер... Праядаю апошнія злотыя, а доўг нарастае, як гара. Але бацькі павінны мець тлумачэнне. Што, што? Што заваліў экзамен, іншае іх бы не супакоіла, а з-за чаго. Як салгаць, найважнейшыя дэталі, дакладнасць у дробязях. Заваліцца на нечым, што вымагае не працы, а спецыяльных здольнасцяў. Не на матэматыцы, бо бацька будзе гаварыць, што не вучыўся.

Ужо ведаю, на малюнку. А тое, што паняцця не маю пра малюнак - то прэтэнзіі да Пана Бога.

Такім чынам я сам стварыў сваю першую перажытую і напісаную аповесць. Купіў пяць канвертаў, наклеіў пяць мрак, напісаў пяць лістоў. Усе да бацькоў.

У першым пісаў, што вучуся, але ідзе з цяжкасцямі. У другім, што таксама, але яшчэ з большымі. У трэцім, што узровень наогул незвычайна высокі, і ўсе спадзяюцца на пякельны конкурс. У чацвёртым, што збіраюся на экзамен, і што мне рукі трасуцца ад хвалявання.

Лісты тыя ўручыў аднаму парадачнаму таварышу ўжо заклееныя з просьбай, каб у аднпаведныя і ў адпаведнай чарговасці кідаў іх у паштовую скрынку...

Сам паціху зліквідаваў свае справы ў пакоі. Папросту змыўся, не ўрэгуляваўшы большасці даўгоў. Між іншымі, таму ж Піскару. Сустракаў пазней яго прозвішча ў "Проста з моста", а потым ў эміgranцкай прэсе.

Змыўся ў Вільню там кінуў пяты ліст, апошні. Пісаў дрыжачай рукой, што экзамен заваліў, бо на малюнку казалі мне памаляваць матор Дызеля. Выбраў тую дэталь не падумаўшы. Хіба цяжка было праверыць, што на малюнку малююцца галавы Апалона, а

не маторы. Але і гэта неяк удалося.

Бацькі трымаліся вельмі парадачна. Не пыталіся пра дэталі, каб не нерваваць свайго ўлюбёнца.

**Вільня**

Пісаў далей, што, перапужаны правалам, я выехаў у Вільню і там у апошнюю хвілю запісаўся на паланістыку (польская мова і літаратура).

Канешне выехаў, але на пару тыдняў раней. Пасяліўся ў Шрэдара.

Яго маці з айчымам перабраліся ў Вільню. На вуліцы Снежнай, за чыгуначнымі каляямі, у квартале, які называўся Новы Свет, жыла яго бабка. Мела там домік з садзікам. Здаровы розум пашэптвае мне, што гэта там прымаў мяне Лёляк. Але, можа, гэта было яшчэ дзе-небудзь.

Вільня з гэтага верасня захапіла мяне, але і трохі засмуціла. Я быў без граша, таму акрэс забаваў быў невялікі. Хадзілі са Шрэдарам па горадзе. Ён пазнаёміў мяне з некалькімі таварышамі. Вучыўся тут раней перад выездам з Вільні ў гімназіі езуітаў. Памятаю напрыклад сям'ю Гаўвальдтаў.

Было іх трое братоў. Павінны былі мець бацькоў-арыгіналаў, бо ўсе трое атрымалі несучасныя імёны: Ільдэфонс, Геліадор, Сатурнін. Былі здаровыя бландыны, з акруглымі, мяккімі рысамі, незвычайна моцныя. Мелі яшчэ сястру, названую выключна звычайна: Ванда, таксама бландзінка, таксама з мілымі, некалькі медзведзяватымі рысамі і таксама нялюдска моцная. Вельмі мне падабалася, сёння гэта цалкам дакладна бачу. Жылі яны ў памяшканні, пэўна службовым, бо пакоі былі нейкія такія, як жаўнеры ў шарэнзе. Была там калекцыя матылёў. Здаецца, дзеда Гоўвальдта, сібірака. Ба, гэта была калекцыя! Адна сям'я невялікіх рудых матылёў займала цэлую шафу, дзе як кніжкі, стаялі ў ветлівым парадку пачачкі з матылямі. Тут толькі я з'арыентаваўся у памерах той маёй, якая ўся змяшчалася ў двух пачках. Гулялі таксама ў пінг-понг. Наладжвалі лакальныя турніры. Ванду было вельмі цяжка перамагчы. Шрэдар гуляў інтэлектуальна. Я браў ворагаў спрытам і нервамі: лепей пераносіў няўдачы, чым напрыклад Лёляк, які пасля доўгай роўнай барацьбы, страціўшы, напрыклад, шарык - ламаўся і імгненна прайграваў, згодна з найлепшай нацыянальнай традыцыяй. Аглядаў універсітэт, як у Баневе, улюбіўся ў яго адразу. Той дзядзінец Пятра Скаргі, варты найпрыгажэйшых італьянскіх гарадоў. Тыя наступныя будынкі: калідоры з магутнымі гатычнымі скляпеннямі. Аркі. Пераходы. Бібліятэка з вежай старай абсерваторыі, насупраць так зв. Напалеонаўскага палаца.

Калі мінулі тэрміны фатальных экзаменаў у палітэхніцы, я развітаўся са Шрэдарам. Не без страху ехаў я ў Банева. Як гаворыцца, зноў мне прыпякло. Пару тыдняў я правёў у цудоўнай, непаўторнай прыгажосці наднёманскай восені. Былі яшчэ грыбы, аднак ужо толькі рыжыкі, апенькі, зялёнкі. Трохі швэндаўся ў Дакудава. А потым зноў Каштан і Мінойты.

**УСБ**
**(Універсітэт Стэфана Баторыя)**

Калі ў верасні я прыехаў у Вільню, Шрэдар зубрыў права. Ён па-просту не пайшоў на экзамены ад найзвычайнейшай пякоты. Прабалаганіў год без ніякага істотнага повадy. Я адразу на яго ўсеўся, каб ішоў са мной на паланістыку. Ён намагаўся зацягнуць мяне на права. Мы змагаліся нейкі час. Канешне, я пацягнуў яго за сабой.

Пайшлі адразу на ўрачыстую інаўгурацыю. Шрэдар павучаў мяне дэталям цырымоніі. Не скажу, зрабіла на мяне ўражанне. Дэканскія тогі, а асабліва галаўныя ўборы, шалікі і рапіры студэнцкіх карпарацый запалі глыбока ва ўражлівую душу маладзёна. Асабліва імпанавалі мне лісіныя хвасты, прычэпленыя да брудных, плоскіх, карпаранцкіх шапачак. Было ў гэтым нешта абсурднае, а што найхутчэй звяртае ўвагу маладзёна, чым абсурд?

Потым пайшлі на першую лекцыю паланістыкі. Доўга не мог разабрацца з тымі лекцыямі. Не вядома было, на што належыць хадзіць, на што - не. Шрэдар развязваў справу радыкальна: па-просту не хадзіў. У той першы год я цягаў яго за сабой на той ці іншы цыкл лекцый.

Першае ўражанне - гэта было незвычайнае мноства прыгожых дзяўчат. Я сядзеў па-просту, як баран, сам не ведаючы, у каторую закахацца. Выпадкова мы патрапілі на факультэт, які не высока ставіўся ў тагачаснай жыццёвай герархіі, на многа ніжэй, чым на прыклад, праўны (юрыдычны). Ішлі сюды пераважна або панны, якія хацелі выйсці замуж, або паэты-пачаткоўцы. Мы з Лёлькам належалі да той другой, менш шматлікай катэгорыі. Паненак на выданні было многа-многа больш. На што пералічваць іх усіх? Як перадаць іх нетрывалую абаяльнасць? Такая Ірэна Тапчэўская, высокая, смуглая, светлапопельная бландынка з рысамі багіні Батычэлі. Такая Ірэна Карчэўская, шатэнка сярэдняга росту, з тварам не толькі правільным, але і абпрамененым нечым цёплым, блізкім, зычлівым. Такая Ганначка Згерская, якая з'явілася на год пазней, драбнюткая бландынка з тварам французскай маркізы. Такая Ірэна Чакулёніс, найбольш безнадзейная для майго кахання.

Найбольш сярод іх было Ірэн. Не выпадкова. Праз нейкі час, як вядома, цераз пэўны грамадскі асяродак праходзіць мода на нейкае імя. І апошнія гады перад першай вайной вельмі моднымі былі Ірэны. Потым прыйшлі Крыстыны і Барбары. Потым Галіны, быў час Еваў, цяпер дабраліся да Агат і Малгажат калі ўжо так пайшло, па імені, калі яно масавае, можна меркаваць пра век...

**Дыяна**

З усіх дзяўчат найбольш падабалася мне Ірэна О. Была гэта, канешне, адна з найпрыгажэйшых жанчын, якіх бачыў у жыцці. Высокая, з валасамі шэра-каштанавымі, якія спадалі на плечы, з безза-

ганным профілем, з прыгожымі блакітнымі вачамі, з маленькім прамым носікам, з прыгожымі губамі і дасканалым падбародкам...

Калі ўваходзіла ў залу, я скамянеў. Леан таксама. Мы ўселіся на верхніх лаўках, каб мець яе перад вачыма. Аказалася ў канцы, што гэта паланістка з трэцяга курсу. І без таго я не меў ніякіх шанцаў, а цяпер гэтая дыстанцыя канчаткова мяне зламала. Глядзеў на яе, дзівіўся ёй і, як звычайна, не пакідаў сабе найменшай надзеі. Было гэта пачуццё значна бліжэйшае да ўлюблёнасці ў твор мастацтва, чым зямное каханне.

Праз колькі дзён такога нямога захаплення нарадзіў верш. Называўся ён "Дыяна". Была ў ім мова пра прыгожую ді ганаровую багіню палявання, якая часам паказваецца людскім вачам, што ўспрымаюць яе як нешта прыгожае і недаступнае. Адкуль я меў ведаць, што тая багіня прыгнечана сваёй боскай недаступнасцю, што наогул ёй не падабаюцца любезны Зеўс, вычурны Апалон ці вульгарны Марс?

Напісаў вершык. Паклаў у канверт, заадрасаваў да Ірэны О. Заклеіў і прыйшоў у Кола паланістаў. На той час быў гэта цёмны, высокі пакой, які выходзіў на Замкавую. Былі тут часопісы, кніжкі, фатэлі. На паліцы ў куце нешта накшталт паштовай скрынкі. Паклаў ліст, канешне не падпісаны, сеў. О, дзіва, дзверы адчыніліся і ўваходзіць Ірэна з таварышкай. Сэрца ў мяне замерла. Пакруцілася па пакоі, зірнула на паліцу, схапіла ліст. Нікога акрамя мяне і іх не было. Засланіўся газетай, увесь чырвоны. Чытала хвіліну, "Паглядзі!" - гукнула. Чыталі цяпер удваіх, каментуючы з ажыўленнем. Не мог дачакацца, пакуль пойдуць.

Пазнаёміўся з ёю праз два гады. Я быў на трэцім курсе, яна - таксама на трэцім. Як звыкла, круціліся каля яе паклоннікі, сярод якіх я не меў ніякіх шанцаў. На гэты раз быў малады скульптар, высокі, прыгожы хлопец з вялікім носам, вялікім барэтам (належаў да брацтва Святога Лукі, здаецца) і што горш з вялікай ваўкарэзам. Быў нават у яе дома. Скульптар сядзеў і апавяшчаў насавым голасам розныя максімы. Смялялася, ледзь не лопалася. Былі нават на нейкай суботцы. Са скульптарам. Пакінуў яе ў спакоі.

Праз два гады, я быў ужо пасля магістратуры. Яна была на трэцім курсе. Нічога не змянілася, прыгожая, як заўсёды. Аднаго дня, ад'язджаючы на адзін дзень ў Банева, мы спаткаліся на вуліцы. Узнёслы ад уражання, што скончыўся вялікі жыццёвы этап, смутны, рознаякі, што гэта вяршыня маладосці (тады здавалася мне нават, што я ўжо даўно на вяршыні...) сказаў ёй:

- Ці памятаеш такі вершык з 1930 году, пакінуты ў Коле? Называўся "Дыяна".

Памятала дасканала. Вельмі ажывілася.

- Ці ведаеш, хто гэта напісаў?

- Не маю разумення.

Пакланіўся. Паведаміў:

- Страшна ў цябе закахаўся. І так баяўся, так баяўся...

Была здзіўленая, змешаная, хацела нешта сказаць, не сказала нічога.

Я паехаў.

У Баневе было буйнае лета. Я патанаў з галавой у квецені смолак (леўконій). Швэндаўся па ваколіцы, захоплены ўласнай свабодай, тым летам, самотнасцю.

Падчас аднаго са з'яўленняў у Дакудаве ўручылі мне ліст у дзіўным бранзаватым, плеценым канверце.

Гэта было ад яе. Пісала, што мае словы аказалі на яе велізарнае ўражанне, што цэлую ноч над тым думала і што прыйшла да высновы, што мяне кахае.

Цяпер наступіла мая чарга быць ашаломленым. І я думаў цяпер цэлую ноч. Дамінавала пачуццё трыумфу. Сама О., тая прыгажосць, якая не мела сабе роўных ва ўсёй Вільні, пісала мне пра сваё каханне.

Адпісаў ёй адразу. Таксама з гарачым выбухам і запэўніваннямі, што тое, што адчуваў чатыры гады назад, не прамінула... Атрымаў новы ліст у кававым канверце. Выслаў... Атрымаў...

Праз пару тыдняў справа ўласна спынілася на адным: калі дата шлюбу? Але калі выслаў чарговы ліст, усвядоміў сабе раптам, што гэта абазначае.

Абазначала гэта перш за ўсё, што гэтая высокая, прыгожая і халодная дзяўчына, цалкам мне не вядомая, застанецца са мной да канца жыцця. Агарнула мяне дзіўнае ўзрушэнне і страх. Захацеў прааналізаваць свае пачуцці. Пачціва мусіў сцвердзіць, што няма ў тым кахання. Захапленне, здзіўленне, пачуццё заспакоенага ўласнага кахання, і ўсяго. Кахання звычайнага няма.

Страшна змярцвеў. Лаяў сам сябе, што першы мой ліст быў такі падманны. Страх і сорам, што падманваю мілую і перш за ўсё нічым не вінную дзяўчыну. Пацягнула мяне зноў да пісання. Выслаў новае прызнанне. На гэты раз брутальнае ў змесце, хоць асцярожнае ў форме і праўдзівае.

Не адпісала.

Праз пару год даведаўся, што яна выйшла замуж. І што, падобна, назаўтра па шлюбе кінула мужа.

Яшчэ праз колькі год, але якіх! У 45-м я з'явіўся ў зальцы кракаўскіх літаратараў на Крупнічай. Быў у брудным мундзіры капітана і жудасных "керзавых" боцішчах. Прамаўляў да нейкай трыццаткі людзей. Я, калі гавару, люблю глядзець на нейкаа канкрэтнага слухача. Тым разам угледзеўся ў яскрава расфарбаваную, не брыдкую, але досыць звычайную жанчыну ў першым радзе. Усміхалася, і гэта мне дапамагала гаварыць. Здаецца такім спосабам пацвярджала, што я маю рацыю.

Пасля завяршэння падышла да мяне.

- Пан, мяне не пазнае?

Яна не выглядала ні стара, ні брыдка. Толькі ярка і звычайна. Цяпер я ўжо ведаю, што багіні не несмяротныя. Ведаю нават іхні гранічны ўзрост: пятнаццаць гадоў...

**Прафесары (выкладчыкі)**

Пяройдзем аднак да спраў больш звычайных. Мы са Шрэдарам пасяліліся ў сумесным маленькім пакойчыку пры габрэйскай сям'і, недалёка ад яго бабкі, на вуліцы Гандлёвай. Пакойчык быў сапраўды маленькі: акно, пад акном столік, пры сценах два ложкі, за

адным шафа, за другім печ. Кропка.

Квартал быў звычайны. У нашым доме, у адна-павярховай прыбудове, падобнай на краму, але якая канешне не была ніякай крамай, гарэла заўсёды такое ружовае святло. Людзі заходзілі проста з вуліцы. Я доўга не ведаў, што гэта такое. Потым даведаўся, але не скажу, бо баюся...

Такіх "невымоўных" памяшканняў у ваколіцы было шмат. Мы не звярталі на гэта асаблівай увагі. Універсітэт захапіў нас цалкам.

З большага, навучаны Шрэдарам і некаторымі старэйшымі, спасцігаў мастацтва ацэнкі выкладчыкаў і лекцый. У 1930 годзе паланістыку ў УСБ прыгнятала масіўная індывідуальнасць Пігоня. Мы былі на яго семінары, мусілі хадзіць і на лекцыі. Не было гэта зрэшты такім ужо цяжкім, умеў іх рабіць цікавымі. Трохі з-за гэтага, трохі са страху перад ім мы не толькі бывалі на лекцыях, але і слухалі сёе-тое, а не толькі размаўлялі з таварышкамі.  Як звычайна, было гэта нешта з Міцкеіча.

Пігонь у палове наступнага года быў пераведзены ў Кракаў, бадай што на кафедру пасля Каленбаха. Я ў яго семінары адбыў чатыры трыместры (навучальны год дзяліўся не на два, а па тры семестры, *рэд.*). Маю не шмат успамінаў з тога часу. Ён падаваўся нам усім вельмі выбітным, трымаўся з слухачамі роўна, з пачуццём уласнай годнасці без разліваў чуласці, але і без чапляння.

Як звыкла, Норвіда выкладаў дацэнт Станіслаў Цывінскі. Каларытная і нешчаслівая постаць. Аднак заўзяты і моцна прасякнуты сваёй тэмай аратар. На кафедры крычаў, махаў рукамі, плакаў, літаральна. Мы мелі да яго шмат стыхійнай сімпатыі, хутчэй з-за тога плачу, чым з-за Норвіда, да якога я не адчуваў ніякага пакланення.

Цывінскага чакаў трагічны лёс. Акрамя лекцый ён пісаў у мясцовы, зрэшты вельмі слабы, орган эндэкаў (нацыянальных дэмакратаў). "Дзённік Віленскі". З-за гэтага, напэўна, не мог атрымаць кафедру. Праз некалькі год дазволіў сабе ў адным са сваіх артыкулаў досыць абразлівы намёк на Пілсудскага, зрэшты моцна завуаляваны. Ніхто гэтага не заўважыў. Але праз пару дзён нейкая газета (здаецца варшаўская) з абурэннем намёк расшыфравала. Пасля гэтага група афіцэраў віленскай залогі напала на Цывінскага і збіла яго да паўсмерці. Ён пры гэтым страціў вока. Дробны дадатковы матэрыял да гісторыі эпохі, якая на думку асобных мудрацоў, не была фашызмам. Канешне да лекцый ён ужо не вярнуўся.

Быў яшчэ Казімір Кальбушэўскі. Тоўсты, невысокі з акруглым тварам, малымі вочкамі, носам - бульбінай, чытаў лекцыі па літаратуры XVI-XVII стагоддзяў. Яны не належалі да найбольш "наведваных". Пасля ад'езду Пігоня Кальбушэўскі прыняў яго семінар і на працягу двух трыместраў цягнуў яго, да агульнага задавальнення, не перапрацоўваючы.

Прызнаюся, што на шмат больш за літаратуру спадабалася мне мовазнаўства. Адчуваў сябе тут больш надзейна. Былі тут нейкія аб'ектыўныя факты, нейкія агульныя правілы, нешта навуковае. А там ва ўсёй той літаратуры, па-простаму калекцыя меркаванняў розных прыватных асоб аб гісторыі. Нічога навуковага, затое шмат нудоты. Тлумачэнне твору нацягнутае. Хоць і мае літаратурныя пачаткі ў той перыяд былі больш, чым бедныя, тым не менш я адчуваў фальш тых тлумачэнняў, адчуваў што увесь той творца, пра якога ішла размова, тварыў пад уплывам цалкам іншых пабуджэнняў, чым тыя, якія так упарта пхалі нам на вочы гісторыкі літаратуры.

Зусім іншые мовазнаўцы. Прафесар Атрэмбскі, на прыклад, сухі маламоўны чалавек, ціхім голасам прамаўляў некалькі вобразаў, потым пісаў на дошцы пару слоў і нават формул, амаль матэматычных, і раптам перад чалавекам адкрывалася ўся перспектыва, моц слоўных скарбаў паўставала адкрыццём, моўная машына пачынала іграць і нават з той машыны рабілася паэзія. Альбо проза і то сучасная.

Ужо на другім хіба годзе Атрэмбскі гаварыў нам пра спалаталізаваныя пабочнасці і не, потым паведаміў "на прыклад", адвярнуўся да дошкі і напісаў: *dziura - dura*, або *dziupla - dupa*.

Замерлі, нас пяцёра і сорак таварышак. Атрэмбскі, увесь чырвоны, ні слова ўжо не гаворачы, сабраў кніжкі са стала і пайшоў, вачэй не падымаючы. Мы ўсе таксама былі чырвоныя і маўклівыя. Такія гэта былі часы. Эх, сляза круціцца...

**Адраджэнне і т.д.**

Былі яшчэ іншыя лекцыі - гісторыя, філасофія. Але не зручна было імі займацца. Я трапіў ва ўніверсітэт у перыяд, калі якраз расцвітала ў ім незвычайна буйнае акадэмічнае жыццё..

Сам рэестр дзейных, а не толькі існых, арганізацый імпанаваў. Пра карпарацыі распавяду пазней. Было іх у Вільні каля тузіна. Акрамя таго былі навуковыя гурткі, часам вельмі моцныя, як, на прыклад, праўнікаў (юрыстаў) ці медыкаў. Кожны факультэт, кожная спецыяльнасць мелі свой гурток. Студэнты з прыгожых мастацтваў мелі нават два. Адзін Брацтва Святога Лукі, другі яшчэ нейкі, ужо не памятаю. Быў Клуб валацугаў, маляўнічае ўтварэнне, створаны як супрацьвага карпарацыйнага стылю жыцця, задуманы цікава і, напэўна, слушна, які меў пару гадоў моцнага росквіту. Пазней, аднак, разам з усім універсітэцкім жыццём змарнеў. Былі палітычныя арганізацыі: усяпольскай моладзі, перш за ўсё. Але таксама СНСМ (Саюз незалежнай сацыялістычнай моладзі), досыць цесна звязаны з ППС (Польская сацыялістычнай партыяй), а наогул не вельмі шматлікі.

Таксама СПДМ (Саюз польскай дэмакратычнай моладзі, які прадстаўляў варшаўскіх ЗЗЗ-аў, але ў Вільні значна больш левы.

Заслугоўвае ён на згадку хоць бы з погляду на вершык Ежы Жаромскага з такім прыгожым паўторам:

*Нічога не паможа,*
*Зэт, зэт, зэт,*
*Вострым ножык,*
*Зэт, зэт, зэт.*

Былі таксама спробы стварэння нейкага саюза моладзі строга санацыйнай. Не памятаю дэталяў. Мусілі быць дрэнныя. Каталікі таксама буйна арганізоўваліся. Былі садаліцы мужчынскія і жаночыя (рэлігійныя брацтвы і сястрынствы). Былі нарэшце дзве паралельныя каталіцкія ідэалагічныя арганізацыі, якія трохі канкуравалі паміж сабой - блізкія санацыі Адраджэння і блізкія нацыянальнай дэмакратыі Ювентуса Хрысціяна. З іхняй ініцыятывы праз пару гадоў паўстаў ПАКТ, г.зн. Паразуменне акадэмічных каталіцкіх таварыстваў. Паразуменне не было поўным, бо Адраджэнне, як мне здаецца, засталося на ўзбочыне.

Пару слоў на гэтую тэму. Шмат гаворыцца пра "віленскую групу", ці так зв. "групу Дамбінскага", маючы на думцы групу левую, у будучым камуністычную. Менш ужо пра тое, што вялікая частка той групы на чале з Дамбінскім выйшла (даслоўна до выступіла) з Адраджэння. Не будзем забываць аднак, што ў тым жа Адраджэнні таварышамі Дамбінскага былі м.ін. Станіслаў Стома, сённяшні пасол на сойм, прадыр пасольскага клубу "Знак", Антоні Голубеў, чарнабровы гісторык, заяты католік, які трымаўся як мага далей ад пачаткоўцаў літаратараў і т.д. і да т.п.

Людзі, якія былі дражджамі віленскага студэнцкага рэнесансу ў гадах 1928-1935, адыгрываюць сёння значную ролю не толькі ў палітыцы. У вельмі многіх іншых абласцях таксама. Застаецца тэмай для гісторыкаў высвятлення таго выбуху ўраджаю людзей у Вільні тых гадоў, але будзе дастатковым зацытаваць колькі дзесяткаў прозвішчаў маіх універсітэцкіх таварышаў, каб пераканацца, што слова "рэнесанс" ёсць толькі звычайная метафара, не гіпербала.

Я перажываў у той час вострае нежаданне да рэлігіі, падаграванае Шрэдарам, які ўсё яшчэ не парваў з Франсам, а цяпер нават даследаваў рэчы значна горшыя. Таму Адраджэнне вельмі мне не падабалася. А, не гледзячы на гэта, мусіла быць маляўнічым - так скажу - этнаграфічным. Адбываліся там праз нейкі час так зв. "агапы". Канешне безалкагольныя. Не ведаю як называлі адзін аднаго чальцы абоега полу - "калегі", "браце", "другі" ці як там яшчэ. Пілі на іх (агапах) гарбатку, елі дамашні хруст, спявалі песні таксама і свецкія. Адна мне падабалася: "Павіяны". Асабліва праследаваў мяне яе рэфрэн:

*Павіяны, павіяны. Агу. Агу. Агу!*

Дамбінскі ў Адраджэнні стаўся постаццю цалкам выключнай. Прыстойны выдатны прамоўца, знакаміты розум - адразу досыць кволай арганізацыі надаў размах такі вялікі, што ўжо ў год майго прыбыцця ў Вільню замахвалася яна забраць Братняк з рук эндэкаў (нацыянальных дэмакратаў).

Бо вяршыняй, купалам, альбо, прасцей, дахам тых усіх арганізацый была Братняя дапамога студэнтаў УСБ, ці Братняк.

У прынцыпе гэта была арганізацыя для самадапамогі. На практыцы аднак гэта было больш, чым самакіраванне, была нейкім намеснікам улады, сказаў бы, дзяржаўнай. Тэрыторыяй яе дзейнасці была сталоўка. Так зв "мэнса" ("пліта"), на вуліцы Бакшта, размешчаная там жа акадэмічная бурса, дом адпачынку ў Лягацішках пад Вільняй, Акадэмічны асяродак пры вул. Вялікай - месца "суботак", або танцавальных забаў ці артыстычных імпрэз і т.д. і да т.п.

Братняк апераваў значнымі фундушамі, якія ў ільвінай долі складаліся, на колькі я не мыляюся, са студэнцкіх выплат, што збіраліся напаўмеханічна пры аплаце за навучанне. Былі таксама пэўныя субсідыі дзяржаўныя або ўніверсітэцкія. Для вядзення гэтай узорнай гаспадаркі штогод на вальным сходзе выбіралі кіраўніцтва. І вось якраз гэтыя выбары былі штогадовай пробай палітычных сіл. Былі яны першым этапам вядомасці Дамбінскага.

Справа ў тым, што ўжо праз колькі год ва ўсіх Братняках Польшчы нязменна кіравала Усяпольская моладзь, ці эндэкі. Было гэта не выпадкова, калі возьмем пад увагу: а) "натуральны адбор" студэнтаў, якія былі ў большасці з заможных сямей, б) характар уладных структур Пілсудскага, якія выраслі са збройнага паўстання і абапіраліся на войска і адміністрацыю. Гэтае апошняе выклікала натуральны супраціў у акадэмічнай моладзі. Яе агульнае паходжанне пхала яе перш за ўсё ў шэрагі эндэцкія.

Не будзем забываць пры тым, які гэта быў перыяд. Год 1930, яшчэ пра нацыянальных сацыялістаў гаварылі з пагардлівым маханнем рукі. Яшчэ не было Бярозы, хоць ужо было Бярэсце. Нарэшце не было яшчэ перманентных акадэмічных хваляванняў. Усяпольская Моладзь была яшчэ досыць далёка ад адкрытага фашызму.

Прызнаем аднак: была на найкаротшай да яго дарозе. Трымаючы "ўладу" ва ўніверсітэтах, ужо ўвяла першы "нюрнбергскі закон". У нашым Братняку, напрыклад, не было зусім габрэяў. Яны мелі свой уласны, асобны Братняк. Здаецца, так было і ў іншых вучэльнях. Эндэцкая ўлада мусіла быць досыць моцнай, паколькі, напрыклад, у асобных вучэльнях у Кракаве левая моладзь выходзіла з іх Братнякоў і засноўвала ўласныя, таму што не лічыла магчымай перамогу над эндэкамі на тэрыторыі вучэльні.

І вось на тым фоне, бадай што якраз у 1930 годзе Дамбінскі зарганізаваў антыэндэцкую змову, якая абапіралася на навуковыя гурткі, была падтрымана Адраджэннем і СПДМ, а таксама сакацыйнымі арганізацыямі, і выбары выйграў. Была гэта вялікая сенсацыя агульнапольскага маштабу. Калі я прыйшоў у УСБ, быў ён ужо постаццю, якая дамінавала ў акадэмічным жыцці, якую любілі адны і ненавідзелі другія.

Тая ўласна роля правадыра, "моцнага чалавека", сказалі б сёння: "адзінкі", ужо атачонай пэўным культам, не магла не паўплываць на першы палітычны выбар, які я зрабіў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**Сусветны літоўскі цэнтр садзейнічання навуцы, культуры і адукацыі, г. Каўнас, выпусціў “Словарь возрождённого прусского языка: прусско - русский, русско - прусский”, 488 ст.**




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшла кніга А.А. Мяцельскага “Владельцы старого Несвижа”, 160 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука”, выйшла кніга “Беларусь: страницы истории”. 408 ст. Наклад 2200 асобнікаў.**




**Рэдакцыя часопіса “ARCHE Пачатак”, выдала нумар “Забытае стагоддзе” , 740 ст. Наклад 600 асобнікаў.**




**Віленскі Інстытут беларусістыкі і беластоцкае Беларускае гістарычнае таварыства, выдалі кнігуЭдмундаса Гімжаўскаса “Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы ў 1915 - 1923 гг”, 216 ст.**



**У Менску ў выдавецтве “Элайда”, выйшла кніга В.В. Навасельскага “История Великого Княжества Литовского от рождения до Люблинской унии. Великий князь Миндовг (1236 - 1263)”, 308 ст. Наклад 750 асобнікаў.**



***Уладзімір Жбанаў, “Камандзіровачны”, бронза, г. Ліда, вул Грунвальдская, 1.***
*Здымак Станіслава Судніка.*